Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

№ 1 (52) Студзень 1930

ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ



ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930

# Увага, краязнаўцы!

БССР цяпер перажывае самы напружаны момант соцыялістычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Будуецца шмат новых фабрык і заводаў, на сяле—нябывалы ўздым справы колектывізацыі сельскай гаспадаркі, у культурных установах—інтэнсыўная творчасьць пролетарскай культуры ў дапамогу разьвіцьцю соцыялістычнай гаспадаркі. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі таксама не павінны заставацца ў баку ад новага вялікага ўздыму соцыялістычнага будаўніцтва. Яны павінны не адставаць, а ісьці ў ногу з агульным тэмпам працы па перабудове ўсяго жыцьця на соцыялістычны лад.

Калі гэта яшчэ некаторымі краязнаўчымі організацыямі ня зроблена—яны павінны безадкладна дапасаваць сваю працу да пяцігадовага пляну раёну і акругі, асаблівую ўвагу надаўшы пытаньням вытворчага характару. У першую чаргу павінна быць пастаўлена ўсё тое, што непасрэдна дапамагае соцыялістычнаму будаўніцтву ў раёне, у другую—што ўскосна мае значную карысьць для яго. З рознай аматаршчынай, што засталася ад старога ладу, трэба весьці рашучае змаганьне.

Зразумела, што праца мясцовых краязнаўчых організацый павінна таксама дапамагаць вырашэньню пытаньняў, пастаўленых Цэнтральным Бюро Краязнаўства і інш. навукова-дасьледчымі ўстановамі.

Для ажыўленьня працы і накіраваньня яе па адзіна правільнаму пролетарскаму шляху мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны ня спыняць распачатай самакрытыкі, а пашыраць і паглыбляць яе. Уся праца павінна праходзіць у парадку соцыялістычнага спаборніцтва. Дасягненьні павінны правярацца; абмежаваньне толькі выклікамі зьніжае ідэю спаборніцтва. Посьпехі трэба папулярызаваць праз друк, чаго організацыі ня робяць. Нават аддзел хронікі ў „Нашым Краі“ запаўняецца выпадковым матар‘ялам.

Асаблівую ўвагу ў сваёй дасьледчай працы мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць на вывучэньне колгаснага руху, фабрычна-заводзкіх і саматужна-прамысловых прадпрыемстваў ды на падрыхтоўку да ўдзелу ў організуемай сельска-гаспадарчай і прамысловай выстаўцы. Таксама канечна патрэбна ажывіць слоўнікавую працу, што мае вялікае значэньне ў справе ўкладаньня слоўніка беларускае мовы, якое безадкладна вымагаецца ўрадовымі ўстановамі і ўсёй грамадзкасьцю.

У організацыйным кірунку трэба паклапаціцца пашырэньнем краязнаўчага руху да наяўнасьці краязнаўчых організацый на кожным прадпрыемстве, у кожным сельсавеце, у кожнай школе. У бліжэйшым часе павінны быць праведзены раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі.

Пара рыхтавацца да краязнаўчых экскурсій і вандраваньняў. Спазьненьне з такой падрыхтоўкай часта зрывае правядзеньне гэтых экскурсій, як паказала практыка мінулых год.

Узмацніць чыннасьць у справе популярызацыі краязнаўства, якая павялічыць шэрагі рабочых і сялян-краязнаўцаў.

Даны момант патрабуе асабліва напружанай працы краязнаўцаў. На гэта ня трэба забывацца—прапушчанага часу ня вернеш.

**ЦБК.**

---

**Кіпрыянец.**

# Сельска-гаспадарчы сэктар на 1-й Усебеларускай Выстаўцы.

Адчыненьне 1-й Усебеларускай Выстаўкі сельскае гаспадарк і прамысловасьці прыстасоўваецца да сьвяткаваньня 10-годзьдзя вызваленьня Беларускай ССР ад белапалякаў, таму Выстаўка зьяўляецца ня толькі аглядам нашых дасягненьняў за 10 год і вызначэньнем далейшых шляхоў соцыялістычнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі, а яна зьявіцца вялізарнейшым гістарычным момантам і паказчыкам таго, як правільна ў Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі вырашаюцца нацыянальныя, соцыяльныя і экономічныя проблемы.

(Задачы, мэты і плян выстаўкі гл. час. „Наш Край“ № 10 за 1929 г.).

Сельска-гаспадарчы сэктар Выстаўкі будзе разгорнуты на базе існуючых дасьледчых устаноў Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Ў. І. Леніна, НКЗ Беларусі і на спэцыяльна вызначанай выставачнай тэрыторыі.

На тэрыторыі Выстаўкі будуць у натуры прадэманстраваны жывымі экспонатамі організацыя палёвай гаспадаркі праз закладзеныя севазвароты, садоўніцтва, гародніцтва, кармавыя культуры, лекавыя расьліны, новыя культуры — у нашых умовах, якія вывучае Беларускае аддзяленьне Ўсесаюзнага Інстытуту прыкладнай ботанікі і новых культур.

Вызначаныя мерапрыемствы ў выглядзе натуральных пасеваў у полі, гародзе, садзе і дасьледчых дзялянках будуць прадэманстраваны на Выстаўцы і зоймуць наступную плошчу:

| | | |
|---|---|---|
| 1. 18 розных севазваротаў на плошчы | 9 | гэкт. |
| 2. Тэхнічныя прыёмы с/г. культур . | 1 | „ |
| 3. Сэлекцыя і насеннаводзтва . . | 2 | „ |
| 4. Тэхнічныя культуры . . . | 2,5 | „ |
| 5. Плошча па кармаздабываньню . | 1,5 | „ |
| 6. Пладовы сад . . . . | 6 | „ |
| 7. Пладовы гадавальнік. . . | 0,5 | „ |
| 8. Ягадны сад . . . . | 0,75 | „ |
| 9. Гародныя і новыя расьліны . . | 2 | „ |
| 10. Лекавыя расьліны . . . | 0,25 | „ |
| | 25,5 | „ |

Уся плошча пад тэрыторыяй Выстаўкі займае 75 гэкт. Апрача таго, да тэрыторыі Выстаўкі прылягае дэндролёгічны парк НДІ і лясны ґадавальнік на плошчы 139 гэк.

На тэрыторыі Выстаўкі пабудаваны сталы цагляны будынак Машынаспробнай станцыі, якая на адведзенай для гэтай мэты плошчы прадэмонструе ўсе процэсы машыннай апрацоўкі глебы і збору ўраджаяў.

Адначасова з спробай розных машын будзе паказана і электрыфікацыя сельскай гаспадаркі.

Усе асноўныя пытаньні, зьвязаныя з сельскай і лясной гаспадаркай, будуць прадэмонстраваны на Выстаўцы ў сваім натуральным выглядзе.

На І-й Усебеларускай Выстаўцы асноўная ўвага будзе зьвернута на выяўленьне соцыялістычных элемэнтаў вёскі. Выстаўка ў сваёй масе будзе прадстаўлена абагуленым сэктарам. Перад агрономічнай навукай і практыкай павінна паўстаць з усёй сур'ёзнасьцю пытаньне падвядзеньня навукова-вытворчай базы пад колгаснае будаўніцтва. У першую чаргу паказаць экономічна-вытворчыя шляхі, якія-б забясьпечылі хутчэйшы росквіт сельскае гаспадаркі ў абагуленым сэктары.

Першая Ўсебеларуская Выстаўка павінна зьявіцца адным з сродкаў у выхаваньні тэхнічных кадраў і перадачы ў практычнае жыцьцё колгасу навейшых дасягненьняў навукі і практыкі ў сельскай і лясной гаспадарцы.

Сельска-гаспадарчы сэктар складаецца з 10 асноўных аддзелаў, якія маюць такую пабудову:

| | |
|---|---|
| 1. Абагулены сэктар: | 1. Саўгасы<br>2. Колгасы<br>3. Вытворчыя коопэр. аб'яднаньні |
| 2. Землеўпарадкаваньне і сельскае будаўніцтва: | 1. Інвэнтарызацыя зямель<br>2. Землеўпарадкаваньне<br>3. Перасяленьне<br>4. Сельскае будаўніцтва |
| 3. Навукова-асьветны: | 1. Экономіі і організацыі с/г-кі<br>2. Экономіі і організацыі прамысловасьці<br>3. Прыроды<br>4. Навукова-дасьледчае справы<br>5. С/г. і індустрыяльнай асьветы<br>6. Агродапамогі<br>7. С/г. літаратуры |
| 4. Мэліорацыі і культуры балот: | 1. С/г. гідротэхнічн.<br>2. Культуры балот<br>3. Торпу |
| 5. Расьлінагадоўлі: | 1. Ральніцтва<br>2. Сэлекцыі і насеннаводзтва<br>3. Тэхнічных культур<br>4. Садоўніцтва<br>5. Гародніцтва і новых культур<br>6. Ахова расьлін<br>7. Агрохэміі |

6. Жывёлагадоўлі і вэтэрынарыі:
   1. Буйнае рагатае жывёлы
   2. Гадоўлі коняй
   3. Сьвінагадоўлі
   4. Птушніцтва і гадоўлі трусоў
   5. Аўчарства і гадоўлі коз
   6. Пчалярства
   7. Малочнае гаспадаркі
   8. Кармаздабываньня
   9. Вэтэрынарыі

7. Мэханізацыі і электрыфікацыі:
   1. С/г. інвэнтару
   2. Спэцыяльных машын
   3. Электрыфікацыі

8. Лясное гаспадаркі:
   1. Лесааднаўленьня
   2. Лесамэліорацыі
   3. Аховы лесу
   4. Лесаўпарадкаваньня
   5. Лесаэксплёатацыі
   6. Лясное дасьледчае справы
   7. Паляваньня

9. Рыбная гаспадарка

10. Быту і працы:
   1. Быту ў сельскай гаспадарцы
   2. Працы ў с/г. і прамысловасьці

Першыя 3 аддзелы будуць зьмешчаны ў галоўным павільёне; аддзел мэліорацыі і культуры балот будзе мець асобны павільён; аддзел расьлінагадоўлі разьмесьціцца ў 4-х павільёнах земляробства (масавыя экспонаты па земляробству, садоўніцтву і тэхнічных культур). У аддзеле расьлінагадоўлі будзе пабудаваны вэгетацыйны домік на 1000 пасудзін. Жывыя экспонаты разьмесьцяцца ў 13-ці павільёнах лёгкага тыпу. На скотных дварох (для буйнай рагатай жывёлы) прадугледжана мэханізаваць і электрыфікаваць усе процэсы працы скотнага двара.

Мэханізацыя і электрыфікацыя сельскае гаспадаркі будзе паказана ў асобным павільёне сталага тыпу. Для спробы с/г. машын каля будынку аддзелу мэханізацыі вызначана спэцыяльная зямельная тэрыторыя. Для экспонатаў лясное гаспадаркі будзе скарыстаны дэндролёгічны парк, які знаходзіцца побач з тэрыторыяй Выстаўкі.

Рыбная гаспадарка — сажалкі разьмешчаны ў гаспадарцы НДІ на адлегласьці поўкілёмэтра ад тэрыторыі Выстаўкі.

Экспонаты ня толькі пакажуць статыку і дынаміку экономікі, але яны павінны выявіць і політыку Савецкай улады ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі. Адначасова з экспонатамі, якія характарызуюць рост сельскае і лясное гаспадаркі, будзе паказана социялістычная рэконструкцыя сельскай і лясной гаспадаркі па пяцігодцы.

На выстаўцы будзе паказана сувязь сельскае гаспадаркі з нашай прамысловасьцю і яе кіруючая роля ў рэконструкцыі сельскай гаспадаркі на социялістычнай базе.

Паводле апошніх плянаў паасобныя аддзелы сельска-гаспадарчага сэктару Выстаўкі выявяцца ў наступным:

### Абагулены сэктар.

*Саўгасы.* У дыяграмах будзе паказаны экономічны ўзрост саўгасаў, роля саўгасаў, як агрокультурных цэнтраў — дапамога беднаце;

разьвіцьцё прамысловасьці ў саўгасах і асабліва перапрацоўка с/г. продуктаў (бульбяна-цёрачная і броварная прамысловасьць), вырашэньне кармавога пытаньня, рост зямельнай тэрыторыі саўгасаў, рост ураджаю, рост асноўных капіталаў, валавое і таварнае часткі, аплата рабочай сілы і вытворчасьць працы.

60 гаспадаркамі паводле сыстэмы Белсельтрэсту павінна быць паказана паляводзтва.

*Колгасы.* У дыяграмах і картаграмах будзе вызначаны рух колгаснага будаўніцтва на Беларусі, а ў натуральных экспонатах прадэмонструюцца дасягненьні па ральніцтву, садоўніцтву, гародніцтву, тэхкультурах, жывёлагадоўлі, перапрацоўцы малочнае продукцыі і інш. Модэлі колгасаў, фотаздымкі асобных момантаў, якія паказваюць жыцьцё і працу колгасаў. Роля колгасаў у справе ўзьдзейнічаньня на вакольнае сялянства.

Монографічнае апісаньне некаторых колгасаў. Прыкладны організацыйны плян колгаснай гаспадаркі.

Рост капітальных укладаньняў і павялічэньне матар'яльных каштоўнасьцяй у колгасах будзе яскрава адлюстравана на Выстаўцы.

*С-г. коопэрацыя.* У дыяграмах вызначаецца рух аб'яднаньняў, пайнікаў, укладаньняў, збытавых опэрацый, удзельная вага с/г. коопэрацыі ў таваразвароце БССР, схэма пабудовы коопэрацыйнай сеткі, рух крэдытаваньня, рух масла-сыраварных заводаў, модэлі кармушкі, сілосныя ямы і вежы, выцяжныя трубы, паілкі для птушак, скрынкі для сыру, уцяплёны хлеў, чарцяжы бульбасховаў, воскабойні. Апрача таго, падрыхтоўваецца матар'ял гістарычна-апісальнага характару аб сыстэмах с/г. коопэрацыі.

У абагуленым сэктары будуць прадстаўлены натуральныя экспонаты па палёвай гаспадарцы, садоўніцтву, гародніцтву, лугаводзтву, тэхкультурах, жывёлагадоўлі і інш. Абагулены сэктар павінен заняць сваімі экспонатамі ня менш 75% ад усяе колькасьці экспонатаў, якія будуць на Выстаўцы.

Удзельная вага абагуленага сэктару на Ўсебеларускай Выстаўцы будзе надзвычайна вялікая, таму падрыхтоўчы пэрыод для ўцягненьня на Выстаўку ўсіх колгасаў, саўгасаў і вытворчых аб'яднаньняў надзвычайна адказны і высоўвае перад усёй грамадзкасьцю і спэцыялістымі адну з асноўных задач—прыняць усе захады да большага ўцягненьня на Выстаўку колгасаў саўгасаў і вытворчых коопэрацыйных аб'яднаньняў.

## Землеўпарадкаваньне і с/г. будаўніцтва.

Гэты аддзел выявіць землеўпарадкаваньне, якое было зроблена на Беларусі, і ахопіць пададдзелы, якія цесна зьвязаны з землеўпарадкаваньнем.

Землеўпарадкаваньне будзе характарызаваць інвэнтарызацыю зямель, рэгуляваньне зямельных адносін, перасяленьне і ўнутраную колёнізацыю, сельскае будаўніцтва, водазабясьпеку і інш.

Экспонаты па аддзелу будуць прадстаўлены ў выглядзе дыяграм, фотаздымкаў працы, чарцяжоў і інш.

Сельскае будаўніцтва будзе паказана сядзібай узорнага колгасу і дыяграмамі аб руху сельскага будаўніцтва. Сельбудаўніцтва пабудуе на тэрыторыі Выстаўкі ўзорныя сялібы.

Парасяленьне і ўнутраная колёнізацыя будзе адлюстравана ў дыяграмах. Перасяленска-колёнізацыйная справа пакажа клясавую і нацыянальную політыку Савецкай улады.

## Навукова-асьветны аддзел.

Гэты аддзел ахапляе многа заданьняў і ў сваёй структуры мае некаторую розьніцу ад іншых аддзелаў. Ён ахапляе працу пададдзелаў прыроды, экономікі і організацыі сельскае гаспадаркі, экономікі і організацыі прамысловасьці і агродапамогі.

З прычыны складанасьці працы і featureазнастайнасьці заданьняў, пададдзелы падзелены на сэкцыі.

Пададдзел прыроды мае сэкцыі: географіі, геолёгіі, глебазнаўства, клімату, флёры і фаўны. Праца ўсіх сэкцый будзе дэмонстравана картамі, колекцыямі, узорамі і інш. Таксама будзе організавана мэтэоролёгічная станцыя II разраду.

Пададдзел экономкі і організацыі сельскае гаспадаркі падзяляецца на сэкцыі: экономікі сельскае гаспадаркі, організацыі с/г. (саўгасы, колгасы і сялянскія гаспадаркі). У гэтым пададдзеле будзе вызначана месца с/г. у народнай гаспадарцы БССР, вытворчы тып с/г., аб'ём, характар і тэмп абагульненьня с/г. БССР, дыфэрэнцыяцыя сялянскіх гаспадарак у БССР, організацыйна-вытворчая характарыстыка с/г. БССР у дробна-раённым разрэзе, дынаміка с/г. (ураджаі, пасеўныя плошчы, колькасьць жывёлы па саўгасах, саўгасы ў справе рэконструкцыі с/г., організацыя працы ў саўгасах, тэхнічныя прадпрыемствы саўгасаў, кармавая база саўгасаў, машынізацыя іх. Матар'яльна-тэхнічная рэорганізацыя ў колгасы сялянскіх гаспадарак, прынцып і форма організацыі працы, эфэктыўнасьць узбуйненьня колгасаў, організацыя колгасаў на мэліораваных колёнізацыйных фондах, эфэктыўнасьць капітальных укладаньняў у колгасы. Сялянская гаспадарка, як марная трата чалавечай рабочай сілы, эксплёатацыя дзяцей, падлеткаў і жанчын у сял. гасп., вытворчыя тупікі ад індывідуалізацыі і хутарызацыі сялянскіх гаспадарак.

*Пададдзел экономікі і організацыі прамысловасьці.* У дыяграмах, картаграмах, фотаздымках і на модэлях будзе дэмонстравана: продукцыя, сыравіна, лік рабочых, тэхнічны пэрсонал, зарплата, асноўныя капіталы, капітальнае будаўніцтва, сілавыя станцыі, выпрацоўка мэханічнай і электрычнай энэргіі, сельская электрыфікацыя, выпрацоўка і спажыцьцё апалу торфу, географія прамысловасьці, рамёствы і дробная прамысловасьць.

*Пададдзел агродапамогі.* Гэты пададдзел пакажа ў дыяграмах і плякатах агрономізацыю сялянства праз курсы, лекцыі, гутаркі, консультацыі і паказальную працу.

## Аддзел мэліорацыі і культуры балот.

Гэты аддзел складаецца з пададдзелаў: мэліорацыі, дзе будуць паказаны ўсе галоўнейшыя моманты мэліорацыйнай працы; культуры

балот, які прадэмонструе балоты Беларусі з прыродна-гістарычнага боку, экспэрымэнтальныя вынікі культуры балот і ўсе дасягненьні па гэтай галіне і пададдзел торфу, у якім усебакова будзе высьветлена роля торфу ў сельскай гаспадарцы і будуць паказаны ўсе віды перапрацоўкі яго. Аддзел мэліорацыі і культуры балот шырока пакажа ў дыяграмах, картах, натуральных экспонатах усю работу, якая праведзена ў гэтай галіне.

### Аддзел расьлінаводзтва.

Аддзел расьлінаводзтва ставіць мэтай высьвятленьне сучаснага становішча і вызначэньне далейшых шляхоў тэхнічнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі БССР у галіне расьлінаводзтва. Аддзел пакажа вынікі дасьледчай справы ў гэтай галіне. Аддзел ставіць сваёй мэтай выявіць прогрэсыўныя элемэнты сельскай гаспадаркі ў соцыяльна-экономічным разрэзе (саўгасы і колгасы).

Аддзел мае выявіць сучаснае становішча і разьвіцьцё ральніцтва на Беларусі, дасягненьні навукі і практыкі, азнаямленьне на тэрыторыі Выстаўкі з севазваротамі, якія садзейнічаюць хуткаму разьвіцьцю сельскае гаспадаркі.

На Выстаўцы запроектаваны наступныя севазвароты:

I. 4-палёвы севазварот, які вызначаецца Белсельтрэстам пры організацыі лубінавых гаспадарак на пяшчаных глебах:

1. Папар заняты лубінам на ўгнаеньне, 2. Азімае жыта, 3. Бульба на штучным угнаеньні, 4. Лубін на насеньне.

II. 4-палёвы севазварот Менскае расьлінаводнае станцыі, які раіцца для колгасаў і сялянскіх гаспадарак Мазыршчыны, Гомельшчыны і Бабруйшчыны.

1. Жытня-вікавая мешанка (жыта—сэрадэля), 2. Жыта-пажніўны лубін (жытня-вікавая мешанка), 3. Бульба (пажніўны лубін), 4. Ярына—сэрадэля.

III. 7-палёвы севазварот Менскае расьлінаводнае станцыі, які раіцца для прыгарадных колгасаў і саўгасаў з жывёлаводна-малочным напрамкам на сярэдніх і цяжкіх глебах.

1. Бульба, 2. Жытня-вікавая мешанка (пасьля першага ўкосу сеецца турнэпс або віка-аўсяная мешанка), 3. Караньплоды, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Канюшына 2 году, 7. Жыта.

IV. 2-яруснае выкарыстаньне пясковых глеб па сыстэме глебазнаўца П. П. Рагавога.

а) Інтэнсыўны запольны 3-палёвы севазварот:

1. Папар лубінавы, 2. Жыта сэрадэля, 3. Лубін і сэрадэля на ўгнаеньне;

б) Інтэнсыўны прысялібны 8-палёвы севазварот:

1. Лубін на ўгнаеньне, 2. Жыта—сэрадэля, 3. Бульба па гнаі, 4. Ярына (ярына канюшына), 5. Канюш. 1 г. (Караньплоды), 6. Канюш. 2 г. (Віка-аўсян. мешанка), 7. Жыта—сэрадэля, 8. Грэчка.

V. 3-палёўка з 6 гадовым чаргаваньнем культур („Беларуская 6-палёўка“).

а) Інтэнсыўны запольны 3-палёвы севазварот:

1. Папар заняты віка-аўсян. мешанкай (канюшына 1 гаду), 2. Азімыя, 3. Ярына—канюшына (бульба).

б) Інтэнсыўны прысялібны 8-палёвы севазварот.

Чаргаваньне культур:

1. Папар віка-аўсяны, 2. Жыта, 3. Ярына—канюшына, 4. Канюшына 1 г., 5. Азімыя, 6. Бульба.

VI. Нарфольская 4-палёўка.

1. Асыпныя, 2. Ярына—канюшына, 3. Азімыя: $^{2}/_{3}$ жыта і $^{1}/_{3}$ пшаніцы, пасьля пажніўны лубін.

VII. 5-палёўка проф. Даярэнка, прыстасавана да бел. умоў. Раіцца для паўночных акруг—Полацкай і Віцебскай.

1. Лубін на ўгн. (віка-аўсян. мешанка), 2. Жыта (жыта—канюшына), 3. Бульба (канюшына 1 году), 4. Кукуруза (канюшына 2 году), 5. Авёс (лён).

VIII. Ільняное 6-польле. Раіцца для раёнаў са слаба разьвітым ільнаводзтвам.

1. Папар лубінавы, 2. Азім. жыта—канюшына, 3. Канюшына 1 году, 4. Канюшына 2 году, 5. Бульба (лён), 6. Авёс.

IX. Звычайная 6-палёўка. Раіцца для колгасаў і сялянскіх гаспадарак Бабруйшчыны і Магілеўшныны.

1. Папар лубінавы, 2. Жыта—сэрадэля, 3. Бульба, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Ярына.

X. Беспапарная 6-палёўка. Раіцца для колгасаў і сялянскіх гаспадарак малочных раёнаў Менскай і Магілеўскай акруг.

1. Бульба на гнаі, 2. Ярына—канюшына, 3. Канюшына 1 году, 4. Канюшына 2 году, 5. $^{1}/_{2}$ пшаніцы і $^{1}/_{2}$ жыта азімае, 6. Ярына.

XI. Тыповы альняны 7-палёвы севазварот. Раіцца ў колгасах Віцебшчыны і для колгасаў і саўгасаў паўночнай часткі БССР альняных раёнаў.

1. Папар чорны, 2. Азімае жыта, 3. Асыпныя, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Канюшына 2 году, 7. Лён.

XII. Беларуская 8-палёўка. Раіцца для колгасаў і саўгасаў сярэдняе часткі БССР Менскай, Бабруйскай і часткаю Аршанскай і Мазырскай акруг.

1. Папар заняты, 2. Азімае жыта, 3. Асыпныя—бульба, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Канюшына 2 году, 7. Азімая пшаніца, 8. Ярына (авёс).

XIII. 9-палёвы севазварот.

1. Папар заняты, 2. Азімае жыта і пшан., 3. Бульба, 4. Ярына—канюш., 5. Канюшына 1 г., 6. Канюшына 2 г., 7. Азімае жыта, 8. Бульба, 9. Ярына.

XIV. Жывёлаводна-альняная 8-палёўка.

1. Папар заняты жытня-вікавай мешанкай, 2. Азімыя (жыта), 3. Бульба, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Канюшыня 2 году, 7. Лён, 8. Авёс.

XV. 8-палёвы інтэнсыўны севазварот. Раіцца для колгасаў і саўгасаў сярэдняй часткі БССР.

1. Папар заняты лубінам, 2. Жыта, 3. Бульба, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Канюшына 2 году, 7. Бульба, 8. Авёс.

XVI. 9-польны севазварот з выпасным клінам. Раіцца для саўгасаў і гаспадарак з цяжкімі глебамі.

1. Папар заняты, 2. Азімае жыта, 3. Бульба, 4. Ярына—канюшына, 5. Канюшына 1 году, 6. Канюшыня 2 году, 7. Выпас, 8. Жыта, 9. Авёс.

XVII. Альняное 10-польле. Уводзіцца ў буйных колгасах і саўгасах Полаччыны і Віцебшчыны.

1. Папар заняты лубінам, 2. Азімае—канюшына, 3. Канюшына 1 году, 4. Канюшына 2 году, 5. Лён, 6. Папар заняты—вікавы, 7. Жыта, 8. Бульба, 9. Бабовыя (пялюшка), 10. Ярына.

XVIII. 3-палёўкі з 9-гадовым чаргаваньнем культур:

1. Папар віка-аўсяны, 2. Жыта—канюшына, 3. Канюшына 1 году, 4. Канюшына 2 году, 5. Лён, 6. Авёс, 7. Папар лубінавы, 8. Жыта—сэрадэля, 9. Бульба.

Апрача вызначаных севазваротаў на тэрыторыі Выстаўкі будзе закладзены з дэмонстрацыйнай мэтай шэраг тэм: з гноем, лубінам сэрадэляй, пялюшкай, торфам і яго кампостаў, вапнай, фасфарытамі і іншымі мінэральнымі ўгнаеньнямі як у чыстым выглядзе, так і ў розных комбінацыях. Тэмы ўзяты розныя. Разьмер дзялянак 5 м. $\times$ 10 = 50 мэтраў. У вэгетацыйным павільёне будуць закладзены вэгетацыйныя досьледы на розных галоўных тыпах глебы, на розных фонах з асноўнымі культурамі БССР. Вэгетацыйны павільлён будуецца на 1000 пасудзін.

Апрача адзначанага ральніцтва будзе прадстаўлена масавымі экспонатамі (1000 гаспадарак) з раёнаў Рэспублікі. Кожны раён прадстаўляе на выстаўку ў сярэднім 10 гаспадарак.

Тэхніка адбору экспонатаў вызначана ў асобнай інструкцыі, а самы экспонат будзе мець пашпарт на кожны гатунак.

## Удзел дасьледчых станцый БССР.

Прадугледжана, што ўсе станцыі БССР — Менская, Турская, Горацкая, Віцебская і Палеская — будуць удзельнічаць у выстаўцы сваімі экспонатамі. Дасьледчыя станцыі прадстаўляюць схэмы сваіх палёў, програмы досьледаў і мэтодыку. Апрача адзначанага дасьледчыя станцыі ў дыяграмах і картаграмах выяўляюць усю працу станцый і іх удзел у справе рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Насеннаводзтва выяўляе сучасны стан сэлекцыйна-насеннаводнай справы, адзначае навукова-практычныя дасягненьні сэлекцыйных і насеннаводных устаноў і вызначае далейшыя шляхі гэтай галіны.

Насеннаводзтва на Выстаўцы будзе мець наступныя разьдзелы:

а) генэтыка, б) сыстэматычнае і біолёгічнае вывучэньне галоўных культур БССР, в) сэлекцыя с/г. расьлін, г) сортавывучэньне і сортаспрабаваньне, д) насенны і сартавы контроль, е) практычнае насеннаводзтва.

Экспонаты па насеннаводзтву будуць дасланы навукова-дасьледчымі ўстановамі НДІ, Аддзяленьнем Усесаюзнага Інстытуту Прыкладной ботанікі, Беларускай с/г. акадэміяй, дасьледчымі станцыямі, Белсельтрестам, НКЗ, контрольна-насеннаводнымі станцыямі, колгасамі і паасобным дасьледчыкамі.

Бульбяная станцыя выявіць у дыяграмах значэньне бульбы для БССР, вынікі сортаспрабаваньня, а ў картаграмах пакажа разьмеркаваньне бульбяной прамысловасьці Экспонаты па гісталёгіі бульбы і фітапаталёгіі будуць паказаны на Выстаўцы бульбяной станцыяй.

Тэхкультуры прадстаўляюцца ў адным павільёне, дзе ўдзельнічаюць НКЗ, Ільнопяньковы камітэт і іншыя зацікаўленыя організацыі.

Тэхкультуры будуць паказаны ў выглядзе экспонатаў (расьліны, пярвічная апрацоўка), у дыяграмах будзе выяўлена роля тэхнічных культур. У павільёне тэхкультур і мэханізацыі будуць дэмонстравацца ўсе машыны па перапрацоўцы лёну.

Садоўніцтва на Выстаўцы займае значнае месца як па тэрыторыі, так па ўяўленьні ролі садоўніцтва ў рэканструкцыі с/г.

Апрача экспанатаў, якія ўжо растуць на тэрыторыі Выстаўкі, будзе спэцыяльны павільён садоўніцтва, у якім побач з натуральнымі экспанатамі прадэмонструецца роля садоўніцтва ў сельскай гаспадарцы. На пагорку каля тэрыторыі саду, побач з Барысаўскім гасьцінцам, Садсаюз сумесна з дырэкцыяй Выстаўкі прадугледжвае будоўлю завода перапрацоўкі ягаднай і садовай сыравіны.

Экспанаты гародніцтва выяўяць ролю гародніцтва ў сельскай гаспадарцы і пэрспэктывы на будучыну. У натуры будзе паказаны гарод, якім ён павінен быць (насеньнікі, розныя гатункі гародных расьлін і інш.). Побач з гэтым новыя культуры ў ліку 500 паасобных гатункаў зьявяцца вельмі каштоўным мерапрыемствам, якое дапоўніць нашыя культуры.

Садоўніцтва, гародніцтва і новыя культуры дапаўняюцца і пчалярствам. У садзе, за пагоркам, пчальнік з больш распаўсюджанымі сыстэмамі вульляў дапоўніць пададдзел садоўніцтва на Выстаўцы.

Лекавыя культуры. Магілеўская дасьледчая станцыя на 600 кв. мэтрах высадзіла каля 100 розных лекавых культур. Дасьледчая станцыя пакажа на выстаўцы эканомічнае значэньне лекавых расьлін ў сельскай гаспадарцы.

У пададдзеле аховы расьлін будуць паказаны шкоднікі саду, гароду, поля і сьвірнаў. У дыяграмах і картаграмах можна будзе знайсьці ўсе моманты, зьвязаныя з мерапрыемствамі па барацьбе з шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы.

Аддзел жывёлагадоўлі ахапляе ўсе галіны гадоўлі жывёлы: коняй, буйнае рагатае жывёлы, сьвіней, авец, коз, птушак, трусоў, кормаздабываньне, кармленьне, вэтэрынарыю і малочную гаспадарку.

Экспанаты гэтага аддзелу падзяляюцца на жывыя і няжывыя. Усе экспанаты разьмесьцяцца ў 13 павільёнах.

Абагулены сэктар аддзелу жывёлагадоўлі зойме на Выстаўцы 78,0%.

Па акругах жывыя экспанаты разьмяркоўваюцца:

| Акругі | Буйная рагат. жывёла | Авечкі і козы | Сьвіньні | Коні | Трусы | Птушкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Аршанская . . . . | 34 | 10 | 58 | 17 | 20 | 16 |
| Бабруйская . . . | 50 | 12 | 42 | 22 | 5 | 27 |
| Віцебская . . . . | 74 | 16 | 42 | 26 | 5 | 27 |
| Гомельская . . . | 40 | 15 | 33 | 60 | 25 | 90 |
| Магілеўская . . . | 60 | 17 | 33 | 40 | 5 | 23 |
| Мазырская . . . . | 30 | 15 | 17 | 15 | 5 | 9 |
| Менская . . . . | 95 | 10 | 72 | 55 | 50 | 50 |
| Полацкая . . . . | 30 | 5 | 43 | 16 | 5 | 18 |
| | 413 | 100 | 330 | 251 | 120 | 200 |

Апрача жывых экспонатаў, у павільёне няжывых экспонатаў будуць паказаны модэлі, узоры вырабаў малочнае гаспадаркі, у дыяграмах і картаграмах будзе адлюстраваны рост жывёлагадоўлі.

На тэрыторыі Выстаўкі ўстанаўляецца вялікай моцнасьці масла-завод. Прапускная ёмкасьць заводу наступная: у год 1150 тон масла, а ў дзень 82 тоны малака. Гэты завод мяркуецца для буйнага колгасу і пасьля выстаўкі будзе туды пераведзены.

Кормаздабываньне будзе паказана ў выглядзе натуральных экспонатаў з поўным апісаньнем якасных паказчыкаў.

Вэтэрынарыя прадстаўляецца 11-ю аддзяленьнямі, якія характарызуюць: агульную вэтэрынарную профіляктыку, зоогігіену, лекавую справу, барацьбу з эпізоотыямі, хваробы агульныя чалавеку і жывёле, вэтэрынарна-санітарную справу, вэтэрынарна-бактэрыолёгічныя ўстановы, Вэтэрынарны Інстытут, катэдру вэтэрынарыі пры с/г. Акадэміі, вэтэрынарна-асьветную справу, вэтэрынарна-санітарнае становішча колгасаў і саўгасаў, гаспадарак абагуленага сэктару.

На Выстаўцы будзе паказана ўсё, што зьвязана з працай вэтэрынарыі ў выглядзе дыяграм, картаграм, малюнкаў, розных модэляй і прэпаратаў.

На выстаўцы будзе ўзорная кузьня для коўкі коняй і ізолятар для жывёлы на 50 галоў.

Лясны аддзел у сваіх экспонатах у натуры і дыяграмах пакажа тыпы дрэвастану, высечкі, лесакультуры, дэндролёгіі, лясную вопытную справу, таксацыйна-лесаўпарадкаўчую, лясную тэхнолёгію, лесаэксплёатацыю і лесазагат., лесамэліорацыю, лесааховы і лесашкоднікі. Лясны аддзел з сваімі пададдзеламі пакажа нашы лясныя багацьці і вызначыць далейшыя шляхі разьвіцьця ляснае гаспадаркі.

Паляваньне ў лясным аддзеле будзе прадстаўлена ў выглядзе жывых экзэмпляраў (мядзьведзь, ліса, воўк і інш.), а таксама будуць чучалы розных зьвяроў нашых лясоў. У дыяграмах вызначыцца роля паляваньня на Беларусі.

Рыбная гаспадарка і рыбаводзтва на I Усебеларускай Выстаўцы пакажа рыбаразьвядзеньне ў штучных вадазборах, рыбавядзеньне ў натуральных вадазборах (рэках і вазёрах) і с/г. рыбаводзтва, якое мяркуецца ў саўгасах і колгасах.

Рыбная сажалка організоўваецца ў гаспадарцы НДІ — „Бальшая Сьлепня“ ў непасрэднай блізкасьці каля тэрыторыі Выстаўкі.

Дыяграмы і картаграмы вызначаць рыбную гаспадарку Беларусі і яе пэрспэктывы.

Аддзел быту на Выстаўцы пакажа, як складаецца новы быт пры соцыялістычнай рэконструкцый с/г-кі. Будзе паказаны новы быт (колгасы), адначасова з гэтым мае быць паказаны стары быт бядняцка-серадняцкай гаспадаркі.

Сельска-гаспадарчы сэктар займае галоўную частку Выстаўкі, тут будзе паказаны сучасны стан гаспадаркі Беларусі і сельская гаспадарка канца пяцігодкі.

**Касьпяровіч.**

# Вывучэньне быту рабочых.

I

Вывучэньне быту як у сучасным яго стане, так і ў гістарычнай пэрспэктыве, займала і займае цяпер значнае месца ў этнографічнай навуцы. Пра быт народу ў цэлым і пра асобныя праявы яго пісаліся кнігі ды шмат артыкулаў, а таксама зьбіраліся колекцыі ды ўкладаліся аддзелы музэяў. У выніку ўсяго гэтага назапасіўся вялізны навуковы матар'ял надзвычайнай каштоўнасьці.

Адзначаючы гэты дадатны момант, разам з тым, неабходна констатаваць, што матар'ял гэты ўсё-ж даволі аднабокі ды ня зусім выразны. Вывучаючы быт народу, этнографія старалася выявіць як-мага больш старыя перажыткі яго, яна амаль ня цікавілася сучасным ёй бытам як такім, а шукала ў ім рэштак старога. Але праходзіў час і сёнешні быт станавіўся старым, так што, напр., быт сучасны пачынальнікам этнографічнага вывучэньня Беларусі цяпер ахвоча вывучаецца этнографамі ў быце нашага часу, як перажытак. Такім чынам у этнографічнай навуцы наўрад ці можна напаткаць суцэльнае і поўнае апісаньне быту якога-небудзь акрэсьленага часу. Ёсьць даволі багатая сэрыя перажыткаў у хронолёгічным парадку, але яна, напр., яшчэ не дала магчымасьці скласьці гісторыю быту. З другога боку пад вывучэньнем народу мысьлілася вывучэньне амаль выключна сялянства, якое жыло ў вясковых паселішчах. Каб было толькі няправільнае ўжываньне назвы—было-б яшчэ поўбяды. Але вясковае насяленьне вывучалася як нешта суцэльнае, не зважаючы на тое, што яно складаецца з дзьвёх даволі розных у этнографічным сэнсе груп (мужыкоў і шляхты) ды з розных социяльных пластоў па лініі абедзьвюх гэтых груп (беднякоў, серадңякоў і кулакоў). Гэтая социяльная індыфэрэнтнасьць социяльнай навукі разам з мяшаньнем об'ектаў вывучэньня ня толькі зьнізіла навуковую вартасьць этнографічных матар'ялаў, але, як відаць прывяла да таго, што ня вельмі шмат людзей разумее практычнае значэньне этнографіі. Нават мясцовыя этнографы часта не ўяўляюць сабе, якое надзвычайна вялікае значэньне мае этнографічнае вывучэньне краю; з большага яно паказана намі ў № 5 час. „Наш Край" за 1929 г. на ст. 55-56 і інш.

Але поўнае скарыстаньне посьпехаў этнографічнай навукі і яе популярнасьць наступіць толькі тады, калі яна цалкам зьменіць сваю ўстаноўку, што да об'ектаў вывучэньня ды да мэтодаў свае дасьледчае працы. Адзіным навуковым мэтодам этнографічнай навукі, як і ўсякай іншай, у наш час зьяўляецца мэтод дыялектычнага матар'ялізму; усё іншае— забабонная ненавуковая старызна. Падругое (ды ўжо самы мэтод дасьледчай працы вымагае гэтага), этнографія павінна дыфэрэнцыяваць об'екты вывучэньня як па лініі рэзкай асобнасьці быту, так і па лініі клясавай. Апошні кірунак няўхільна вымагае ня толькі клясавай дыфэрэнцыяцыі вясковага насяленьня, якое пакуль што зьяўляецца адзіным об'ектам этнографічнай навукі, але і вызначэньня для пераважнага вывучэньня і рабочых, якія этнографічна (у нас прынамсі) яшчэ не вывучаліся. Толькі консэрвацыйнасьцю ды ідэалістычнай засьмечанасьцю этнографічнай навукі можа тлумачыцца тое, што нават на дванаццатым годзе яшчэ як сьледна не разгарнулася этнографічнае

вывучэньне рабочых. У гэтым стасунку, на жаль, прыходзіцца адзначыць на фронце нашай савецкай навукі па аддзелу этнографіі значны прарыў.

Праўда, цалкам вінаваціць мясцовых краязнаўцаў у тым, што яны як сьледна не разгарнулі этнографічнага вывучэньня рабочых свайго раёну, немагчыма. Да гэтага часу ў нас ня было адпаведнай устаноўкі данай навукі і адпаведнай мэтодычнай літаратуры. У пэўнай меры гэтаму прычынілася і тое, што краязнаўчы рух сярод рабочых у колькі-небудзь значнай меры пачаў разгортвацца толькі з 1929/30 акад. году. А найлепшыя посьпехі этнографія дае тады, калі об'ект і суб'ект вывучэньня складаюць адно, бясспрэчна, што разам з разгортваньнем рабочага краязнаўчага руху непамерна вырасьце і вывучэньне быту рабочых.

Вывучэньне быту рабочых зьяўляецца аднэю з найважных новых задач этнографіі. Яно, як і вывучэньне быту сялянства, мае выразную мэту—магчыма большае палепшаньне гэтага быту. Галоўнаю задачаю этнографа-краязнаўцы ў справе вывучэньня быту зьяўляецца поўнае ўсебаковае апісаньне яго і выяўленьне зьмен у ім на працягу апошніх часоў. Асаблівых труднасьцяй гэтая проблема для свайго вырашэньня ня мае і таму можа быць упэўненасьць, што мясцовыя краязнаўцы ў самым бліжэйшым часе разьвяжуць яе.

Тэхніка і мэтодыка дасьледваньня быту рабочых амаль нічым не адрозьніваецца ад вывучэньня быту сялянства. Тут толькі прыёмы падыходу да об'ектаў вывучэньня, як відаць, будуць крыху іншыя. А наогул этнограф-краязнаўца ў сваёй працы павінен добра ведаць наступныя моманты.

Спэцыялізуючыся на этнографічным вывучэньні краю наогул і па вывучэньні быту рабочых прыватна, краязнаўца павінен у першую чаргу зьвярнуць увагу на прыстасаваньне сваіх пачуцьцяў і здольнасьцяй да сваёй спэцыяльнасьці. Папершае трэба гадаваць сваю наглядальнасьць наогул. Трэба ва ўсіх краязнаўчых досьледах навучыцца заўважваць у шматбаковым і складаным жыцьці ў першую чаргу тое, што шукаеш для этнографічнага вывучэньня. Падругое, трэба разьвіваць спэцыяльнасьць зроку, слыху, памяці і падыходу да людзей, прыватна. Усім вядома, што мы ня ўсё тое бачым, на што глядзім, ня ўсё тое чуем, што гучыць, ня ўсё тое памятаем, што ўспрынята, ня з кожным чалавекам дагаворымся, з якім гаворым. Вось і трэба прывучаць свае вочы бачыць этнографічныя факты і зьявы нават там, дзе іх не заўважваюць усе іншыя; прывучаць свае вушы чуць этнографічныя гукі там, дзе іх ня чуе звычайнае вуха нават у крыку; прывучаць сваю памяць трымаць у галаве чым даўжэй этнографічна бачанае і чутае ды выхоўваць свой такт так, каб кожны этнографічна цікавы або карысны чалавек дапамог вам. Разам з гэтым трэба не забывацца выхоўваць у сабе пачуцьцё меры прастору і часу. Не заўсёды ў этнографічнай працы ёсьць магчымасьць вымяраць мэтрам і гадзіньнікам, а ведаць хоць прыблізна меру фактам і зьявам заўсёды неабходна. А ня выхоўваючы гэтай якасьці краязнаўца-этнограф часта нават угадаць ня можа адцінку пэўнага прастору ці часу, ня то што яго акрэсьлена азначыць.

Побач з разьвіцьцём гэтых здольнасьцяй этнограф-краязнаўца, спэцыялізуючыся на этнографічным вывучэньні краю, павінен разьвіваць і наступныя спэцыяльныя ўмецтвы фіксаваньня этнографічных фактаў і зьяў.

Як бы мы ні практыкавалі сваю памяць—мы ніколі ня зможам памятаць усё тое, што-б нам хацелася. Таму этнограф-краязнаўца ніколі не павінен спадзявацца на сваю памяць а заўсёды павінен безадкладна фіксаваць, г. зн. замацоўваць у тым ці іншым відзе, этнографічныя факты і зьявы. Толькі тады, калі ніяк немагчыма зрабіць апошняе—трэба не пазьней як да першай магчымасьці трымаць патрэбнае ў памяці. Усякае спазьненьне ў гэтым кірунку шкодна адбіваецца на этнографічнай працы: нагляданьне або забываецца зусім, або перадаецца пазьней у недакладным відзе. Зразумела запісваць трэба толькі тое, што бачыш сам, або ў чым упэўніўся. Фіксаваньне этнографічных фактаў і зьяў можа адбывацца на пісьме, фотографіі, рысунку, модэлі.

Усе апісаньні ды запісы сваімі словамі зручней за ўсё рабіць на паасобных кавалках паперы памерам у чвэртку аркуша, пішучы з аднаго боку. Часамі, калі дазваляюць умовы, адводзяць адну картку для нагляданьняў напр. аднаго цэльнага об'екту. Такі спосаб надзвычайна палягчае апрацоўку запісаў. Каб не раскідаліся, іх трэба трымаць у адпаведных абгортках (вокладках). Усякае мясцовае слова, што азначае пэўны мясцовы тэрмін, ужытае ў сваім тэксьце павінна запісвацца дакладна так, як чуецца і падкрэсьлівацца хвалістаю рыскаю. Фольклёр павінен запісвацца дакладна так, як чуецца. Словы для слоўнікаў запісваюцца на картках памерам у $^1/_{16}$ пішчага аркуша. Фольклёр ды словы для слоўніка вымагаюць вельмі хуткага тэмпу запісваньня, чаму і неабходна ўвесь час вучыцца, каб давесьці хуткасьць свайго пісьма ледзь не да хуткасьці гутаркі. Хоць стэнографія і ня можа з посьпехам ужывацца ў запісваньні фольклёру, але этнографу-краязнаўцу варта навучыцца ёй пры першай магчымасьці: яна будзе вельмі карыснай. Запісы часта вымагаюць ужываньня яшчэ асобных значкоў, апрача літар нашае азбукі. Этнограф-краязнаўца павінен навучыцца пісаць іх так хутка і чытэльна, як і літары. Апрача таго, ён павінен навучыцца пісаць нотамі, калі толькі слых дазваляе яму запісваць мэлёдыі: песьні бяз мэлёдый маюць непараўнальна меншую вартасьць, чым з імі. Зразумела, калі ёсьць фонограф—трэба ўмець ім карыстацца для запісаў ня менш, чым асадкай. Пра тое, што кожны этнограф-краязнаўца павінен весьці свае апісаньні дакладнай, яснай, популярнай мовай і ўспамінаць ня варта—гэта ведае кожны.

Але часта самае дакладнае апісаньне дае менш чым самы недасканалы рысунак або малюнак. Таму этнограф-краязнаўца павінен навучыцца рысаваць і маляваць па сваёй спэцыяльнасьці, што ня так ужо і трудна. Блізкімі да гэтага спосабу фіксацыі зьяўляюцца розныя спосабы коп'яваньня ды пляны і чарцяжы, якія таксама трэба ўмець рабіць.

Значна хутчэйшым за рысаваньне зьяўляецца фотографаваньне, якое можа быць і значна больш дакладным спосабам фіксацыі этнографічных зьяў і фактаў. Фотографаваць значна лягчэй чым рысаваць і кожны краязнаўца, а не адно этнограф, павінен навучыцца карыстацца фотографічным апаратам.

Урэшце, часамі неабходна бывае ўзяць модэль той ці іншай этнографічнай рэчы. Этнограф-краязнаўца павінен навучыцца і гэтай справе.

Патрабаванае намі разьвіцьцё здольнасьцяй і ўмецтваў можа паказацца каму-колечы з першага погляду цяжкім і адхінуць ад этно-

графічнага вывучэньня краю наогул і вывучэньня быту рабочых прыватна. Змушаны папярэдзіць гэта: папершае гэта ўсё зусім ня цяжкае; падругое, чым больш дасканалая падрыхтоўка—тым больш дасканалая будзе і праца; патрэцяе вучыцца гэтаму ўсяму трэба на самой працы. Калі нашы краязнаўцы вучыліся раней, чым пачыналі працу—мы-б ніколі ня бачылі вынікаў іх працы. Але шмат якія краязнаўцы доўга працуюць не спэцыялізуючыся, не ўдасканальваючы свае мэтодыкі і тэхнікі, чаму іх працы ня ідуць уперад. Вось з гэтай прычыны мы і падкрэсьлілі лішні раз неабходнасьць спэцыялізаваньня ў галіне этнографічнага вывучэньня краю.

Узяўшыся за вывучэньне быту рабочых ці асобных праяў яго і добра азнаёміўшыся з мэтодычнай літаратурай пытаньня, этнограф-краязнаўца можа карыстацца стацыянарным, экспэдыцыйным ці анкетным мэтодам дасьледваньня.

Найбольш каштоўным зьяўляецца стацыянарны мэтод, калі этнограф-краязнаўца доўга жыве ў аднэй мясцовасьці і вывучае яе. Яшчэ лепш, зразумела, калі-б, у даным выпадку, напрыклад, самі рабочыя маглі вывучаць свой быт, аб чым мы ўспаміналі вышэй. Але, жывучы доўга на адным месцы, этнограф-краязнаўца прывыкае да наваколь- нага, чым зьмяншае сваю этнографічную наглядальную здольнасьць і часта не заўважвае каштоўных этнографічных фактаў і зьяў.

Экспэдыцыйны мэтод, калі этнограф-краязнаўца перасоўваецца з месца на месца і вывучае этнографічныя факты і зьявы, наадварот дапамагае заўважваць самае рознае, але затое не дае магчымасьці паглыбленага вывучэньня.

Урэшце, анкэтны мэтод, які выяўляецца ў пісьмовым апытаньні мясцовых людзей наогул ці об'ектаў вывучэньня прыватна, дае найменш каштоўныя вынікі, бо прадстаўляе этнографу-краязнаўцу факты і зьявы чужымі рукамі ды невядомай дакладнасьці, а таксама ня ўпэўнівае, што мясцовыя людзі ўласна здолелі ўбачыць наяўнасьць ці адсутнасьць фактаў і зьяў. Але ім прыходзіцца карыстацца, калі няма магчымасьці ня толькі доўга жыць на адным месцы, але і выехаць туды на час.

Для лепшых вынікаў свае працы этнограф-краязнаўца павінен ужываць усе тры мэтоды адпаведна вымогам кожнага данага выпадку.

У першую чаргу, у даным выпадку, этнограф-краязнаўца павінен выбраць сабе прадпрыемства або групу прадпрыемстваў, на якіх ён будзе вывучаць быт рабочых, з такім разьлікам, каб задача была яму па сілах. Калі ён ня можа дасьледаваць быт рабочых цалкам—ён можа ўзяць сабе для першых часоў частку яго (цэх). Гэта забясьпечвае выкананьне замеру, а кожнае выкананьне гадуе ўпартасьць і агульную здольнасьць дасьледчыка.

Выбраўшы об'ект вывучэньня, этнограф-краязнаўца павінен дасканала азнаёміцца з фактамі і зьявамі ўжо назапашанымі аб гэтым об'екце. Ён павінен справіцца ў Беларускім Бібліографічным Бюро (Менск, Савецкая, 94) ці ёсьць што надрукаванае пра даны об'ект, праглядзець друк сам і ўкласьці бібліографію абранага об'екту, пашукаць вестак у комплектах газэт (асабліва ў мясцовым і судовым аддзеле іх) друкаваных, ды насьценных данага прадпрыемства ці групы іх. Пасьля гэтага этнограф-краязнаўца не павінен ленавацца і пашукаць вестак пра абраны об'ект у мясцовым дзяржаўным архіве, ды справах профорганізацыі, прадпрыемства і д. т. п. Там можна знайсьці весткі пра склад рабочых, іх асьвету, партыйнасьць, узрост,

стаж, паходжаньне і інш. Адшуканыя архіўныя весткі трэба абавязкова дапоўніць шуканьнем новых вестак у справах раённага статыстыка і Акруговага Статыстыстычнага Бюро ды ў архіве апошняга. Мала гэтага—трэба пашукаць і ў адпаведных ведамствах—Аддзеле Аховы Здароўя ды ў Інспэкцыі Працы. Абавязкова трэба агледзець і музэі, каб выявіць ці няма там якіх матар'ялаў адносна данага об'екту. Гэта таксама выявіць і тое, што можа з сваіх будучых збораў этнограф-краязнаўца паказаць з часам у музэі. Зразумела, што ў часе гэтага папярэдняга вывучэньня абранага об'екту этнограф-краязнаўца будзе рабіць выпіскі, здымаць копіі папер, плянаў і д. т. п., фотографаваць экспонаты, словам, фіксаваць усё тое, што палічыць патрэбным.

Сабраўшы ўсе весткі апісаным шляхам, этнограф-краязнаўца сыстэматызуе іх ды выявіць ступень вывучанасьці об'екту ў сучасным стане яго і ў гістарычнай пэрспэктыве. Гэта дасьць магчымасьць краязнаўцу-этнографу ўкласьці плян вывучэньня ўласна абранага об'екту, разьмясьціць выкананьне пляну ў каляндарным парадку ды вызначыць маршрут экспэдыцыі, калі яна будзе патрэбна, а таксама мэтоды і прыёмы дасьледваньня.

Экспэдыцыі варта рабіць аднаму або ўдваіх—шматлюдныя экспэдыцыі непараўнальна менш зручныя. Карысна, каб у складзе экспэдыцыі былі мужчына і жанчына, якія адпаведна лепш змогуць падыйсьці да вывучаемых мужчын і жанчын. Абавязковы багаж: а) фотаапарат з плёнкамі ці плястынкамі, б) звычайная папера ў $^1/_4$ і $^1/_{16}$ пішчага аркушу з абгорткамі і папера мілімэтроўка, калька і д. т. п. для плянаў, рысункаў і інш., в) карта, г) атрамант, туш, пер'я, асадка, алоўкі (мяккія чорныя, мяккія каляровыя і інш.), д) гумкі (алоўкавая і атрамэнтная), е) нож складаны, э) мэтар складаны. ё) компас, ж) набор акварэлевых фарбаў з пэндзьлямі і дж) павялічальнае шкло; пажадана, з) пляншэт, дз) бінокаль і інш.

Урэшце, этнограф-краязнаўца прыступае да непасрэдных назіраньняў быту рабочых. Прыдзецца, зразумела, ужыць і мэтод распытваньня, прычым для праўдзівага высьвятленьня пытаньня прыдзецца пытацца пра яго ў самых розных асоб; такт у кожным конкрэтным выпадку пакажа як падыход да распытываемых, так і спосаб распытваньня: у некалькіх зараз ці паасобку. Усё, што ўдасца распытаць і ўбачыць, адпаведным чынам фіксуецца. Пры апісаньнях рэчаў ці іх частак неабходна не забывацца апісваць іх форму, матар'ял з якога яны зроблены, тэхніку вырабу іх, афарбоўку іх і аздобы іх ды даваць дакладныя памеры. Побач з гэтымі тэкставымі апісаньнямі этнограф-краязнаўца павінен весьці фонэтычныя запісы фольклёру, слоўнікаў і д. т. п., разьмяшчаючы іх усе зразу ў сыстэматычным парадку па паасобных абгортках. Адначасна зьбіраецца розны этнографічны матар'ял па вывучэньні быту рабочых: самыя розныя лісты, уласнажыцьцёпісы і жыцьцёпісы, розныя докумэнты, фотографіі і д. т. п., а таксама розныя ўскосныя даныя: гістарычныя весткі, назвы мясцовасьцяй, прозьвішчы і інш. Этнограф-краязнаўца ні ў якім разе ня можа адмовіцца і ад зьбіраньні розных рэчаў, якія, разам з вывучэньнем быту рабочых, складуць яго этнографічную колекцыю на гэтую тэму.

Кожнаму зразумела, што можна зьбіраць самастойную этнографічную колекцыю як на іншыя, так і на гэтую тэму, падобна таму як зьбіраюцца ўсякія іншыя колекцыі, калі няма музэю, куды-б можна

было здаваць этнографічныя экспонаты. Нават некаторыя раённыя музэі могуць абмежавацца на першы час сыстэматычным зьбіраньнем пэўнай этнографічнай колекцыі, напр., пра быт рабочых, а ня цэлага этнографічнага аддзелу музэю. Такімі колекцыямі могуць зьяўляцца зборы ўзораў мясцовых тканін, вышывак, абутку, бітак і д. т. п. Калі поўную колекцыю ўкласьці нават на працягу доўгага часу немагчыма—ні ў якім разе ня можна адмаўляцца ад зьбіраньня паасобных рэчаў, якія ўсё-ж калі-небудзь складуць каштоўную колекцыю. Ды нават паасобныя рэчы маюць вялікае навуковае значэньне. Ці зьбіраюцца экспонаты для музэю, ці для колекцыі—усё роўна трэба няўхільна прытрымлівацца наступных правіл: а) зьбіраць факты так, каб яны давалі суцэльнасьць пэўнай рэчы сялянскай або рабочай творчасьці: гарнітур, а не адно вышыты рукаў; збрую, а не адно хамут і г. д.; б) падаваць пры гэтым дакладныя мясцовыя назвы фактаў, дакладнае азначэньне месца іх паходжаньня, матар'ял, з якога зроблены, тэхніку вырабу і г. д. і в) запісваць месца данага факту ў народным быце, народныя погляды на яго, вераваньні і звычаі, што цесна зьвязаны з самой рэччу, яе вырабам і ўжываньнем. Такім чынам кожная рэч колекцыі павінна здабывацца ў выніку сыстэматычнага, грунтоўнага, вычэрпваючага і ўсебаковага навуковага досьледу. Гэты досьлед і рэч колекцыі павінны ўзаемна дапаўняць адно другое і толькі тады яны будуць мець навуковую, а значыць і матар'яльную каштоўнасьць. З усяго гэтага выцякае яшчэ адно асноўнае правіла: колекцыянаваць ня тое, што пад руку пападаецца, а плянава адшукваць тое, што трэба па вызначанай програме будучай колекцыі этнографа-краязнаўцы, бяручы, зразумела, самыя лепшыя ўзоры фактаў.

Падобна таму, як пры ўсякай рэчы колекцыі павінны быць дакладныя весткі пра яе, так пры кожным запісе ці іншым матар'яле этнографа-краязнаўцы павінны быць весткі, якія-б падрабязна і дакладна адказвалі на пытаньні: што, дзе, ад каго, калі і г. д. Бяз гэтакіх вестак нішто ня мае ніякага навуковага значэньня.

На ўсім працягу свайго вывучэньня быту рабочых этнограф-краязнаўца акуратна вядзе дзеньнік, у якім падрабязна адзначае, што ён зрабіў, або чаму ён нічога не зрабіў, кожны дзень са спасылкамі на старонкі або нумары тэкставых і фонолёгічных запісаў ды рэчаў колекцыі і высьвятленьнем умоў свае працы. Гэты дзеньнік і запісы будуць узаемна дапаўняць адно другое падобна вышэйпамянёным весткам і рэчы ў колекцыі пра быт рабочых.

Зразумела, што поўна і ўсебакова выканаць вывучэньне быту рабочых аднаму этнографу-краязнаўцу будзе даволі цяжка. Таму яму прыдзецца карыстацца дапамогай розных асоб, якіх ён павінен інструктаваць і навучаць увесь час, каб іх праца была больш дасканалай з аднаго боку ды ў мэтах падрыхтоўкі новых этнографаў-краязнаўцаў—з другога. Таксама значную ўвагу ён павінен аддаваць і тым асобам, аб якіх будзе запісваць шмат слоў для слоўніка, шмат прыпевак і г. д.

У часе сваёй працы этнограф-краязнаўца, калі ён хоча мець найлепшыя посьпехі ў справе вывучэньня быту рабочых абранага ім прадпрыемства, павінен таксама популярызаваць сваю працу сярод шырокіх колаў рабочых як вусна ў асабістых гутарках, на розных сходах, у клюбе і г. д., так і пісьмова праз насьценную газэту ды акруговую і цэнтральныя газэты і д. т. п. У сваёй популярызацыі справы вывучэньня быту ён павінен паказваць усе магчымыя спосабы

палепшаньня яго, якія выцякаюць з бягучай працы па вывучэньні быту, што, зразумела, не пазбаўляе абавязкаў рабіць такія вывады ў канцы ўсёй данай працы этнографа-краязнаўцы.

II.

Усе факты і зьявы быту рабочых, сам быт рабочых цалкам такі складаны і шматбаковы, што прадбачыць усе яго праявы ў якой-небудзь самай поўнай програме немагчыма, задача ўкладаньня програмы вывучэньня быту рабочых ускладняецца яшчэ і тым, што ён не зьяўляецца чымсь нязьменным, раз назаўсёды ўсталяваным, а прадстаўляе сабою бязупынны процэс, развой. Але хіба програмы ня толькі ў тым, што яна ня можа цалкам і ўсебакова ахапіць увесь быт, але, галоўным чынам, і ў тым, што яна затрымлівае ўвагу этнографа-краязнаўцы на пэўных момантах, зьвязвае яго сваёю аўторытэтнасьцю і тым зьмяншае этнографічную здольнасьць успрыйманьня такога жывога процэсу, якім зьяўляецца быт рабочых. Усё-ж адмовіцца ад програмы зусім нельга хоць-бы таму, што яна вызначае кірунак і шляхі дасьледваньня. Умоўная карысьць програмы ў найвышэйшай сваёй меры выявіцца для дасьледчыка падрыхтаванага, які не паддаецца яе застыглым пунктам ды зможа карыстацца ёю для нагадваньня сабе пэўных момантаў працы. Маладому-ж дасьледчыку яна, хоць і ў меншай ступені, будзе карысна, як праваднік па новых для яго сьцежках. Улічваючы зьменнасьць гэтых сьцежак і названыя адмоўныя ўласьцівасьці програмы, этнограф-краязнаўца павінен вучыцца орыентавацца ў справе сам, асабліва крытычна адносячыся ў першую чаргу да програмы.

Быт рабочых прадстаўляе сабою суцэльны, непадзельны процэс комплекснага характару. Програма-ж адразу падзяляе яго на паасобныя часткі. Праўда, гэта робіцца ўсё для таго-ж палегчаньня пазнаньня яго, але на ўмоўнасьць гэтага падзелу ня трэба забывацца.

У першую чаргу програма патрабуе, каб было дадзена кароткае, але ўсебаковае географічнае апісаньне прадпрыемства або групы іх. У гэтым уступе да апісаньня быту рабочых трэба будзе апісаць месцапалажэньне прадпрыемства; паверхню яго тэрыторыі; абвадненьне яе; асаблівасьці мясцовага клімату, глебаў, флёры і фаўны; природнагеографічныя і экономічныя ўмовы, якія выклікалі заснаваньне данага прадпрыемства ўласна ў даным краі і на даным месцы; назвы прадпрыемства і іх зьмены; час заснаваньня прадпрыемства, першых гаспадароў, першых рабочых; гісторыю прадпрыемства—ход разьвіцьця, росквіт і заняпады, сучасны стан прадпрыемства; агульны від прадпрыемства; сырэц, апал, процэс і продукт вытворчасьці; абслугоўваньне прадпрыемства людзьмі—лічбовы склад рабочых і канторскіх работнікаў; нацыянальны, соцыяльны, партыйны, палавы, узроставы і пісьменны склад іх. Пабач з гэтым прыдзецца запісваць легенды і апавяданьні чым-небудзь зьвязаныя з прадпрыемствам ці часткамі яго, а таксама адзначыць як празываюць данае прадпрыемства і яго рабочых рабочыя іншых прадпрыемстваў і мясцовае насяленьне і наадварот, ды ўзаемаадносіны рабочых з мясцовым насяленьнем наогул.

Пасьля такога ўступу, што дае этнографу-краязнаўцу агульны фон, на якім разьвіваецца быт рабочых, програма патрабуе дасканалага, падрабязнага і дакладнага апісаньня гэтага быту. Для памінанага палягчэньня працы програма вылучае наступныя разрэзы выву-

чэньня: хатні быт, вытворчы быт, грамадзкі быт. З тае прычыны, што гэтымі разрэзамі яшчэ ня цалкам абхопліваецца быт рабочых, праграма ўсё іншае патрабуе вывучаць у разрэзе ідэолёгічных формаў ды новага быту. На ўсім працягу свае працы этнографу-краязнаўцу трэба не забывацца, што гэта—цалкам штучны падзел і яшчэ пакуль што нават не дасканалы.

Разрэз хатняга быту ў першую чаргу вымагае ўсебаковага апісаньня кватэр рабочых, у якіх працякае ўвесь хатні быт. Пры вывучэньні быту ўсіх рабочых трэба будзе ўсебакова апісаць рабочы гарадок, калі такі ёсьць, або рабочыя кварталы, ці хоць распалажэньне кватэр рабочых данага прадпрыемства ў пэўнай частцы паселішча. Асаблівай увагі патрабуе квадратура, кубатура і сьветавая плошча кватэр ды шчыльнасьць насяленьня, іх санітарны стан наогул. Трэба апісаць, апрача таго, апал, асьвятленьне, залежнасьць кватэр ад бюджэту рабочых і апошні наогул, абсталяваньне і аздобы кватэр, узаемаадносіны суседніх кватэр паміж сабою і д. т. п. Таксама дэталёва трэба апісаць хатняе начыньне, якое бытуе ў кватэрах рабочых, дзе яно набываецца і чым вымагаецца набываньне яго. Далей трэба апісаць адзежу, якую носяць мужчыны, жанчыны, дарослыя і дзеці. Сюды павінна ўвайсьці як бялізна, так і гарнітуры, верхняя адзежа і абутак. Пры апісаньні бялізны трэба апісаць ня толькі нацельную, але і пасьцельную бялізну. Зразумела, трэба апісваць асобна як будзённую, так і сьвятошную адзежу, а таксама абрадавую ці рэшткі яе, калі яны яшчэ бытуюць. Асаблівую ўвагу ў разьдзеле аб адзежы трэба аддаць аздобам на адзежы, аздобам, якімі аздабляюцца пэўныя часткі цела непасрэдна (вушы, губы і д. п.) ды наогул спосабам пеленгаваньня цела і касмэтыцы. Ня менш дэталёва, чым адзежа апісвацца павінна яда і пітво рабочых сем'яў. Тут трэба высьветліць чым пераважна харчуюцца рабочыя сем'і, дзе яны набываюць харчы, як і дзе пякуць іх і вараць ці спажываюць гатовымі і г. д. Апрача паасобнага апісаньня прадметаў яды і пітва, абавязкова трэба падаць і тыповыя (штодзённыя і ў дні адпачынку) меню сьнеданьняў, абедаў, вячэр і падвячоркаў. У гэтым-жа разьдзеле прыдзецца апісаць таксама і розныя наркотыкі, ужываньне якіх у сем'ях рабочых будзе заўважана. Далей у разрэзе сямейнага быту асяродкавым месцам зьявіцца, зразумела, усебаковае апісаньне самой сям'і і сямейнага жыцьця: яе тыповага складу ў рабочых, узаемаадносіны паасобных членаў яе, заснаваньне сям'і г. зн. жаніцьба, вясельле і інш. падобныя моманты: хрэсьбіны, хаўтуры, як праводзяць нерабочы час дарослыя ў сям'і, адпачынкі, выхаваньне дзяцей, быт моладзі ў сям'і, гульні і д. т. п.

У разрэзе вытворчага быту рабочых вывучаюцца ўсе правы яго, зьвязаныя з вытворчасьцю. Першым тут будзе апісаньне таго, як прымаюцца цяпер і як прымаліся даўней (наогул усе зьявы павінны апісвацца ня толькі ў даным стане, але ў гістарычным разьвіцьці іх, аб чым гаварылася вышэй) новыя рабочыя старымі рабочымі ў свой колектыў, таксама наогул найманьне рабочых ды адносіны да новых рабочых на прадпрыемстве. Далей павінны быць апісаны ўзаемаадносіны рабочых з майстрамі, рабочых паасобных цэхаў і профэсый і г. д., словам—узаемаадносіны людзей на даным прадпрыемстве па лініі вытворчасьці; ня трэба забывацца апісаць у гэтым стасунку і групу рабочых з сялян, што нядаўна прышлі на прадпрыемства і яшчэ ня страцілі адзнак свае былое сельска-гаспадарчае індывідуальнае профэсіі. Да ўсяго гэтага цесна прымыкае характарыстыка ўзаема-

адносін паміж старымі і моладзьдзю, а таксама апісаньне ўзаемаадносін паміж жанчынамі і мужчынамі ды рабочых рознай нацыянальнасьці. Далей програма вымагае такога самага падрабязнага і дакладнага высьвятленьня ўзаемаадносін і ўзаемаўплываў паміж прадпрыемствам і рабочымі на ім: які ўплыў робіць даная вытворчасьць на фізыолёгію і псыхолёгію рабочых, як яна адпаведна сабе формуе пэўныя органы цела рабочых (напр., маленькія вочкі, шырозны нос і лупатыя губы ў гутнікаў), які шкодны ўплыў яна робіць на іх, профэсыянальныя хваробы, вымогі кваліфікацыі і д. т. п. з аднаго боку і адносіны рабочых да прадпрыемства, машын, цяпла, гаспадаркі наогул, а таксама да свае працы, працоўнай дысцыпліны і інш, — з другога боку. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на ўздым працоўнай дысцыпліны, соцыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва ды на адносіны да павышэньня свае кваліфікацыі і чыннасьць рабочых у гэтым кірунку. Побач з высьвятленьнем гэтых пытаньняў трэба будзе вызначыць наколькі адчуваюць сябе рабочыя гаспадарамі свайго прадпрыемства. Асобна трэба апісаць санітарны стан прадпрыемства, спэцвопратку рабочых, харчаваньне ў часе перапынкаў ды наогул як праходзяць перапынкі на прадпрыемстве. Надта пільную ўвагу павінен зварачваць этнограф-краязнаўца ў часе працы па разьдзелу вытворчага быту на вывучэньне мовы працы данага прадпрыемства ды на зьбіраньне матар'ялаў у слоўнік працы ці для агульнага слоўніка рабочых, аб чым гутарка ніжэй. Таксама трэба заўважыць і апісаць розную дадатковую працу рабочых, якая так або інакш павялічвае іх бюджэт: агародніцтва, пчалярства, паляўніцтва, рыбалоўства, шавецтва, кравецтва і д. т. п. і месца яе ў агульным быце рабочых.

У разрэзе грамадзкага быту першае месца займае агульнае вызначэньне грамадзкасьці рабочых прадпрыемства, за якім ідзе дэталёвае апісаньне грамадзкіх інтарэсаў і грамадзкай працы рабочых. У першую чаргу падобна папярэдняму разьдзелу трэба вызначыць адносіны старых і моладзі, мужчын і жанчын (а сярод іх—і замужніх і незамужніх) да грамадзкай працы і палітычнага жыцьця наогул, а таксама адносіны да ўлады, соцыялістычнага будаўніцтва, палітычных партый, і асабліва КП(б)Б, прыватна. Пры гэтым, калі даўжэйшы адцінак часу ўзяць немагчыма, то высьветліць усё гэта хаць-бы на адцінку рэволюцыйнага часу. Далей вызначаецца ўдзел рабочых у розных сходах і ў працы гэтых сходаў, а таксама самы ход сходаў: хто і як склікае, хто старшынуе, сакратаруе і г. д., хто і як выступае, якія пропозыцыі ўносяцца і прымаюцца і д. т. п. Калі хто не наведвае сходаў, то чаму. Як праходзіць компанія перавыбараў савету, коопэратыву, фабкому і д. т. п.; як праходзіць компанія самакрытыкі. Які ўдзел рабочых у падпісцы на газэты і часопісы, на пазыкі і д. т. п. Пасьля апісаньня названых момантаў трэба апісаць працу наяўных грамадзкіх організацый і ўдзел рабочых у іх: вытворчая камісія, камісія аховы працы, коопэрацыйная камісія і інш.; ячэйка ваяўнічых бязбожнікаў, ячэйка ТДАвіяхіму, ячэйка таварыства „Прэч няпісьменнасьць“, ячэйка таварыства прыхільнікаў дзяцей і інш.; гурток краязнаўства, літаратурны гурток, драматычны гурток, харавы гурток, палітгурткі, асьветныя гурткі, гурток вынаходцаў і інш. Які ўплыў на быт рабочых робіць гэтая і інш. праца рабочых. Удзел рабочых у клюбнай працы наогул, турызм сярод рабочых, наведваньне музэяў, кіно, тэатраў і д. т. п. — таксама павінна быць дакладна высьветлена і апісана. Асобна стаіць апісаньне выдатных рабочых і майстроў, ра-

бочых вынаходцаў, поэтаў, актораў, краязнаўцаў і д. т. п. з асяродзьдзя рабочых вывучаемага прадпрыемства.

У разрэзе ідэолёгічных формаў трэба ў першую чаргу выявіць старыя, варожыя новаму ладу формы, а ўласна: розныя забабоны, варажбу, знахарства, рэшткі веры ў душу, урокі, лячэньне шэптамі і д. т. п, а таксама вераваньні зьвязаныя з пахаваньнем і інш. Дальш трэба добра высьветліць і апісаць рэлігійнасьць розных груп рабочых: праваслаўных, каталікоў, юдэяў, мусульман і д. т. п. ды розных сэктантаў: беспапоўцаў, баптыстых, талстоўцаў і інш. Асобна трэба апісаць групы бязбожнікаў ваяўнічых і проста бязбожнікаў. Побач з гэтым апісваюцца дэмонолёгічныя, космогонічныя, культавыя, космографічныя, батанічныя і д. т. п. прадстаўленьні, вераваньні, забабоны і веды рабочых. Пасьля гэтага этнограф-краязнаўца павінен выявіць усе густы, запатрабаваньні, уяўленьні і д. т. п., а таксама творы мастацтва рабочых у галіне будаўніцтва, маляўніцтва, разьбы, музыкі і сьпеваў, танцаў і тэатру ды гульняў. Адначасна вывучаецца і вусная літаратурная творчасьць ды пісьмовыя літаратурныя пачынаньні рабочых у насьценгазэце і друку наогул і рабкораўская справа прыватна. Этнограф-краязнаўца павінен дакладна фонэтычна запісаць усе песьні рабочых, казкі, легенды, паданьні, анэкдоты, прыказкі, загадкі, замовы, элемэнты драмы і д. т. п., асобліваю ўвагу зьвярнуўшы на апавяданьні, легенды і д. т. п., зьвязаныя з рэволюцыйнымі падзеямі і рэволюцыйнымі дзеячамі. Падобна апісаньню і запісам вуснай творчасьці і мастацтва дарослых апісваецца і запісваецца і фольклёр дзяцей, на што раней, на жаль, мала зварачвалі ўвагі. Як вядома, пад дзяціным фольклёрам разумеюць увесь збор твораў, якія вядомы і не ўваходзяць у склад народнай творчасьці дарослых. Падобна апошняй, творы дзяцей часта адпавядаюць дзяцінаму календару, г. зн. пэўным момантам або порам году. Другая частка дзяцінага фольклёру не прымацавана да каляндарнага бегу часу. Наогул дзяціны фольклёр складаецца з каляндарных і некаляндарных песьняў, вершаў, заклінаньняў, дражнілак, лічылак, частагаворак, загадак, задач, прозьвішчаў, кпін, прымет, павер'яў, замоў, казак, і д. т. п., а таксама—з пэўнай часткі вусных твораў дарослых ды пераймаваньняў з кніжак. Падобна працы па зьбіраньню фольклёру дарослых трэба сабраць усе тэксты вуснай дзяцінай творчасьці дзяцей рабочых з паказаньнем мясцовай назвы твору, ад каго, калі, дзе і кім запісаны твор; падрабязна апісаць у якіх умовах, калі, з якой прычыны і г. д. даны твор пяецца, дэклямуецца, гаворыцца, ці выклікае ён якія новыя дзеяньні і інш., высьветліць наколькі магчыма, калі і пры якіх абставінах запісаныя творы зьявіліся сярод дзяцей рабочых данага прадпрыемства; пералічыць і апісаць найбольш выдатных выканаўцаў, іх якасьці, спосаб выкананьня, рэагаваньне слухачоў і г. д., і вызначыць колькаснае і тэрыторыяльнае распаўсюджаньне тэкстаў. Правілы запісу тэкстаў тыя самыя, што і пры запісу фольклёру дарослых. Таксама вывучаюцца і іншыя ідэолёгічныя формы дзяцей рабочых: мастацтва, веды і г. д. Асабліваю ўвагу ва ўсім разрэзе ідэолёгічных формаў трэба зьвярнуць на зьбіраньне слоўніка мовы рабочых абранага для вывучэньня прадпрыемства. Гэта павінна быць аднэй з першачарговых задач этнографа-краязнаўцы.

Калі падзел програмы вывучэньня быту рабочых на абмеркаваныя вышэй разьдзелы зьяўляецца штучным, то яшчэ больш штучным выходзіць вылучэньне разрэзу новага быту. Часта-густа старыя

формы пераплятаюцца з новымі, часта стары зьмест выяўляецца ў новых формах, а новы зьмест пануе ў старых і г. д. так, што разлучыць іх немагчыма. Тым болей немагчыма, што вывучэньне быту рабочых па папярэдніх разрэзах павінна весьціся ў гістарычным кірунку, дзе аглядаецца разьвіцьцё новага са старога на працягу часу. Але, калі ёсьць неабходнасьць зрабіць націск па новых формах быту або калі вывучаюцца толькі яны—неабходна програма іх вывучэньня ў такой меры, як і програма вывучэньня быту рабочых наогул. У ёй спачатку будзе вымаганьне выявіць новыя формы звычайных зьяў асабліва сямейнага быту і ідэолёгічных формаў: вясельля, хрэсьбін, хаўтур і г. д., ды атэістычнасьць і інш. Пасьля трэба будзе рабіць дэталёвае апісаньне таго, чаго ў старыя часы ў быце рабочых зусім ня было: бібліотэкі, клюбу, насьценгазэты, комсамолу, піонэраў, выхадцаў з рабочых у вышэйшыя школы, вылучэнцаў і д. т. п., што не ўспаміналася ў абмеркаваных раней разрэзах програмы вывучэньня быту рабочых данага прадпрыемства або групы іх.

Апісаньне быту рабочых пэўнага прадпрыемства ці групы іх, выкананае этнографам-краязнаўцам, можа быць аформлена ў відзе большага ці меншага артыкулу з далучэньнем да апошняга ўсіх іншых матар'ялаў, сабраных этнографам - краязнаўцам пра быт рабочых, а таксама ў выглядзе выстаўкі на тэму „Быт рабочых", якая можа адбыцца ў клюбе прадпрыемства ці мясцовым музэі, дзе зьявіцца заснаваньнем пэўнага аддзелу ці пад'аддзелу музэю. На выстаўцы могуць быць паказаны фотографіі, рысункі, малюнкі, пляны, графікі, дыяграмы, картаграмы, дзеньнікі рабочых, модэлі і аўтэнтычныя рэчы быту рабочых і наогул усё, што можа гаварыць пра быт рабочых.

Цяперака некалькі заўваг да данага артыкулу, які ня вычэрпвае пытаньня, а толькі ставіць яго. У ім гаворыцца пераважна пра тое, што трэба рабіць і не ўспамінаецца пра тое, як трэба рабіць. Таму нашай чарговай задачай зьявіцца як-мага больш дэталёвая распрацоўка пытаньняў, што трэба рабіць (у відзе агульнай програмы і програм па частковых пытаньнях), так, галоўным чынам, і таго як трэба выконваць вывучэньне быту рабочых (у відзе інструкцый і мэтодычных артыкулаў).

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

М. Валасэвіч.

## Семнаццаць дзён па БССР.

*(Экскурсія краязнаўчага гуртка 20 Менскай Фабр.-зав. сямігодкі).*

Мэтай экзкурсіі, праведзенай 20-ай Менскай Фабрычна-заводзкай сямігодкай з 15 чэрвеня па 1 ліпня 1929 году па маршруту: Менск—Ворша—Дуброўна—Асінбуд—Чашнікі—Лепель—р. Бяроза—Барысаў—Менск—зьяўлялася: а) азнаёміцца з краявідамі паўночна-ўсходняй часткі БССР, б) з буйнай прамысловасьцю краіны, в) з соцыялістычным будаўніцтвам Савецкай улады на абшарах БССР, г) пракласьці дарогу наступным вучнёўскім краязнаўчым экскурсіям на гэтым яшчэ мала вядомым маршруце, асабліва па р. Бярозе і Бярэзінскім канале.

Падрыхтоўка да экскурсіі пачалася за месяцы два да канца вучэбных заняткаў і складалася з мерапрыемстваў па адшуканьні сродкаў, укомплектаваньні асабістага складу экскурсіі, наладжваньні сувязі са школамі тых мясцовасьцяй, праз якія павінна была прайсьці экскурсія.

У мэтах адшуканьня сродкаў бюро краязнаўчага гуртка ўвайшло ў камісію па дапамозе бяднейшым вучням 20 школы з хадайніцтвам аб водпуску сродкаў на організацыю экскурсіі ў такім разьмеры, каб прыняць удзел у экскурсіі маглі матар'яльна незабясьпечаныя вучні.

Камісія па дапамозе бяднейшым вучням, разглядзеўшы на двох сваіх паседжаньнях хадайніцтва краязнаўчага гуртка, адпусьціла з сваіх сродкаў 83 рублі. У тых-жа самых мэтах патаненьня экскурсіі, а так сама і з мэтамі чыста організацыйнага парадку бюро краязнаўчага гуртка зьвярнулася ў Менскае Акруговае Т-ва Краязнаўства з хадайніцтвам аб водпуску літараў на льготны праезд па чыгунцы і аб організацыйнай дапамозе экскурсіі па лініі ўстанаўленьня сувязі з краязнаўчымі організацыямі тых месц і раёнаў, праз якія павінна была прайсьці экскурсія.

У выніку гэтых захадаў бюро краязнаўчага гуртка 20-ай школы ў распараджэньне экскурсіі было адпушчана 8 літароў на права атрыманьня 50% скідкі пры праезьдзе па чыгунках і, апроч гэтага, была дадзена 1 літара слухачу 2 Менскіх агульна-адукацыйных курсаў, які выказаў жаданьне далучыцца да экскурсіі і быў вядомы Менскаму Акр. Т-ву Краязнаўства, як пераканаsuccessful краязнаўца.

Падрыхтоўка да экскурсіі ў напрамку комплектаваньня асабістага складу экскурсіі пачалася нават з пачатку навучальнага году, калі ў плян працы краязнаўчага гуртка было пастаўлена організацыя дальняй экскурсіі пасьля сканчэньня вучэбных заняткаў. За месяцы $1^1/_2$ да канца заняткаў на паседжаньні краязнаўчага гуртка быў заслуханы

даклад кіраўніка гуртка і прыняты самы маршрут экскурсіі—Менск—Ворша—Дуброўна—Асінбуд—Чашнікі—Лепель—р. Бяроза—Барысаў—Менск. Апроч разгляду гэтага пытаньня на паседжаньні краязнаўчага гуртка, была вывешана ў школе падрабязная абвестка аб намечанай экскурсіі і ўмовах удзелу ў ёй для ўсіх жадаючых.

Былі пададзены заявы ад сямі вучняў 20 школы, пажадаўшых прыняць удзел у экскурсіі і зрабіўшых грашовыя ўзносы ад 3 р. 50 к. да 8 рублёў на чалавека, усяго ў суме 42 р. 50 кап., а калі да гэтага дадаць адзінаццацірублёвы ўзнос слухача 2 Менскіх агульна-адукацыйных курсаў, то сума ўсіх грашовых узносаў вучняў, удзельнікаў экскурсіі, складала 53 р. 50 кап., што з сродкамі адпушчанымі школай складала разам 136 руб. 50 кап.

Экскурсія намячалася мяшанага тыпу: паездка па чыгунцы, пехатой і па вадзе ў лодцы. У зьвязку з гэтым паўстала пытаньне надзвычайнай важнасьці—здабыць лодку ў Чашніках або Лепелі, досыць прасторную і ўстойлівую, на 9-10 чалавек удзельнікаў экскурсіі і пудоў 10 грузу.

З мэтай адшуканьня адпаведнай лодкі бюро краязнаўчага гуртка зьвязалася з загадчыкамі, а праз іх і з вучнёўскімі організацыямі Лепельскай і Чашніцкай беларускіх сямігодак. З Лепеля ад загадчыка школы атрымаўся адказ, што лодкі патрэбных разьмераў у Лепелі знайсьці нельга, але замест аднэй вялікай можна знайсьці дзьве лодкі сярэдніх разьмераў. З Чашніцкай сямігодкі бюро краязнаўчага гуртка ніякага адказу не атрымала, але спраўкі па гэтым пытаньні наводзіліся, і лодка, адпавядаючая пастаўленым умовам, на выпадак прыезду нашай экскурсіі, была падрыхтавана.

Такім чынам, пытаньне аб лодцы ня было здавальняюча разьвязана да самага ад'езду экскурсіі з Менску, бо ўзяць дзьве меншыя лодкі пры адным кіраўніку экскурсіі і пры неабходнасьці праплысьці цэлы шэраг глыбокіх, вялізарных і бурных вазёр—зьяўлялася з пункту погляду кіраўніка экскурсіі небясьпечным. Прышлося вырашэньне гэтага пытаньня адкласьці да прыезду на месца ў Чашнікі або Лепель.

* * *

*Ад Менску да Дуброўны.* Наша экскурсія выехала з Менску 15 чэрвеня і 16-га а 3 гадзіне раніцы была ўжо ў Воршы. У чыгуначнай 9-цігодцы, якая знаходзіцца ў 5 мінутах хады ад вокзалу, усё яшчэ спала, і мы разьмясьціліся на дварэ клюбу чыгуначнікаў, побач з 9-цігодкай. Хутка была прынесена са станцыі гатаваная вада, напіліся гарбаты, пасьнедалі, а затым вучні пачалі гуляць і займацца гімнастыкай на фізкультурнай пляцоўцы пры клюбе. А 7-ай гадзіне мы пабудзілі тэхпрацаўніка школы, які, з дазволу намесьніка загадчыка, адчыніў нам дзьве клясы. Пасьля нядоўгага адпачынку, гадзін у 11 мы накіраваліся ў горад.

Дарога вельмі добрая, брукаваная, абкраеная дрэвамі, і 4 км, якія аддзяляюць горад ад станцыі, мы прайшлі зусім няпрыметна.

Прамінулі шчыльна застаўлены сялянскімі вазамі базар, прайшлі па галоўных вуліцах, прыгожых, чыстых, і спыніліся ў гарадзкім садзе, а я з адным вучнем пайшоў даведацца, якім чынам можна дастацца да Дуброўны.

На прыстані нам адказалі, што параходы ў Дуброўну ходзяць толькі вясной, а ўлетку параходны рух спыняецца з прычыны мелкаводзьдзя на Кабяляцкіх парогах. Аўтобусы ў Дуброўну таксама ня

ходзяць з-за дрэннай дарогі. Нам не заставалася нічога іншага, як ісьці пехатой. Знайшлі на базары селяніна, які вяртаўся ў Дуброўну паклалі свае рэчы на фурманку і пад наглядам двох вучняў адправілі яе ўперад, а самі праз паўгадзіны рушыліся пехатой.

Ад Воршы да Дуброўны 19 км. Дарога спачатку аднастайная, з беднымі засевамі па бакох, бліжэй да Дуброўны робіцца ўсё больш прыгожай: яна то бяжыць па дне глыбокага яру, то падымаецца высока на гару, па краёх дарогі па крутых абрывах сярод зелені хаваюцца хутары, срэбрам бліскаюць ручаі. У 4 км. ад Дуброўны вабіць вока зялёны, засаджаны лісьцьвеніцай, лес.

Вось паказаўся комін Дубровенскай фабрыкі, а затым і самы горад.



Мал. № 1. Фабрыка „Дняпроўская мануфактура" ў м. Дуброўне.
Мал. В. Класінскага.

Мы прышлі ў Дуброўну каля 9 гадзіны вечара і разьмясьціліся ў школе 4-летцы на канцы гораду каля млыну. Нашы рэчы ўжо былі там. 17 чэрвеня раней, чым ісьці на фабрыку, мы пасьпелі агледзець Дубровенскі парк—лепшую аздобу гораду. Гэты парк належаў раней да князёў Любамірскіх і быў месцам іх летняга адпачынку, а цяпер у двохпавярховым каменным доме зьмяшчаецца беларуская сямігодка, а побач у новым драўляным гмаху—яўрэйская. Самы парк чаруе вока сваім дзікім хараством: за зялёную агароджу з адвечных ліп і клёнаў не дасягае гоман гораду; нярухома стаяць белыя бярозы; стромкія абрывы, пазарасталыя дрэвамі і хмызьняком, зьбягаюць у зялёныя лагчыны; пакрыты кветкамі луг туліцца да рэчкі, якая ціха цячэ і хаваецца ўдалі; за ракой пачынаецца пладовы сад.

Вечарам у парку зьбіраецца ўся Дубровенская моладзь; гэта звычайнае месца пагулянак і адпачынку. Агледзеўшы парк, мы накіраваліся на фабрыку.

## Тэкстыльная фабрыка „Дняпроўская мануфактура" ў м. Дуброўне.

Дубровенскія саматужнікі здаўна займаліся ткацкім рамяством, тут ткаліся лепшыя талесы, якія знаходзілі шырокі збыт сярод яўрэйскага насельніцтва. У 1901 годзе т-ва ЕКО пабудавала фабрыку, якая працавала да 1923 году. У 1923 годзе яна застанавілася і пачала зноў працаваць у 1925 г., як працколектыў. З 1928 году ф-ка перайшла ў веданьне ВСНГБ.

У сучасны момант ф-ка налічвае 716 чалавек рабочых і 22 ч. служачых.

Пры фабрыцы ёсьць клюб і бібліотэка, 60% усіх рабочых выпісваюць газэты, і % няпісьменных вельмі малы. Для дзяцей рабочых організаваны яськлі, якімі ахоплена 40 дзяцей. Сярэдняя зарплата рабочага складае—56 рублёў, ніжэйшая—38 р. Зарплата служачых вагаецца ад 55 р. да 250 (майстар) у месяц.

*Організацыя вытворчасьці.* Сыравінай для фабрыкі зьяўляецца пража, паўфабрыкат, які дастаўляецца з Маскоўскіх, Ленінградзкіх, Ярослаўскіх і Уладзімірскіх прадзільных фабрык. Пража паступае перш за ўсё ў матальнае аддзяленьне, дзе на матальных машынах,



Мал. № 2. Школа 4-годка ў Дуброўне.

Мал. В. Класінскага.

сыстэмы Блата, маткі пражы перамотваюцца на катушкі або шпулькі. Шпулькі ідуць далей у ткацкае аддзяленьне і закладаюцца ў чаўнакі, а катушкі перадаюцца ў снавальнае аддзяленьне, устаўляюцца ў вялікую раму снавальнай машыны, і ніткі з іх зматываюцца на аснову (вялізную катушку). Асновы паступаюць далей у шліхтавальнае аддзяленьне, дзе на шліхтавальнай машыне некалькі нітак склейваюцца ў адну, пасьля чаго ніткі выходзяць мацнейшымі і лепшымі. Асновы з праклеенымі ніткамі ідуць ужо непасрэдна на ткацкія станкі.

Большасьць ткацкіх станкоў сыстэмы братоў Лянгэ Лодзь (Lange Lòdź). Другое месца па колькасьці займаюць станкі сыстэмы Маскоўскага т-ва мэханічных вырабаў 1904 году. У сучасны момант ставіцца 114 станкоў-аўтоматаў сыстэмы Нортроп, якія значна павялічаць продукцыю фабрыкі. Усяго ткацкіх станкоў 309. На адным станку выпрацоўваюць за 8 гадзін ад 25 да 30 мэтраў тканіны.

З ткацкага аддзяленьня частка тканіны ідзе ў фарбовачнае аддзяленьне, а рэшта ў апратурнае. У фарбовачным аддз. афарбоўваецца пража ў матках і гатовая тканіна. Пража фарбуецца ў вялікіх карытах „барках“, а тканіна ў „джыгірах“—чанах з 8 валамі; пры дапамозе валаў тканіна праходзіць праз афарбаваную ваду і затым, як і маткі, паступае ў сушню. Высахшыя ніткі ідуць у матальнае аддзяленьне, а тканіна—у апратурнае. У апратурным аддз. мануфактура канчаткова ачышчаецца, вымерваецца, пакуецца і гужавым шляхам ідзе да ст. Асінаўка, а адтуль па чыгунцы развозіцца па ўсёй БССР. Увесь выпрацаваны тавар збываецца ў межах БССР: 90% праз Белкаапсаюз і 10% у працколектывы. Усе накладныя выдаткі складаюць 5% (2,4 кап. на 1 мэтар). Прадаецца выпрацаваны тавар за 54 кап. сярэдні мэтар. Сярэдні чысты прыбытак ф-кі складае 7% (каля 3,5 кап. на 1 мэтар).

Продукцыя фабрыкі за 1926—29 гг. выяўляецца ў наступных лічбах:

| Гады | Продукцыя ф-кі (колькасьць у тысячах мэтраў). |
|---|---|
| 1926-27 . . . | 3540 |
| 1927-28 . . . | 3980 |
| 1928-29 . . . | 4450 |

Спажываньне пражы ў 1927-28 гасп. годзе дасягала 392 тон, а ў 1928-29 г. мяркуецца спажыць 650 тон пражы.

Апал (дровы) для фабрыкі дастаўляецца па Дняпры на лайбах, торф ідзе з Асінторфу, які знаходзіцца ў 14 кл. ад ф-кі. Рухавікамі ф-кі зьяўляюцца паравая машына сыстэмы Зулацэр у 200 конскіх сіл, апрача таго ўстанаўліваецца нафтавы рухавік у 35 конскіх сіл. Асьвятленьне электрычнае, электрычнасьць вырабляе сама ф-ка пры дапамозе дынама-машыны.

### На дубе праз Кабяляцкія парогі.

Пасьля агляду фабрыкі а 5-й гадзіне вечару мы пайшлі на прыстань, каб па Дняпры праз Кабяляцкія парогі дабрацца да Воршы.

Вялізны дуб чалавек на 40 лёгка ідзе за вадой. Часам над паверхняй ракі падымаецца мяцёлка або рабая палка, і лодачнік тлумачыць нам, што яны адзначаюць мялізны і каменьні.

Уздоўж берагу цягнуцца сенажаці, яловыя і бярозавыя лясы аж да самай вёскі Кабялякі. Тут пачынаюцца Кабяляцкія парогі.

Ноч ужо спусьцілася на зямлю, узышоў месяц. Здалёк мы пачулі, як шуміць вада, самых каменьняў ня было відна, але вада над імі кіпела нібы вар, падымаючы белую пену.

Лодачнік накіраваў лодку паміж каменьняў, яна падскаквае і кружыцца, але хутка мы выяжджаем на спакойную ваду і плывом далей.

Нечакана за адным з паваротаў паказаліся агні далёкай Воршы, патроху яны робяцца ўсё бліжэй, і мы падплываем да Варшанскага маста, выходзім на бераг і на аўтобусе едзем у знаёмую 9-годку.

### Асінбуд.

Рабочы пасёлак і часовая электрастанцыя ў Выдрыцы.

18 чэрвеня а 3-й гадзіне дня мы выехалі з Воршы на ст. Хлюсьціна, а з Хлюсьціна спэцыяльным цягнікам з адным таварным вагонам

у Выдрыцу. Ад Хлюсьціна да Выдрыцы 7 кл. Гэта ветка знаходзіцца ў веданьні Асінбуду.

У пасёлку Выдрыца знаходзіцца часовая электрастанцыя ў 750 к. с., якая падае з Выдрыцы электрычную энэргію на ўсе раскінутыя на прасторы 17 км. работы ў Выдрыцы, Арахох і Шыбанох. У Выдрыцы таксама знаходзіцца галоўнае кіраўніцтва Асінбуду. Галоўны інжынер т. Алейнікаў вельмі ўважліва аднёсься да экскурсіі і даў нам адпаведнага кіраўніка, які дапамог нам падрабязна азнаёміцца з работамі ў Выдрыцы.

Найбольш цікавым у Выдрыцы зьяўляюцца Выдрыцкая часовая электрастанцыя і рабочы пасёлак Выдрыца.



Мал. № 3. Рабочы клюб у Выдрыцы.

Мал. Я. Хадыкі.

На электрычнай станцыі перш за ўсё нам кінуліся ў вочы тры вялізныя лёкамабілі, яны прыводзяць у рух генэратары, якія выпрабляюць электрычную энэргію. Агульная моц лёкамабіляў 750 конскіх сіл; пры ўціску ў 12 атмосфэр яны даюць 6600 вольт.

Апальваюцца лёкамабілі торфам, які прывозіцца з Арахоў.

Непадалёку ад электрастанцыі знаходзіцца ваданапорная станцыя, яна атрымоўвае энэргію ад электрастанцыі і ў замен дае ёй ваду.

Энэргіяй Выдрыцкай электрастанцыі карыстаюцца наступныя месцы: самы пасёлак Выдрыца, ваданапорная станцыя, шаса Выдры-

ца — Арахі, самыя Арахі і торфараспрацоўкі ў Шыбанох, якія знаходзяцца на адлегласьці 14 км. ад Выдрыцы.

Праца на электрастанцыі вядзецца ў дзьве зьмены.

*Рабочы пасёлак Выдрыца.* Рабочы пасёлак Выдрыца раскінуўся па абодвых баках вуліцы. З будынкаў грамадзкага карыстаньня трэба адзначыць: 1) лазьню, якая працуе 4 дні ў тыдзень, 2) паштовае аддзяленьне і касу ашчаднасьці, 3) рабочы коопэратыў і ларок для выдачы хлеба, 4) клюб і 5) больніцу.

Памяшканьне клюбу разьлічана на 200 чалавек. Клюб адчынены кожны дзень ад 6 да 10½ гадзін вечара. У клюбе ёсьць радыё-прыёмнік і кіно-апарат. Узімку кіно-пастаноўкі рабіліся два разы ў тыдзень, а ўлетку адзін раз у тыдзень. Пры клюбе ёсьць каштоўная бібліотэка (2000 кніг) і пры ёй чытальня, у якую выпісваецца шмат газэт і часопісаў. Апрача гэтага пры клюбе выдаецца насьценная газэта „Элэктролуч“, і комсамольская ячэйка выдае кожны месяц па аднаму нумару „Лісток лёгкай кавалерыі“.

Рабочы клюб у Выдрыцы разгарнуў вельмі шырокую культ-працу. Пры клюбе працуюць: партгурток, комсамольскі гурток, санітарны і стралковы гурткі, гурток осоавіяхіму, гурток сувязі і хэмічнага дзела, харавы і драмгурток.

Спэктаклі ў клюбе ставяцца звычайна два разы ў месяц. Кожная п'еса ставіцца пяць разоў: у Арахох, Шыбанох, у падшэфнай часьці ў Воршы, у Выдрыцы, зноў у Воршы ў саюзе будаўнікоў. Акрамя сваіх сіл, спэктаклі ставяць і прыежджыя трупы.

Клюбам адпушчана 1100 рублёў на пабудову фізкультурнай пляцоўкі. Пашыраны гульні ў баскетбол, футбол, лыжны і грэбны спорт.

Выдрыцкая больніца мае пэўны штат мэдычнага пэрсоналю: адзін доктар—хірург, адзін зубны ўрач, адзін фэльчар, адна мэдычная сястра. Пры больніцы дзьве палаты—разам на 8 чалавек стацыянарных хворых.

Для рабочай сталоўкі ў Выдрыцы пабудавана спэцыяльнае памяшканьне: уцяплёны барак. Адначасова сталоўка можа прапусьціць 65 чалавек абедаючых. Абед каштуе 35 капеек.

Апроч пералічаных будынкаў, у Выдрыцы налічваецца 8 дамоў з кватэрамі для сямейных рабочых па 6-7 кватэр у кожным доме. У большасьці выпадкаў кватэра рабочага складаецца з 1 пакою і кухні. Пры кожным доме ёсьць сараі для дроў.

Акрамя дамоў для сямейных рабочых, ёсьць дамы, адведзеныя пад агульныя памяшканьні для адзінокіх рабочых. Кожны такі дом разьлічаны на 25 чалавек адзінокіх рабочых па 2-3 чалавекі ў адным пакоі.

Бяз усякага папярэджаньня мы зайшлі ў агульнае памяшканьне для служачых, і яно зрабіла на нас добрае ўражаньне сваёй чыстатой і акуратнасьцю.

Пасёлак у Выдрыцы будуецца з усімі тымі тэхнічнымі дасягненьнямі, якія маюць месца ў вялікіх гарадох: тут і электрычнае асьвятленьне і каналізацыя. Электрычнасьцю асьвятляецца нават самая шаса, якая ідзе з Выдрыцы ў Арахі на работы Белдзяржбуду і Энэргабуду.

На работах Асінбуду ёсьць моцны партколектыў, які складаецца з трох партыйных ячэек: у Выдрыцы, Арахох і Шыбанох.

Комсамольскія ячэйкі налічвалі ў чэрвені месяцы ў Выдрыцы 65 сяброў, у Арахох—30 чалавек, у Шыбанох—30 чалавек. Ёсьць атрад піонэраў у 45 чалавек.

На азнаямленьне з работамі ў Выдрыцы пашоў увесь вечар 18 і раніца 19 чэрвеня. Начавалі мы ў Выдрыцкім рабочым клюбе. Дзякуючы клопатам адміністрацыі, мы спалі з такімі выгодамі і комфортам, якіх мы ня бачылі ўжо ад самага выезду з Менску. На другі дзень, пасьнедаўшы ў Выдрыцкай рабочай сталоўцы, мы адправіліся пехатой у Арахі—на адлегласьці 2 кілёмэтраў ад Выдрыцы.

*Жыльлёвае будаўніцтва Белдзяржбуду ў Арахох.* Падыходзячы да Арахоў, ужо здалёк бачыш каменныя трохпавярховыя будынкі; іх простыя, але стыльныя абрысы прыгожа малююцца на ясным небе, нагадваючы нам дом Селяніна ў Менску,—гэта і ёсьць жыльлёвае будаўніцтва Белдзяржбуду.

Тры трохпавярховыя дамы тыпу № 1 разьлічаны на 24 кватэры кожны. Квартэры па 2-3 пакоі з ваннай, паравым цэнтральным апалам, электрычнасьцю. Пры кожнай кватэры балькон і кладоўка, у кухні пліта з асобным апалам кожная. Пры пэўным запасе электрычнай энэргіі Асінбуду пліты будуць пераведзены на электрычны апал. Працу Белдзяржбуд распачаў у пачатку 1927 году. Да цяперашняга часу пабудавана 7 каменных дамоў трох тыпаў.

У будучым мяркуецца пабудаваць лазьню, пральню, агульнае памяшканьне для прыяжджаючых і 3 котэджы для служачых, клюб, амбуляторыю, школу і коопэратыў, прakласьці вуліцы, засадзіць сады і палісаднікі. Сталага вадаправоду пакуль што ў Арахох няма, а ёсьць часовы, але па сканчэньні жыльлёвага будаўніцтва, будзе пабудавана вежа з рэзэрвуарам, з якога вада будзе падавацца на ўсе тры паверхі. Рабочых на Белдзяржбудзе 349 чалавек. Вышэйшым органам будаўніцтва зьяўляецца ВСНГБ.

Пабудова галоўнага гмаху Асінаўскай электрастанцыі імя Сталіна спроектавана і вядзецца нашым Савецкім т-вам Энэргабудам. Асінаўская электрастанцыя будзе абслугоўваць Віцебск, Шклоў, Дуброўну, Воршу, Барань, Копысь, Якаўлевічы і Магілеў; электрастанцыя пачне працаваць у гэтым годзе. Пакуль што будуецца галоўны чатырохпавярховы будынак станцыі, які і будзе скончаны сёлета. У сучасны момант ужо зроблены сьцены і дах. На пабудове заняты 2 інжынеры, 8 тэхнікаў і 255 чалавек рабочых; зарплата вагаецца ад 1 р. 50 кап. (чорнарабочы) да 5 р. 50 кап. (інжынер).

Увесь будынак з жалезу і бэтону; апошні робіцца тут-жа ў вялікіх бэтона-мяшалках. Уся праца мэханізавана, машыны рухаюцца пры дапамозе электрычнасьці з Выдрыцкай часовай электрастанцыі. Калі пачне працаваць Асінаўская электрастанцыя, то яна дасьць ток і Выдрыцы, а Выдрыцкая станцыя скасуецца.

Нахілена да галоўнага будынку станцыі будзе знаходзіцца роўніца, паднятая аж да 4-га паверху; пракладзеныя па ёй рэйкі пойдуць далей па ўсім 4-ым паверсе. Цягнік з ваганеткамі, поўнымі торфу, пры дапамозе электрычнай лябёдкі, будзе падымацца па рэйках на 4 паверх, там дно ваганетак аўтоматычна адчыняецца, торф высыпаецца ў дзіры, зробленыя паміж рэйкамі, і трапляе проста ў топку, якая награвае катлы.

Торф будзе прыводзіцца з Асінторфу, які знаходзіцца на адлегласьці 12 км. ад Асінбуду. Катлоў на станцыі будзе тры, два працуючых і адзін запасны. Ваду для катлоў дасьць Арахоўскае возера ў 5 км. даўжынёю і шырынёю ў 2 км. Кожную гадзіну катлы будуць спажываць 10 тысяч вядзёр вады, а ў суткі 240 т. вядзёр. Калі ўся вада з Арахоўскага возера страціцца, то непадалёку ёсьць яшчэ адно

досыць вялікае возера. Арахоўскае возера знаходзіцца ад электрастанцыі на адлегласьці ўсяго 500 мэтраў.

Электрастанцыя будзе складацца з наступных аддзяленьняў: кацельнага, дзе будуць знаходзіцца катлы; насоснага і дымасоснага, дзе будзе накачвацца вада ў катлы і выкачвацца і разганяцца дым са станцыі; машыннага, дзе будуць знаходзіцца дынама-машыны, генэратары і іншыя.

Разьмеркавальная саля будзе разьмяркоўваць выпрацаваны ток у патрэбнай колькасьці па ўсіх раёнах і акругах, якія будуць абслугоўвацца Асінбудам. Электрастанцыя будзе моцнасьцю ў 33 т. кілёват.



Мал. № 4. Галоўны гмах Асінаўскай электрастанцыі, чэрвень 1929 г.
Мал. В. Класінскага.

Штат рабочых і служачых будзе складацца з 360 чалавек. Дзякуючы вялікім вокнам праз увесь будынак, станцыя будзе вельмі сьветлай.

Асінаўская электрастанцыя будзе абслугоўваць значную частку паўночна-ўсходняй БССР; фабрыкі і заводы, гарады і далёкія глухія вёскі атрымаюць ад яе сілу і сьвятло. Асінбуд зьяўляецца вялікім крокам да соцыялізму.

### Асінторф (Вёска Шыбаны).

Ад Арахоў да Шыбаноў, дзе знаходзяцца торфараспрацоўкі Асінбуду, 12 кілёмэтраў. Было ўжо 6 гадзін вечара. Замест таго, каб прайсьці гэтую адлегласьць пехатой, мы вярнуліся на чыгуначнай дрызіне праз Выдрыцу на ст. Хлюсьціна. Пераначаваўшы на станцыі, мы раніцай выехалі з Хлюсьціна па чыгунцы да ст. Асінаўка, ад якой да торфараспрацовак мы прайшлі 6 клм. пехатой па добрай дарозе.

Прышлі мы ў Шыбаны 20 чэрвеня ў 7½ гадзін раніцы, аглядзелі 4 рабочыя пасёлкі, пабылі ў канторы і рабачкоме і пайшлі на торфараспрацоўкі.

Торфараспрацоўкі займаюць плошчу даўжынёю ў 4 км. і шырынёю ў 340 м. Торф тут апрацоўваецца поўмашынным, поўручным спосабам. Ёсьць 7 торфаздабываючых машын прыблізна аднэй і тэй-жа конструкцыі, усе яны пабудаваны на савецкіх заводах. Кожная з машын складаецца з наступных частак:

1) элеватарная частка,
2) трансмісіённая частка,
3) прэсавая частка,
4) транспарцёрная частка.

Элеватарная частка машыны апушчаецца ў роў, які капаюць рабочыя кар'ершчыкі; апошнія лапатамі кідаюць тарфяную масу ў эле-



Мал. № 5. Пажарная вежа ў Шыбанох.

Мал. Я. Хадыкі.

ватар, і яна па бесканцовай істужцы падаецца ўверх у прэс, дзе маса прасуецца, і, выходзячы з прэса, пападае на формавальную дошку; каля самай машыны стаіць рабочы, які даўгім нажом расьсякае тарфяныя пліткі на дзьве часткі, а формавальная дошка з тарфянымі цэгламі пераходзяць на транспарцёрную частку — на бесканцовыя драцяныя канаты даўжынёй у 220 мэтраў, якія цягнуць дошку з тарфянымі цэгламі далёка ад машыны. Рабочыя здымаюць гэтыя формавальныя дошкі з драцяных канатаў, тарфяныя цэглы сьцелюць на полі, а формавальныя дошкі зноў чапляюць на два ніжнія драцяныя канаты, і яны зноў бягуць да машыны. Поле дзеліцца на вучасткі-карты, даў-

жынёй у 120—125 сажняў і шырынёй у 20—25 сажняў. Паміж картамі пракапаны канавы; кожная карта ў сваю чаргу дзеліцца на халсты, па 7-8 у кожнай карце. Тарфяныя цэглы сушацца тут каля 2 тыдняў.

Тарфяная машына прыводзіцца ў рух электрычным моторам у 50 конскіх сіл. Электрычную энэргію падае Выдрыцкая электрастанцыя. Кожная машына абслугоўваецца арцельлю ў 30 чалавек. Зарплата рабочых залежыць ад колькасьці выпрацоўкі. За кожную 1000 шт. тарфяной цэглы плацяць 2 руб. 25 кап., і арцель у 30 чалавек выпрацоўвае ў сярэднім 40.000 штук тарфяной цэглы ў дзень, што складае ў сярэднім 3 рублі ў дзень на 1 чалавека.

Праца ідзе ў дзьве зьмены па 8 гадзін кожная зьмена.

На торфараспрацоўках занята ўсяго 815 чалавек, з іх 615 мужчын і 200 жанчын; большасьць рабочых — разанцы, якія добра ведаюць працу пры тарфяных машынах; беларусаў мала, але колькасьць іх паступова павялічваецца.

Рабочыя і служачыя жывуць у 4 пасёлках (усяго каля 40 дамоў). Для рабочых пабудаваны баракі; кожны барак абслугоўваецца аднэй уборшчыцай. Ёсьць бясплатная лазьня, адчыненая штодзённа. На кожныя 60 чалавек ёсьць асобная сталоўка і на кожныя 30 чалавек (арцель) ёсьць асобная кухарка. Сьнеданьне, абед і вячэра каштуюць 75 к. у дзень. У клюбе працуе цэлы шэраг гурткоў і камісій, бываюць кіно і дрампастаноўкі. Апроч гэтага пры клюбе ёсьць добрая бібліотэка з 850 кніжак і чытальня, у якой выпісваецца 25 розных часопісаў і газэт, выдаецца насьценная газэта.

У клюбе часта праводзяцца лекцыі агрономічнага, мэдычнага і наогул навуковага зьместу. Організаваўся лікпункт (з 200 разанцаў — 90 няпісьменных). У бараках 2 разы ў тыдзень праводзіцца чытка газэт.

Рабочыя працуюць сэзонна—усяго 4 месяцы. Па профлініі арцелі зьвязваюцца з рабачкомам праз профупаўнаважаных, якія ўваходзяць у рабачком і праз якіх праводзіцца ўся праца па арцелях.

Служачыя—інжынеры, тэхнікі, дзясятнікі, усяго 26 чалавек—жывуць таксама ў пасёлках, але ў паасобных кватэрах і працуюць на торфараспрацоўках увесь год.

Мы агледзелі адзін дом з кватэрамі для служачых, зайшлі ў барак для сэзонных рабочых, агледзелі сталоўку для сэзоньнікаў, — і гэты агляд зрабіў на ўдзельнікаў экскурсіі добрае ўражаньне.

Акрамя жылых дамоў і баракаў, пры пасёлках ёсьць коопэратыў, пошта, мэдпункт, пажарная каманда.

Торфараспрацоўкі пачаліся ў Шыбанох у маі 1918 году ў веданьні Аляксандраўскай чыгункі. Увесь здабыты торф ішоў на патрэбу Дняпроўскай мануфактуры і Аляксандраўскай чыгункі. У веданьне Асінбуду торфараспрацоўкі перайшлі ў верасьні 1927 году. З 16 мая па 20 чэрвеня бягучага году было выпрацавана 11.255.216 штук тарфяной цэглы вагой у 15.061 тону. Сабекошт пуду зусім гатовага торфу складае 13 капеек. Здабытак у 1927—28 годзе складаў 10.330.000 штук тарфяной цэглы вагой у 14.200 тон, у 1928—29 годзе—у 3 разы больш.

К 12-ай гадзіне дня мы скончылі азнаямленьне з торфараспрацоўкамі, шчыра падзякавалі дзесятніка, які так ахвотна тлумачыў нам працу тарфяной машыны, разьвіталіся з адміністрацыяй торфараспрацовак і накіраваліся назад у Асінаўку, каб адтуль адправіцца ў Воршу і далей на Чашнікі.

(*Канец будзе*).

З. Бядуля.

# З краязнаўчага блёк-ноту пісьменьніка.

## Лірыка мястэчка Койданава.

У часы недалёкага дарэволюцыйнага мінулага Койданава славілася на Меншчыне і Віленшчыне дзьвюма рэдкасьцямі: коньмі і хасыдзкім „рэбэ“.

За соткі вёрст цягнуліся ў Койданава па коняй, адтуль „канюхі“ (гандляры коньмі—яўрэі, а часам і цыганы) езьдзілі назад з багатым таварам — з табунамі коняй па шэсьць і па 10 штук. У Койданава па коняй прыяжджалі з Прусаў і вагонамі адпраўлялі за межы Койданаўскіх вялікіх, круглых і шпаркаходных коняй. Конскія рынкі былі надзвычайна жывыя. Там вакол продажы і куплі коняй круціліся розныя „спэцы“ — макляры, конакрады, сьцябальшчыкі, якія падбадзёрвалі коняй пугамі; калі конь быў „падлай“, дык апойвалі яго гарэлкай, падкладвалі пад хвост гарачую бульбу, што памагала шпаркаму бегу— і „здыхляціна“ рабілася „арлом“; былі конскія „дандысты“, яны шліфавалі зубы старому каню. Пятнаццацігадовы каняка выходзіў з іх рук „пяцігадовым конікам“.

За соткі вёрст — і нават з-за межаў — прыяжджалі таксама да койданаўскага хасыдзкага „рэбэ“. З старадаўных часоў гэтыя яўрэйскія „цадыкі“ („праведнікі“ і „мудрацы“) мелі ў Койданаве сваю рэзыдэнцыю каля „штыбель“ (хасыдзкая сынагога). Былі тут розныя дынастыі. Апошнія — рэб Арэлэ і рэб Ёсіфке. Рэзыдэнцыя „рэбэ“ займала нізкую плошчу (каля конскага рынку), забудаваную памяшканьнямі службы і палацаў „рэбэ“. Да „рэбэ“ зьвярталіся па розных пытаньнях: парады ў гандлёвых справах, на лячэньне ад розных хвароб; прыяжджалі бязьдзетнікі, аб чым сярод „міснагдаў“ (рэлігійныя праціўнікі хасыдаў) складалася шмат анэкдотаў аб тым, што „рэбэ“ памагае бязьдзетным, калі жонка бяз мужа прыяжджае. За ўсялякія такія „дапамогі“, „блаславленьні“ і „парады“, „рэбэ“ браў „під‘ён“ — выкуп. Грашовыя выкупы бывалі розныя — і багатыя і бедныя, часта ўстанаўліваліся таксы па 1, па 2, па 3 рублі за візыт. Гэта давала магчымасьць сям‘і „рэбэ“ езьдзіць на курорты за межы і жыць вельмі багата. „Прыстойныя“ пацыенты „рэбэ“ — купцы розных гільдый, фабрыканты— давалі па 25, па 100 і больш рублёў.

Уплыў „рэбэ“ быў такі моцны, што нават і не яўрэі зьвярталіся да яго. Ён карыстаўся вялікай апекай царызму. „Рэбэ“ надавалі годнасьць „почетнаго гражданина“ Царскі ўрад вельмі добра разумеў значэньне „рэбэ“, які ўмее трымаць сваё стада ў „страху божым“, у малітве за „царя-батюшку“.

У рэлігійныя васеньнія сьвяты да „рэбэ“ цягнуліся „падданыя“— паломнікі-хасыды з розных канцоў Беларусі. Яны пакідалі свае сем‘і на цэлы месяц. Кожны з іх прыносіў з сабою грашовы пай, каб толькі быць разам з „рэбэ“, чуць з яго вуснаў „божыя словы“, любавацца яго „божым тварам“, пакаштаваць астаткі („шыраім“) з яго „божага“ стала, разам з ім маліцца і сьпяваць хасыдзкія эксцэнтрычныя песьні.

Былі створаны спэцыяльныя культы ўшанаваньня „рэбэ“, Потым песьні, — і вясёлыя і мэлянхолічныя, якія расьпяваліся пры ім, разносіліся ў розныя мястэчкі Беларусі паломнікамі-хасыдамі.

„Рэбэ“ з сваёй сям'ёю выехаў з Койданава ў часы вайны. Яго будынкі згарэлі. Аб тоўстай дзесяціпудовай „рэбіцэн“ (жонка „рэбэ“) яшчэ і цяпер койданаўскія міснагдым розныя анэкдоты расказваюць: яе кармілі „кашэрнымі яйкамі з яўрэйскіх курэй“, насілі на насілках, як рымскую патрыцыянку і інш.

Сваім жыцьцёвым укладам, калі адняць гэтыя дзьве рэдкасьці — „рэбэ“ і коні — Койданава падобна да іншых мястэчак яўрэйскага былога гетта на Беларусі.

У мінулым — крамнікі, гандляры збожжам, коньмі, жывёлай, мясьнікі, „мэламэды“, некалькі дробных фабрыкантаў, краўцы, шаўцы, сталяры, цесьляры, кавалі, балаголы, рабочыя на заводах і інш.

Кожны крамнік, гандляр, і нават рамесьнік, меў „свайго“ пана, якога абслугоўваў, які даваў яму заробак. Кожны меў нават і „сваіх“ сялян, „свае“ вёскі. з якімі вялі гандаль. Часта на вуліцы або нават у сынагозе сварыліся паміж сабою за „сваіх“ паноў, за „сваіх“ сялян. Вялася ў гэтым кірунку пастаянная барацьба за збыт тавараў і вырабаў, за заваёву сымпатыі сялян і вакольных памешчыкаў.

Койданава мае і сваіх гэрояў-барацьбітоў ня толькі ў часы Кастрычніка, але і рэволюцыі 1905 году. Некаторыя з іх былі доўга ў ссылцы, некаторыя загінулі.

Койданава ў сучасным зноў-жа падобна да ўсіх сучасных мястэчак: крывыя лініі розных окупацый, пры якіх шалі жыцьцёвага дабрабыту вагаліся то ў адзін бок, то ў другі — то сьвяткавалі перамогу крамнікі і гандляры, а то радаваліся краўцы, шаўцы, кавалі і іншы местачковы дэмос. Гэта ярка адчувалася пры кожнай новай окупацыі, якую заўсёды справаджалі гэтыя два пачуцьці багатых і бедных местачкоўцаў.

Пачынаючы з 1920 году Койданава зноў-жа перажыла некалькі стадый экономічнай і бытавой ломкі:

1) контрабанда, 2) высылка контрабандыстых з межаў Беларусі, 3) НЭП, 4) зьнішчэньне НЭП'у праз коопэрацыю, 5) разьвіцьцё школ і ліквідацыя яўрэйскага „хэдэру“, 6) росквіт рамесьніцкіх арцеляў, пераход многіх з былых крамнікаў і гандляроў на апрацоўку зямлі (Біра-Біджан, Крым, сельска-гаспадарчыя арцелі ў ваколіцы Койданава і іншых мясцох).

—

У пяршыню прыехаў я ў Койданава 16 чэрвэня 1929 г. у нядзельны дзень.

Быў гарачы, сонечны дзень. Цэнтар мястэчка — базарная плошча, была поўна сялян. Мы з таварышом Шпілеўскім, апісальнікам Койданава [1]), зрабілі беглы агляд мястэчка, абегалі ва ўсе канцы: бачылі і старыя могілкі, і касьцёл [2]), і фэўдальны замак, і Народны дом, і Рабочы клюб, і помнікі загінуўшым барацьбітом за Кастрычнік, і маленькую рэчку Нэцяч, якая ледзь прыкметным вузлом перасякае мястэчка, і іншыя месцы.

Пазнаёміўшы з „географіяй“ Койданава, т. Шпілеўскі паказаў мне заежджы дом, дзе я мог спыніцца, каб пажыць тут пару дзён.

---

[1]) „Наш Край“ №№ 2, 3, 4, 1929 г. „Мястэчка Койданава“.

[2]) Каля касьцёлу было некалькі фурманак прынядзеленай шляхты.

## „Чайная. Заедкі".

Гэта вывеска на „беларускай" мове. „Заедкі" — закускі. Тут тав. Шпілеўскі пакінуў мяне пад апеку старога гаспадара „чайной з заедкамі".

Што адразу кінулася мне ў вочы — гэта тып старой карчмы, якая будавалася мо' 50 або 60 гадоў таму назад, з двума параднымі ганкамі да базарнай плошчы, з вялікай замчыстай брамай на двор. У пярэднім пакоі ідзе бойкі гандаль лімонадам, фаршыраванай рыбай з белымі булкамі. Заходзяць на „заедкі" сяляне з базару. За першым пакоем цягнуцца ва ўсе бакі пакоі і пакойчыкі, сенцы з выйсьцем на двор, за сенцамі зноў пакоі, цёмныя, сьветлыя, пустыя, некаторыя з канапкамі для гасьцей, некаторыя з бутэлькамі ад квасу сваёй фабрыкацыі — словам цэлы лябірынт перагароджаных дошкамі „нумароў".

За парадкам глядзіць сам гаспадар. Як і яго старая карчма, і ён мае выгляд яўрэя пяцідзесятых гадоў мінулага стагодзьдзя. Доўгая, белая барада, нос з гарбінкаю і чорныя шустрыя вочы. Ён сочыць за хатнім парадкам, а ўжо ў дапамогу яму, альбо калі ён ідзе ў сынагогу на ранічную ці вячэрнюю малітву, за гаспадаркаю наглядаюць яго дочкі і зяць — былы загатоўшчык, які шукаў лягчэйшага хлебу, застаўся зусім бяз хлеба і цяпер знаходзіцца на ўтрыманьні цесьця.

Ужо трохі пазьней я чуў як местачковыя называлі майго гаспадара карчмаром. Значыць, ён раней займаўся продажай гарэлкі. На дварэ ў яго вялізны шпіхляр, які арэндуе коопэрацыя пад ссыпны пункт. Тут захоўваецца збожжа. З гэтага я зрабіў яшчэ адзін вывад, што стары даўней і збожжа скупліваў у сялян. Відаць, што ён і жыў нябедна, бо яго дочкі пасканчалі гімназію.

Сярод членаў сям'і былога карчмара адчуваецца няпрыязьнь да местачковых „балмэлохэс" (рамесьнікаў), якія, паводле выразу карчмара, „пайшлі цяпер у гору". Часта дзеці карчмара ўспамінаюць свой ранейшы „іхус" — шляхоцкі гонар у мінуўшчыне. Трэба ведаць, што да рэволюцыі яўрэй-крамнік, карчмар ці гандляр і яўрэй-рамесьнік былі між сабою вельмі аддалены. Крамнікі і гандляры лічылі сябе вышэйшай пародай, нібы шляхта, а рамесьнікаў называлі „прастатой", „хамулай", з апошняй ніколі не радніліся і не ўваходзілі ні ў якія сувязі.

Цікава, што і ў „божых" справах гэты падзел адчуваўся. У многіх вялікіх мястэчках і гарадох сынагогі дзяліліся на веруючых багатых і веруючых бедных: былі сынагогі крамнікаў, шаўцоў, краўцоў і г. д.

У дарэволюцыйныя часы, каб дачка крамніка вышла замуж за каваля ці шаўца, дык гэта быў-бы такі прыблізна „мэзальянс", як-бы прынцэса пабралася з пастухом.

Вось такімі былымі прынцэсамі сярод пастухоў адчуваюць сябе цяпер дочкі карчмара.

Часта бачу іх з кніжкаю ў руках на адным з ганкаў карчмы. Кніжка — толькі дэкорацыя для вачэй местачкоўцаў. „Барышні" сядзяць і мараць.

А навакола пячэ горачае чэрвенскае сонца. Базарная плошча сьпіць мёртвым сном.

Пасярод плошчы стаіць вялізная будыніна з былымі крамамі (здаецца 65). Цэлы шэраг зачыненых кованых дзьвярэй. Заснула навекі-вечныя гэтае мёртвае сэрца былога гандлярскага мястэчка.

Каля крамных дзьвярэй дзе-ні-дзе стаяць былыя крамнікі са столікамі: прадаюць папяросы, лімонад, квас, цукеркі, школьныя сшыткі, алаўкі, хустачкі.

У цэнтры крам — высокая пажарная каланча. З боку — студня з вялізным пажарніцкім чанам. Рыпае студня жалезным рыпам — і пад сьпевы яе мараць на ганках шляхотныя дочкі карчмара і іншыя дочкі такіх-жа шляхотных бацкоў...

Яны паглядаюць на высокія падмосткі каланчы, куды колькі дзён таму назад узьбіраліся цыганкі і на вышыні — над местачковымі задумёнымі дахамі — танцавалі і сьпявалі. Тады моладзь былой местачковай „арыстократыі", разьзявіўшыся глядзела ўгару на „прадстаўленьне".

— Калі яшчэ будзе такое прадстаўленьне? — мараць яны.

І ўвечары ідуць спацыраваць да старога замка, дзе ўнізе ўдаліне бялееецца цыганскі невялічкі шацёр. Каля мэлянхолічнага скупога агня грэюцца замурзаныя цыганяткі.

Пад месячным зьяньнем стары замак фэўдальных часоў, абкружаны сьцяною, з бойніцамі, якія дзе-ні-дзе яшчэ цалкам захаваліся, з цяжкай брамай у цэнтры, з рэшткамі стагодніх прысад — сапраўды зьяўляецца цікавым месцам для лятуценьнікаў аб мінулых часох. Тут аддае балядамі старажытнага княжацкага ўладарства на Беларусі.

Пустыя крамы ў цэнтры мястэчка і замчышча ў яго канцы — сымболь навекі загінуўшай мінуўшчыны розных эпох.

Народны дом, коопэрацыя, сямігодкі, рабочы клюб у мястэчку, яўрэйскія с.-гаспадарчыя арцелі за мястэчкам — сымболь таго навага, што шпаркім крокам ідзе наперад, што глыбокімі карэньнямі ўмацоўваецца ў стара-новай зямлі.

## „Караул! мяне залічылі ў кулакі!"

Прыблізна з такім выкрыкам адрэкомэндаваўся мне адзін стары яўрэй з рыжавата-сівай бародкай. Ён — койданоўскі старажыл. З старых часоў, паводле яго слоў, ён займаецца земляробствам.

— Мне казалі, што вы з газэты, што вы — рэдактар. Хочу з вамі пагаварыць!

Па мястэчку былі пушчаны аба мне розныя легендарныя чуткі. Чагосьці я тут моўчкі выглядаю, вывучаю, дапытваюся. Я — ні то нейкі „камісар па сакрэтных справах", ні то рэдактар газэты, ні то казачны амэрыканец з вялізным чамаданам доляраў — і людзі пачалі ка мне падыходзіць з рознымі вымаганьнямі і скаргамі...

Кулак-яўрэй быў абарваны, абшорпаны і зашмальцаваны. Па ўсім відаць, што ён, шануючы мяне, апрануў свой парадны, „пролетарскі" касьцюм.

Ваш мэтод правільны, дзядзька! Я бачыў і ў Менску такое зьявішча: адзін профэсар перад тым, як пайсьці ў рабочы клюб, памяняў капялюх на рабочую кепку.

З гутаркі заможніка-койданаўца вышла, што ён вельмі пакрыўджаны, што там, у Менску, ня цікавяцца тым, якія ў Койданаве кепскія парадкі; яго, былога члена койданаўскага Горсавету, залічылі цяпер у кулакі — і ён зрабіўся лішэнцам. Ён карыстаўся наёмнай працай, бо сам слабы чалавек, а яго сын вучыўся.. Было ў яго пяць кароў, дык адна карова яго дачкі замужняй, другая — сына нежанатага... А наогул ня было як жыць з зямлі, дык ён яшчэ трымаў пару коняй

і займаўся возкай — вазіў да станцыі тавар з фабрыкі „Слонь“ — фабрыка яго роднага брата (цяпер зачынена). Дык вось налажылі на яго вялікі падатак, дзеля чаго трэба было дзьве (а можа тры) каровы прадаць. Засталіся толькі дзьве каровы — яго дачкі і сына... А ён такі бедны, што вось, паглядзеце, у якіх абарваных вопратках ходзіць...

За ўвесь час маёй бытнасьці ў Койданове гэты чалавек зрабіўся маім ценем. Нідзе ня маю ад яго паратунку. Не магу ад яго схавацца. Я — у Нардом, ён ка мне выходзіць адтуль на сустрач. Праводзіць мяне да Райвыканкому. Гуляю ў ціхім закавулку — ён кланяецца мне здалёку, усьміхаецца, кажа „дзень добры“ і праводзіць аж да маёй квартэры...

Увесь час ён вядзе агітацыю ў адзін бок: ён — ня кулак, яго пакрыўдзілі, яму мсьцяць. Гэта ён, будучы членам Горсавету, усе сілы пакладаў на тое, каб адбудаваць мястэчка [1]... Камусьці гэта не спадабалася — і яго ўтапілі. Контр-рэволюцыя яго ўтапіла... Я павінен у горадзе аб усім гэтым „з кім трэба пагаварыць“, напісаць у газэту і г. д., і г. д.

## Абрам Эвенчык.

У Райвыканкоме раілі мне назнаёміцца з т. Эвенчыкам, койданаўскім старажылам, старым бундаўцам. Ён быў некалькі год у ссылцы. Я пашоў да яго ў арцель краўцоў, дзе ён працуе.

Абрам Эвенчык — высокі, сутулы, сівы стары з бронзавым нібы высечаным тапаром тварам, з дабрадушнымі вачыма. У яго рухах адчуваецца ўпэўненасьць і цьвёрдасьць. Здаецца, што ён у любую хвіліну гатоў пайсьці на любую працу, ня гледзячы на тое, што яму цяпер пад 60 год. Гэта адзін з старэйшых радавых працаўнікоў „Бунду“ (1891-92 г. г.). Ён добра знаёмы з яўрэйскай літаратурай пэрыоду 1905 г. Ведае бадай усіх натуршчыкаў-койданаўцаў пісьменьніка Рэйзіна. Любіць Шолам-Алэйхема, а новай літаратуры „не разумее“. Ён ведае шмат кавалкаў з гісторыі рэволюцыі 1905 году і раней. Але, апавядаючы аб тых часох, часта перабівае самога сябе і раптоўна пераскоквае з тэмы на тэму, блытае гады.

Ён успамінае койданаўскіх бундаўцаў Кітаевіча, Волаха і іншых яшчэ да рэволюцыі 1905 г. У тыя гады краўцы організавалі забастоўку — ваявалі з гаспадарамі за павялічэньне пэнсіі і зьмяншэньне рабочага дня. У той-жа час была організавана забастоўка на фабрыцы запалак Стронгіна. Было арыштавана 65 рабочых. Кітаевіча і Эвенчыка выслалі ў Сібір.

У маскоўскай турме Абрам Эвенчык пазнаёміўся з Фэліксам Дзяржынскім, калі той уцякаў з Сібіры ўжо ў трэці раз.

Я запытаўся ў т. Эвенчыка аб выглядзе і характары Дзяржынскага ў той час. Малады — высокі і худы, — адказаў Эвенчык. Ён ужо тады быў хворы, кашляў. Але заўсёды быў вясёлы, бадзёры і надаваў усім добры настрой.

Аднаго разу Эвенчык у турме сустрэўся з рэволюцыянэркай Марыяй Залуцкай. Яна сказала Эвенчыку, што калі ён будзе ў перасыльнай турме, то няхай запытаецца, ці ёсьць там Фэлікс. Марыя вазіла з-за межаў літаратуру, яе арыштавалі, і яна сядзела разам з Дзяржынскім $2^1/_2$ гады ў Варшаўскай цытадэлі.

---

[1]) Пры яго бытнасьці членам Горсавету ў 1921 г. была адбудавана сынагога.

За ўвесь гэты час ні разу ня бачылі адзін аднаго. Яны толькі перастукваліся. І такім чынам,—сказаў Эвенчык,—Фэлікс вучыў Марыю польскай мове. Ён расказаў ёй усю гісторыю Парыскае Комуны.

І вось Марыя прыехала ў перасыльную турму. Тав. Эвенчык сказаў Дзяржынскаму, што Марыя прыехала.—Няўжо-ж Марыя?!—зьдзіўіўся Дзяржынскі.

І пасьля такога доўгага знаёмства яны ў першы раз пабачыліся...

Умовіліся аб наладжаньні пабегу.

Паміж іншым Фэлікс расказаў Эвенчыку аб сваіх уцёках з Якуцкай вобласьці: прыходзілася сядзець у лесе на дрэвах абарванаму, галоднаму.

Праз тры месяцы пазьней сустрэліся Эвенчык з Марыяй у Краснаярску. Потым, жыў з ёю ў нейкай вёсцы Амінас. Ён—Эвенчык і яшчэ два ссыльныя, Аронаў з Гомеля, а другога ня памятае прозьвішча, наладзілі Марыі пабег. Там быў нейкі яўрэй карабейнік з конікам. Папрасілі яго ўзяць з сабою за добрую плату Марыю ў горад. Яна з ім паехала ў Канск.

Назаўтра з воласьці аб ёй пыталіся. Гаварылі, што яна пайшла на працу ў вёску Тарасінскую. Пабег удаўся.

Эвенчык многа расказваў таксама аб „Койданаўскай рэспубліцы", калі банда разагнала ў 1920 годзе коўданаўскі рэўком. У пабудове „Койданаўскай рэспублікі" прымалі ўдзел вакольная шляхта, багатыя сяляне, багатыя яўрэі. Усе яны думалі, што Койданава пяройдзе да Польшчы (гл. аб гэтым ў артыкуле Шпілеўскага і Бабровіча „Наш Край" 1929 г. №4.

„Койднаўская рэспубліка" існавала 4 дні. Невялічкі бальшавіцкі атрад разагнаў яе галавароў. Тады ўжо радаваліся бедныя.

Вельмі ўдала т. Эвенчык апавядаў з жыцьця розных окупацый у Койданаве—і ў жывых абразкох маляваў як радаваліся то багатыя, то бедныя...

Кожны вечар ён мне нешта новае расказваў.

Ён ад усяго сэрца сьмяяўся, апавядаючы мне аб адным балі.

Пры 2-м прыходзе палякаў (кавалерыя) койданаўскія багачы ладзілі ім баль. У адным з вялікіх дамоў прыцягнулі шмат віна, смажылі-пяклі, пяклі і смажылі. Але вось у мястэчку раздаўся стрэл. Прышла бальшавіцкая разьведка з трох чалавек.

Польская кавалерыя ўцякла. На баль прышлі чырвонаармейцы. Закуска яшчэ была гарачая, а віно нечапанае...

Другі варыянт аб „Койданаўскай рэспубліцы" я чуў ад былога матроса койданаўцы—т. Мялешкі. Ён у галоўным ня розьніцца ад апавяданьня Эвенчыка і ад апісаньня Шпілеўскага і Бабровіча, але мае шмат падрабязных рысак.

Пабыўшы некалькі дзён у Койданаве, я пазнаёміўся ў Зямельным аддзеле Райвыканкому з маладым агрономам т. Трэйстарам, які абяцаўся паказаць мне некаторыя колгасы Койданаўшчыны. Але раней я рашыў азнаёміцца з койданаўскім базарам.

## Койданаўскі базар

На рынку было поўна народу. Чуўся спэцыфічны базарны пах: сьвежая трава на вазох, конскі пот і каламазь. Але на базары ня прыкметна гандлёвай жвавасьці і руху. Крамы зачынены. Сяляне сталі спакойна каля сваіх вазоў. З сялянскіх тавараў можна было заў-

важыць малочныя продукты — сыр, масла, куры, яйкі, бульбу, кошыкі, куфры, кіі. Местачковыя прадавалі паліва, папяросы, марожанае, квас. Была запоўнена сялянамі піўная, коопэратыў, чайныя. Каля вясковых вазоў круціліся местачкоўцы.

— Пачым масла?

— Колькі хочаш за курыцу?

Гэта крычыць адна старая яўрэйка.

Да воза падскочылі яшчэ дзьве.

— Пачым?

— Ня лезьце! — злуецца першая, — Я купляю!

— Што? забароніш? твой базар?

— Я першая падышла!

— Іш, вантроба ненасытная! Увесь сьвет ты гатова глынуць, ляпа ты! першая! Яшчэ няма ведама хто з нас раней нарадзілася.

Паміж кабетамі пачаўся гвалт.

Каля коопэратыву зноў-жа ледзь ня бойка. Я спачатку ня ведаў у чым справа. Аказваецца некаторыя сяляне—пайшчыкі перапрадаюць свой цукер лішэнцам і „чайным"...

Купіў я за 20 копеек кіёк у старога селяніна, пагаварыў з ім аб сёлетнім ураджаі і пайшоў на конскі рынак. Там адчувалася большая базарная жвавасьць: было шмат кароў, коняй, сьвіней, цялят. Торг і продаж ішлі бойка.

Тут ужо можна было пабачыць старадаўных макляроў. Хтосьці пацягваў каня за аброць. Нехта сьцёбаў другога каня пугай. Каля трэцяга крычалі цыганы. А тут-жа побач бабы на вазох павыцягвалі торбачкі і елі абед: сала, сыр, койданаўскія булкі.

Паміж вазоў праціскваліся гарманістыя, якія ў гэты-ж час сярод тузаніны натоўпу не пераставалі граць.

Марожанікі, квасьнікі і чайныя жывуць цэлы тыдзень з базарнага дня.

Пад вечар мы з аграномам выехалі з мястэчка на фурманцы сельска-гаспадарчай арцелі „Чырвоная Зорка".

Здалёку мне ківаў галавою той, каго „нясумленна" залічылі ў кулакі. Ён нешта гаварыў у мой бок, але ў базарным тлуме ня чуваць было. Я толькі здагадваўся:

— Не забудзьце там у Менску аб маёй справе! — пэўна крычаў ён мне на разьвітаньне свой наказ...

## С.-гасп. арцель „Чырвоная Зорка".

Мы аддаліліся ад мястэчка і яго базарнага тлуму. Цішыню жытніх палёў і дрымоту лугоў і пералескаў будзілі зьверху кволыя званкі жаўранкаў. На небе ніводнай хмурынкі. А ўнізе жытняе поле абапал пыльнай дарогі разгорнута дрымучым зялёна-жоўтым масывам. Над полем кружацца матылькі.

— Адзеньце плашч, а то сонца ў плечы пячэ ды пылам вас абсыпіць, — параіў агроном. — Бачыце жыта? Ледзь не ў чалавечы рост. Гэта сялянскае. Колгаснае вышэй чалавека... Што вы заўважваеце ў гэтым жыце?

— Добрае, высокае, — кажу.

— Але паглядзеце якое чыстае! Насеньне было адборнае, гатунковае. Няма вашых поэтычных васількоў і іншых „прыгожых" расьлін, якія толькі шкодзяць ураджаю.

Аб сяголетнім ураджаі жыта я чуў і на рынку. Думкі аб мястэчку агортваюць мяне:

... Колькі стадый перажыло яно за той час, які жыве яшчэ ў маёй памяці. Гандаль да вайны. „Яўрэйскі шпіянаж“ пры вайне з немцамі. Зьдзекі казакаў над яўрэямі, што мела месца і ў Койданаве. Рэволюцыя. Окупацыі з пажарамі, з яўрэйскімі пагромамі, з яўрэйскімі бародамі на шаблях белапалякаў. Потым заміраньне старога мястэчка. Роспач былых гандляроў і крамнікаў. Яўрэйскае земляробства. Я сягоньне ў „Чырвонай Зорцы“ буду есьці хлеб засеяны, зжаты і абмалочаны рукамі тых, якія да Кастрычніка ня мелі права быць ратаямі. Гэта-ж трэба ўмець так перакроіць гісторыю многіх сот гадоў у адно дзесяцігодзьдзе. Кастрычнік, нібы вялізарны сталёвы трактар, узараў старую глебу і на ёй узрасла новая рунь...

— Чаго вы маўчыце? — перапыніў мае думкі колгасьнік. — Раскажэце што-кольвечы!

Я паглядзеў на яго, як на нейкі ўнікум, і, замест таго, каб расказваць, пачаў распытваць яго: ці даўно ён працуе ў „Чырвонай Зорцы“, „кім ён быў раней“, „ці задаволены сваёй працай“ і г. д.

Колгасьнік — былы койданаўскі крамнік, чалавек гадоў 45, прызёмісты, чарнявы, з маршчынамі на твары. У вачох застаўся крамніцка-хітры блеск, а рукі запрацаваныя. Запрацаванасьць адчуваецца ва ўсёй яго фігуры, цяжкаватай і як-бы лянівай. „Пайшоў на зямлю ў мінулым годзе, калі так ужо жыць стала цяжка, што хоць ты ідзі тапіся... Хоць ён быў крамнік, а дзяржава дапамагла“. Гэта яго словы.

Калі мы прыехалі ў „Чырвоную Зорку“, сонца ўжо было на заходзе.

„Чырвоная Зорка“ — былы фальварак, ці маёнтак пана Ленскага, Старынкаўскага сельсавету каля вёскі Старынкі. Сюды перабраліся мінулым летам 4 яўрэйскія сямействы, альбо, як старшыня колгасу кажа „4 з $^1/_2$ сямействы“: 1) Аксельрод — старшыня арцелі, былы рабочы, працаваў на фабрыцы запалак у Барысаве 15 год, 2) Мельцар—каваль, Шымановіч — фурман, Гімельштэйн — крамнік і 5) Аксельрод — сын старшыні, так званая палова сямейства. Усе яны койданаўцы — з дынастыі „рэб Ёсіфке“.

Ад дарогі ў „Чырвоную Зорку“ вядуць старыя ліпавыя прысады, такія густыя, што зьверху дрэвы зыходзяцца між сабою і ўнізе ў самы сонечны дзень (як я ўгледзеў заўтра) стаіць цень і пануе халадок. З аднаго боку парку вялікі сад, з другога — усадзьба. Мы апынуліся на шырокім дзядзінцы. У той час дзьве маладыя дзяўчыны прывялі коняй з пашы. Дзяўчаты былі апрануты па-гарадзкому. Як я пасьля даведаўся, яны, дочкі колгасьнікаў, прыехалі на летнія вакацыі з Менску. Яны—студэнткі Яўрэйската Пэдтэхнікуму.

Нас сустрэлі ўсе колгасьнікі. Хутка прыгналі стада з поля.

Самым энэргічным і самым цікавым зьяўляецца бязумоўна старшыня колгасу, т. Аксельрод. Ён — галоўны мозг і самыя моцныя рукі „Чырвонай Зоркі“.

Мы там пераначавалі і пабылі назаўтрае да вечара. Гаспадарка вядзецца пад наглядам т. Аксельрода, калі ня лічыць галоўны нагляд агронома Трэйстара, які тут часта бывае.

Самае кепскае ў „Чырвонай Зорцы“ гэта будынкі, якія зьяўляюцца руінамі панскага двара. Усе драўляныя будовы даўно парасьцяганы. Засталіся панскія палацы, абора і гумно. Каменныя палацы

і абора трымаюцца на падпорках, у шчылінах. Як глянеш на іх, дык здаецца—во-во разваляцца...

Тав. Аксельрод расказаў мне цэлую эпопею змаганьня, якую ён вытрымаў з настаўніцай. У палацах знаходзіцца і школа старынскаўская на 89 вучняў.

Як толькі колгасьнікі сюды прыехалі, дык настаўніца, Марыя Васільлеўна Пятрова, падняла крык: „Спэкулянты зямлю забіраюць!“.

Цэлы тыдзень яна ім не давала ключоў ад памяшканьня —і іхнія сем'і з кучай дробных дзяцей начавалі ў хлеве разам з жывёлінамі... Да палавіны зімы не давалі падвойных вокнаў. Запіралі склеп. З вясны пачаліся сваркі з настаўніцай за школьны вучастак зямлі. Настаўніцы хацелася, каб абавязкова школьная зямля был ўся вакол школы. Гэта значыць, уся ўсадзебная зямля... Яна такі адваявала. Там, дзе павінен быць праезд для колгасных вазоў, яна пасадзіла бульбу. Колькі колгасьнікі яе ня ўпрашвалі, гаварылі, што абсеяць яе агарод, дагледзяць і прывязуць ёй гатовую бульбу—нічога не памагло...

І цяпер яны павінны абя'жджаць у нізіне ў балоце школьны агарод. Так яны павінны і сена вазіць і снапы з поля, бо Марыі Васільлеўне трэба „бачыць сваю зямлю з вакон школы“...

Я зайшоў да настаўніцы, пагаварыў з ёю на гэтую тэму, тлумачыў, што настаўніца—працаўніца на культурнай ніве—павінна ўсімі спосабамі дапамагаць разьвіцьцю колгасу, а не перашкаджаць, дык яна апраўдваецца, што яны вельмі цяжкія людзі, што з імі дружыць нельга.

Хто іх разьбярэ! Можа і яны таксама вінаваты, але ўсё-ж такі школьная бульба вырасла-б і на іншым месцы, а не загароджваць дарогу з поля на гумно.

— А як вакольныя сяляне?—пытаўся я ў т. Аксельрода.

— Спачатку трохі касавурыліся, а як пабачылі, што мы працуем сур'ёзна, дык палагаднелі. Цяпер мы з імі добра сябруем. Селянін любіць працу і шануе тых, хто працуе, бяз розьніцы нацыі. Былі спачатку прэтэнзіі на тое, што не дазваляем вясковым дзецям гуляць у садзе. Але што зробіш—яны-ж дрэвы паломяць. Цяпер сад добра абгледжаны.

Лепшую палову „палацаў“ займае школа, а горшую—члены „Чырвонай Зоркі“. Зімой сьнег выступаў на сьценах. Унутры стаяць падпоры, няпрытульна, чорна. Кожная сям'я мае сваю гліняную печ.

Вельмі цяжкае ўражаньне зрабілі на мяне гэтыя муры. У кожную хвіліну мне здавалася, што патрэсканы столь абваліцца на мяне.

Колгасьнікі мараць аб пабудове драўляных хатак. Усе кабеты раніцою пасьля дойкі кароў пайшлі на агарод палоць, працавалі і студэнткі.

Раніцою я агледзеў малочнае т-ва пад склепам палацаў. Туды аддаюць малако, як колгасьнікі, таксама сяляне з вёскі Старынкі. Зьнятае малако арандуе стары яўрэй. Ён тут-жа ў склепе фабрыкуе сыр.

Потым мы агледзелі поле, сад. Жыта—ў чалавечы рост. Сад зіхаціць, чысьценькі, дагледжаны, як-бы апрануты ў новыя вопратк . А ён быў вельмі зьдзічэлы, запушчаны да апошняга году.

Быў як раз той „вольны“ час у гаспадарцы, калі сяўба скончана, а сенакос яшчэ не пачынаўся. І вось колгасьнікі прыдумалі сабе працу: разьбіралі руіны цаглянай панскай будовы (аборы) з няпа-

ленай цэглы, таўклі, палівалі вадою, прымешвалі саломы і рабілі цэглу на новую будову.

— А то толькі месца займае і ніякай карысьці няма з гэтай разваліны,—тлумачыў мне тав. Аксельрод.

— Але-ж гэта пякельная праца!—дзівіўся я.

— Нічога ня зробіш. Трэба!

У гэтым слове „Трэба!“ адчувалася моц старога яўрэя—новага чалавека.

„Чырвоная Зорка“ мае зямлі: 1) пахаты—18 гэкт., 2) сенакосу—7 гэкт., 3) саду і ўсадзьбы—10 гэкт. і лесу-парку—5 гэкт. Севазварот пяціпольны.

*Жывёлы:* дзесяць дойных кароў добрай пароды, дзьве маладыя, якія яшчэ не ацяліліся, 4 коняй і 3 авечкі.

*Сельска-гаспадарчыя прылады:* 1) Малацілка, 2) Жняярка, 3) Спрунжыноўка, 4) Веялка, 5) Сартыроўка (Трыумф).

Шмат надзей яны пакладаюць на сад, які будзе добрай дапамогай ў гаспадарцы.

„Чырвоная Зорка“ выпісвае дзьве яўрэйскія газэты „Эмэс“ і „Окцябр“.

Яшчэ многа цяжкасьцяй мае „Чырвоная Зорка“, пакуль стане на моцныяногі. Галоўным чынам, будынкі.

Скардзіцца т. Аксельрод, што пасьля працы няма дзе адпачываць: „каб хоць дробная сялянская хатка, а то гэтыя халодныя гаргарыны“...

А зімою тут у парадным праходзе ў палацы працуе сялянскі клюб. Ёсьць маленькая сцэна. Усё ў ледзь жывым панскім будынку...

У т. Аксельрода нараджаюцца розныя пляны: выбіраць з ясеняга парку старыя дрэвы—пару сот пнёў, прадаць на абады, дадаць да гэтага выручку за сад і пабудаваць вялікую хату. Але зноў бяда. Ці дадуць дазвол на рубку пнёў у парку? А выручка з сада патрэбна на ўзмацненьне гаспадаркі—зачараваны круг!

Мазгуе т. Аксельрод. Моршчыць лоб. І я ўпэўнены, што знойдзе выйсьце з цяжкага становішча. Пакуль што, на першы год, досыць тое, што ўсе сыты і даецца па некалькі рублёў у месяц на сям'ю „на цукар і іншыя дробныя выдаткі—ніткі, запалкі і г. д.“.

— А ў Койданаве ўсе літаральна галадалі...—успамінае сьвежае нядаўняе т. Аксельрод.—Усё-ж такі цяпер лепш.

Пад вечар мы паехалі ў другі колгас койданаўцаў — „Акцябр“. Адвёз нас т. Аксельрод.

— Нашыя Койданаўцы, — інформаваў нас ён, — расьсеяліся па розных колгасах. Іх і ў Бабруйшчыне многа. Яны ў Крыме, у Біра-Біджане. Распаўзьліся хто куды, як мурашкі распаўзьліся...

— Ахвотна ідуць на зямлю?—пытаюся я.

— Спачатку, трэба сказаць праўду, моцна палохаюцца. Жартачкі, ні дзяды, ні прадзеды гэтым не займаліся. Самі ня вераць, што будуць здатны да гэтай працы...

— А потым?

— А потым і вераць пачынаюць, і вера апраўдваецца...

Са слоў т. Аксельрода і з нагляданьняў у іншых колгасах я вывёў вось што:

Калі ўжо пятля зацісьне шыю, местачковец „хватаецца за саломінку“—і ідзе на зямлю. Многія ідуць „пакуль што“, але зямля прымацоўвае іх да сябе, не адпускае. Новыя земляробы пачынаюць лю-

біць гэтую працу ня менш за старых, патэнтаваных. Але разам з гэтым ёсьць і такія асобы, якія „ахвяроўваюць сябе дзеля дзяцей“: каб дзеці маглі вучыцца ў тэхнікумах і унівэрсытэтах. „А потым“... Толькі гэты „потым“ пакуль што не надышоў. І я ўпэўнены, што вялізная большасьць моцна прывяжацца да зямлі.

У малых колгасах назіраюцца цяжкасьці такога роду: хтосьці захварэе і ня можа пайсьці на працу, або кабета ў апошніх месяцах цяжарнасьці ня можа працаваць. Як тут быць? Адняць з ліку працоўных дзён?—А што-ж ён вінаваты, з чаго жыць будзе? Залічыць працоўныя дні—зноў бяда. Крыўдзяцца другія. „Завошта нам працаваць на яго? Гэта яшчэ ня ўсюды ўрэгулявана. Таксама ёсьць сярод колгасьнікаў, якія „любяць лёгкі хлеб“—выкручваюцца з цяжкай працы. Такія стараюцца больш „галавою працаваць“: па розных колгасных справах паедуць у адпаведныя ўстановы, паедзе на рынак купляць жывёлы, ды наогул знаходзяць сабе працу паміма непасрэднай працы на зямлі. На такіх „вандроўцаў“ колгасьнікі скосу паглядаюць і ўрэшце гэткія як-то высьлізгаюцца з колектыву...

Сярод колгасьнікаў ёсьць ужо пэўная тэрмінолёгія, якая дзеліць земляробаў-колгасьнікаў на дзьве катэгорыі: „заўсёдны“, „часовы“.

Пад вечар мы прыехалі ў колгас *„Акцябр“* (былы маёнтак Антона Славіна Ліпні, Путчынскага сельсавету).

## Колгас „Акцябр“.

У „Акцябры“ працуе дзесяць сямействаў: былыя крамнікі, „садоўнікі“, г. з. арандатары садоў і рамесьнікі (шавец, сталяр).

Я адразу зьвярнуў увагу на будынкі — добрыя, драўляныя хаты. І „панскія пакоі“—драўляныя. Пасьля „мураваных палацаў“ у „Чырвонай Зорцы“ гэтыя хаты паказаліся мне сапраўды палацамі.

— Вось бачыце, — зьвярнуў увагу на будовы т. Аксельрод, — тут можна жыць. Пасьля працы можна пабыць у чалавечай хаце....

Затое колгасьнікі „Акцябра“ скардзіліся мне, што ў іх добрага кіраўніка няма.

„Вось каб нам ды такога Аксельрода?“

Выходзіць так, калі дзе ёсьць хлеб, дык няма масла. А дзе ёсьць масла—няма хлеба.

У „акцябраўцаў“ бяда з кіраўнікамі: часта мяняюцца. Калі галава старшыні добра працуе, дык мала ён разумее ў гаспадарцы; ведае добра гаспадарку, дык галава не ахоплівае справу ў цэлым...

Цяпер у іх трэці старшыня або „старшы рабочы“, былы „яшувнік“ (яўрэй-вясковец), які з малых гадоў займаўся сельскай гаспадаркай.

У час нашага прыезду колгасьнікі былі трохі зьбянтэжаныя, узварушаныя: якраз учора прыехала да іх камісія з саўгасу імя Чарвякова (Навасёлкі), дзе сэкратар ячэйкі КП(б)Б памянёнага саўгасу прачытаў ім даклад аб працы ў саўгасе і выклікаў „Акцябр“ на соц. спаборніцтва.

— Дзе нам раўняцца да такога саўгасу! — лементавалі „акцябраўцы“. І як цяпер рабіць? Трэба-ж адправіцца да іх з прамоваю, з дакладам аб працы і прыняць выклік... Страшна неяк... А калі мы правалімся?...

Т. Трэйстар і я супакойвалі іх як маглі.

З дзесяці сямейных (кожны з вялікай сям'ёю) „акцябраўцаў" зацікавілі мяне трое, як тыпы.

Першы—стары яўрэй, пастух. Высокі, сівы, худы, у доўгім балахоне, з торбай за плячыма, з доўгай пугай у руках, босы. Яўрэйскія пастухі вядомы мне толькі па казках бібліі...

А вось жывы пастух!

Гэты чалавек—адсталы нават, у параўнаньні з звычайным, радавым местачкоўцам. Яго спэцыяльнасьць была раней вельмі простая, быў „шындэрам"—у багатых мясьнікоў асьвежваў зарэзаных жывёлін за некалькі капеек ад штукі. Літаральны пераклад слова „шындэр"—скуралуп.

— За тое, што раней лупіў скуры, — кажуць „акцябраўцы",— няхай цяпер пасе наша стада. Няхай пільнуе іх скуры. Гэта чалавек, які ня любіць уваходзіць у глыбокія гутаркі. Звычайна, ён толькі адказвае: „так" або „не". Лішніх слоў у яго ня выцягнеш.

Ён карыстаецца сярод членаў колектыву поўнымі правамі. Летам ён пастух, а зімою корміць жывёлін у хляве.

Другі—гутарлівы. Былы койданаўскі „мэламэд", які два гады таму назад у „судны дзень" („ём-кіпур") вышаў на амбон з прамоваю аб тым, што яўрэі перасталі быць рэлігійнымі. Ён тады аб гэтым вельмі шкадаваў і клікаў зноў да бога. Цяпер ён дэманстраваў перадамною конную язду (у суботні дзень, калі паводле яўрэйскай рэлігіі гэта забаронена). І ў той-жа суботні дзень, калі яго набожная жонка „адмовілася даіць кароў", сам даіў. Ён зусім перамяніўся за кароткі час. Тут я наглядаў відавочна як быцьцё вызначае сьвядомасьць. Былы „мэламэд" навучыўся працаваць на зямлі ня горш за іншых.

У параўнаньні з іншымі „акцябрацамі" ён усё-ж такі інтэлігент. Часта пускаецца ў высокія матэрыі—успамінае Боруха Сьпінозу, Маймоніда, Маркса, калі-ні-калі чытае яўрэйскую літаратуру. За гэта яго таварышы добрадушна з яго кпяць, называюць „нашым філёзофам".

Трэці—былы крамнік-мануфактуршчык. Я знайшоў яго ў садзе, ён там спаў. Была яго чарга ісьці з коньмі на начлег. Назаўтрае раніцою яго голас прабудзіў мяне. Ён на стары лад сьпяваў ранічныя малітвы... Новы быт ня выветрыў у ім старога. І тыя два комсамольцы, якія працуюць у „Акцябры", яшчэ добра не праветрылі яго мазгоў.

„Акцябр" лічыцца адным з лепшых яўрэйскіх калгасаў у Койдадаўшчыне. Часта сюды наведваюцца розныя экскурсіі. У маёй бытнасьці там яны чакалі экскурсію чырвонаармейцаў у сорак чалавек.

„Акцябр" мае зямлі:

| | | |
|---|---|---|
| пахаты . . . . . . . | 98 | гэкт. |
| саду . . . . . . . . | 4 | „ |
| усадзьбы . . . . . . : | 5 | „ |
| сенакосу . . . . . . . | 35 | „ |
| няўжытковай . . . . . . | 5 | „ |
| Усяго . | 147 | гэкт. |

Машыны:

1) старая малатарня
2) сячкарня
3) жняярка

4) арфа
5) сартыроўка (Трыумф)
6) сеялка (дыскавая)
7) конныя граблі.

Жывёлы:

| | |
|---|---|
| рагатай | 25 шт. |
| бугай (заводны) | 1 „ |
| цялят | 8 „ |
| коняй | 10 „ |
| жаробкі | 2 „ |

Сёлета, як і па ўсёй Койданаўшчыне, і тут вельмі ўраджайны год на жыта.

Частыя непаразуменьні ў іх выходзяць, калі хто з сяброў колектыву захварэе. Гэта справа яшчэ не абмазгавана ў іх як належыцца. Адбываюцца часта сваркі з-за кур: куры не комунальныя і яны робяць шкоды на гародах.

Ёсьць там невялікая сельска-гаспадарчая бібліотэка, выпісваюць 2 газэты—„Эмэс" і „Акцябр" (на яўрэйскай мове), але няма клюбу, радыё, што ў такім колектыве павінна было быць.

Тут сустрэўся я з маладой поэтэсай (студэнтка Яўр. Пэдтэхнікуму), якая саромілася паказаць мне свае вершы.

Пасьля абеду і пасьля бяседы з „акцябраўцамі" аб мінулым і сучасным яурэйскіх працоўных, мы з тав. Трэйстарам паехалі на „актябрскай" фурманцы ў саўгас імя Чарвякова (Навасёлкі). Пры гэтым адбылася маленькая спрэчка паміж „мэламэдам" і другім „акцябраўцам". Хацеў ехаць „мэламэд", каб па дарозе пафілёзофстваваць, але другі таксама хацеў пагутарыць са „сьвежым чалавекам". „Мэламэд" астаўся дома. Доўга, нездаволена ён на разьвітаньне круціў сваёй рыжаватай стрыжанай бародкай...

Накрапліваў дробны, прыемны пасьля гарачыні, дожджык.

Тав. Трэйстар увесь час па дарозе знаёміў мяне з сучаснымі спосабамі сельскай гаспадаркі, тлумачыў будову сельска-гаспадарчых машын, паказваў мне на дарозе розныя травы і кветкі і называў іх па-народнаму і дадаваў пры гэтым лацінскую тэрмінолёгію, паказваў глебу і гаварыў як яна называецца. Словам, цэлыя лекцыі чытаў мне па сельскай гаспадарцы. Таксама даваў мне характарыстыкі колгасаў, у якіх мы былі і куды мы едзем.

У гэтую гутарку колгасьнік-фурман часта ўстаўляў трапныя папраўкі.

Тав. Трэйстар быў для мяне жывой энцыклёпэдыяй па сельскай гаспадарцы. Але ў гэты самы час я наглядаў і за ім—за новым тыпам нашых агрономаў-інструктароў.

Тав. Трэйстар, як і іншыя агрономы, мае свой аб'езд у раёне—некалькі колгасаў, вёсак, саўгасаў, дзе ён зьяўляецца галоўным інструктарам-кіраўніком. Добры ўраджай залежыць ад трапнага кіраўніцтва агронома. Я заўважаў як т. Трэйстар аглядаў поле, жывёлы, правяраў рахунковыя кнігі. Часам моцны голас падымаў, калі зроблена ня зусім паводле яго паказаньня. У нас агрономаў-інструктароў яшчэ ня многа, трэба кожнаму ўсюды пасьпяваць, трэба быць вечна

ў вандроўцы, пабыў дзень, пераначаваў—і гайда далей у дарогу! Пры такіх умовах праца агронома вельмі цяжкая.

Але вось ён—саўгас імя Чарвякова! Той самы, які выклікаў невялікі „Акцябр“ на соцыялістычнае спаборніцтва.

Цэлы шэраг каменных будынкаў. Вось вялізныя коміны бровара, белы гмах былых панскіх палацаў, цагляная стайня з грэцкімі колёнамі, шмат розных будынкаў, вялізны ангельскі парк, газоны, мітусяцца туды і сюды людзі...

Трымайся, „Акцябр“, прымі выклік!

*(Далей будзе).*

---

**А. Немцаў.**

# Вёска Вярхі і шляхі да яе колектывізацыі.

### 1. Кароткая гісторыя і прыродныя ўмовы.

В. Вярхі ляжыць у паўднёва-заходняй частцы Верайцоўскага с/с Асіпавіцкага раёну ў адлегласці 5 клм. ад ст. Верайцы Заходн. чыгунак і ў 13½ клм. ад мястэчка Асіпавічы.

*Гісторыя* ўтварэньня гэтай вескі наступная. Пры дапамозе Віленскага зямельнаго банку ў 1909—1910 г. сяляне вёсак Жыцін, Крынкі, Суцін і інш. у ліку 27 асоб адкупілі ад памешчыка Антона Шыманскага зямлю ў яго квартале № 16—урочішча „Вярхі“. Спачатку вёска звалася Антонаўка, а потым ад імя урочышча была перайменавана ў Вярхі. Зямля пакупалася па 525 руб. за валоку; плата ўносілася сялянамі да 1917 г., калі Кастрычнікавая рэволюцыя спыніла спагнаньне платы.

*Геолёгія.* Вышыня мясцовасьці, дзе знаходзіцца вёска, узьнімаецца над роўнем мора прыблізна на 160 мэтраў; навокал вёскі мясцовасьць роўная, толькі на паўднёвы ўсход ад яе падымаюцца ізоляваныя пескавыя ўзгоркі на 48—50 мэтр. ад падашвы. На паверхні сустракаюцца ледавіковыя каменьні.

Усю тэрыторыю вёскі па будове трэба аднесьці да флювіягляцыяльных адкладаў („Асіпавіцкі раён“ ч. I). Аснову павярхоўных парод тутака складаюць ледавіковыя морэны, прыкрытыя больш ці менш глыбака пазьнейшымі флювіягляцыяльнымі адкладамі, будова якіх, згодна тэорыі Афанасьева, малюецца ў наступным выглядзе: пры адступаньні ледавіка ад яго на поўдзень цяклі магутныя патокі ледавіковых вод або паасобнымі рэчкамі па паніжаных месцах, або на роўным рэльефе аднэй шырокай плыньню. Гэтымі патокамі размывалася з паверхні морэна і вось гэтымі матар'яламі і прыкрыта ўсюды морэна. Матар'ял гэты ў процілежнасьць самой морэне—мяккі, слаісты, сартаваны. („Асіпав. раён“ ч. I).

*Рака.* Вёска ляжыць у вадазборы р. Сіняй, ад якой праведзены канавы для асушкі балот. Рака Сіняя цячэ па моцна забалочанай мясцовасьці і разам з сваімі прытокамі дрэнуе прасторныя тарфавішчы.

Ля вёскі р. Сіняя ўяўляе з сябе няшырокую (2—2½ мэтры) канаву з нізкімі берагамі, парослымі куп'ём. Канава мелкая, з вязкім ілістым дном. У час веснавой і васеньняй паводкі яна напаўняецца да берагоў і часткова залівае абкружаючыя лугі.

*Клімат* мясцовага краю паводле даных Асіпавіцкай мэтэоролёгічнай станцыі можна ахарактарызаваць гэтак. Самым халодным месяцам зьяўляецца студзень, самым цёплым—ліпень. Найвялікшая тэмпэратура на працягу 1925—1929 г. заўважана ў ліпні 1926 г.+31,5°; найменшая ў лютым 1929 г.—32,5°.

| Гады | Сярэдняя тэмпэрат. | | Сярэдн. баром. ціску | | Вецер (у мэтрах) | | Ападкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Студз. | Ліпень | Студз. | Ліпень | Студз. | Ліпень | Студз. | Ліпень | Усяго за год |
| 1925 | 0,3 | 19,9 | 750,6 | 745,3 | 4,0 | 2,2 | 16,5 | 105,3 | 717,8 |
| 1926 | —6,7 | 18,3 | 751,4 | 744,4 | 3,8 | 2,2 | 24,8 | 75,2 | 658,3 |
| 1927 | —8,6 | 20,4 | 750,7 | 747,5 | 3,2 | — | 30,8 | 48,8 | 648,4 |
| 1928 | —5 | 17,8 | 750,8 | 747 | 3,0 | 3,6 | 22,3 | 54,1 | 527,4 |

Зразумела, што паводле даных на гэтай табліцы лічбаў недастаткова, каб характарызаваць клімат мясцовасьці; таму прывяду некаторыя даныя мэтэоролёгічнай станцыі Мар'іна-Горка і Асіпавіцкай станцыі існаваўшай раней (Асіпав. р. ч. I, артык. Маслакаўца). Сярэднія тэмпэратуры за тыя-ж месяцы прыблізна аднолькавыя; так 1893 г. —16,7 і + 18,4; 1900 год—6,8 і + 19,3; 1902 г.—1,5 і + 16,5 і г. д. Ападкі: 1893 г.—27,4 і 134,4 мм.; 1900 г.—29,8 і 34,4 мм.; 1902 г.—47,6 і 84,1 мм. Трэба адзначыць яшчэ тэмпэратуру глебы (паводле даных М.-Горкі) на глыбіні 0,4 м. 0,8 м.

| МЕСЯЦЫ | Глыб. 0,4 м. | Глыб. 0,8 м. |
|---|---|---|
| Студзень | — | 0,9 |
| Люты | +0,8 | 0,4 |
| Сакавік | 1,9— 0,2 | 0,3 |
| Красавік | 0,2— 5,2 | 4,4— 0,0 |
| Май | 6,9—14,4 | 4,5—12,0 |
| Чэрвень | 12,9—17,5 | 11,4—15,6 |
| Ліпень | 17,2 | 16 |
| Жнівень | 16,8 | 16,1 |
| Верасень | 13,7 | 13,9 |
| Кастрычнк. | 8,6 | 9,8 |
| Лістапад | 3,4 | 5,1 |
| Сьнежань | 0,7 | 2,3 |

Пахмурных дзён у сярэднім за год 160.

Лёд на рацэ трымаецца ў сярэднім 100—115 дз.

*Глеба.* Тэрыторыя вёскі Вярхі ляжыць у зоне тарфяна-балотных (махавых і лясных балот) і тарфяна-лугавых (травяных балот) глеб. Уся паўднёвая частка Асіпавіцкага раёну характарызуецца лёгкасьцю складу верхняга пласту і блізкім заляганьнем морэны. На поўдні рэльеф крыху падымаецца; дзякуючы гэтаму няма стоку вады, чаму мы і назіраем тутака шмат балот. Рака Сіняя і канавы з сваім павольным цячэньнем ня могуць пазбавіць глебы ад лішку вады; вось мы тутака і назіраем травяныя і імховыя балоты (Рагавы. Глебы Асіпав. раёну).

*Расьліннасьць.* Увесь Асіпавіцкі раён ляжыць у паласе мяшаных лясоў; дрэвы гэтых лясоў мы знаходзім і на тэрыторыі в. Вярхі. Але-ж будаўнічага лесу тутака няма з тэй прычыны, што тут багата балот. На іх растуць невялічкія хвойкі, елкі і бярозкі; дубы сустракаюцца вельмі рэдка. У балотах, якія знаходзяцца вакол вёскі, расьце асака і хвошч; з прычыны балоцістай мясцовасьці мы тут сустракаем вельмі мала грыбоў і ягад.

*Жывёлы.* Таксама мала і жывёл. Дзе-ні-дзе вельмі рэдка сустракаецца мядзьведзь і лісіца; многа ёсьць ваўкоў і зайцоў; зусім зьніклі дзікі і ласі. Ваўкі, зразумела, прыносяць шкоду: цягаюць цялят, сьвіней. Да шкоднікаў трэба аднесьці і тхара, які душыць кур, але ён рэдка трапляецца. Сустракаецца гарнастай і куніца (у дзяржаўных лясох), але вельмі рэдка.

З птушак мы тутака маем цецярукоў, глушцоў, рабцоў, качак 3-х гатункаў (крыжакі, чыркі і „сярэднія“). З шкодных трэба адзначыць каршакоў, ястрабаў і соў.

## Насельніцтва.

Усіх жыхароў у вёсцы налічваецца 240 чалавек, у ліку якіх 47 непрацаздольных. Насельніцтва, як было ўказана вышэй, прышлае; усе яны беларусы. За апошнія гады мы маем наступныя зьмены ў ліку насельніцтва:

| Гады | Мужч. | Жан. | Разам | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1923 | — | — | 207 | |
| 1924 | — | — | 218 | 44 двары. |
| 1925 | 119 | 111 | 230 | |
| 1926 | 104 | 115 | 219 | |
| 1927 | — | — | 263 | непрацазд. 42 дан. стат. аддз. |
| 1928 | — | — | 240 | |

Асаблівых хвароб і эпідэмій у вёсцы не заўважаецца.

Калі паглядзець на табліцу сьмяротнасьці па в. Вярхі, дык можна заўважыць, што сярод памершых за апошнія гады (1925 — 1929 г.) назіраецца вялікі % дзяцей, пры гэтым прычына сьмерці іх у большасьці выпадкаў невядома.

| Год | Лік | Узрост | Пол | Прычына |
|---|---|---|---|---|
| 1925 | 1 | 2 г. | мужч. | кор |
| | 1 | 6 л. | „ | шкарлятына |
| | 1 | 3 дні | „ | невядома |
| 1926 | 1 | 66 г. | „ | тыфус |
| | 1 | 53 г. | „ | „ |
| | 1 | 2 дні | „ | невядома |
| | 1 | 1 м-ц | „ | „ |
| | 1 | 55 г. | „ | парок сэрца |
| | 1 | 18 г. | жан. | запал. лёгкіх |
| | 1 | 60 г. | „ | прастуда |

| Год | Лік | Узрост | Пол | Прычына |
|---|---|---|---|---|
| 1927 | 1 | 5 м. | мужч. | невядома |
| | 1 | 48 г. | „ | паралюш сэрца |
| | 1 | 3 г. | „ | невядома |
| 1928 | 1 | 1 м-ц | „ | „ |
| | 1 | 1 г. | „ | „ |
| | 1 | 6 м. | „ | „ |
| | 1 | $1^1/_2$ м. | „ | „ |
| | 1 | 5 г. | жан. | „ |
| | 1 | 18 г. | „ | запал. лёгкіх |
| | 1 | 6 м. | „ | невядома |
| | 1 | 1 г. | „ | „ |
| 1929 | 1 | $2^1/_2$ г. | „ | „ |
| | 1 | 1 г. | „ | „ |
| | 15 м. / 8 ж. | | | у 13 выпадках прычына невядома |

З агульнага ліку памершых—23 ч.—на дзяцей прыходзіцца 16 чалавек, што складае каля 70%.




Рэгістрацыя нараджэньняў за тыя-ж гады дае нам такія лічбы:

у 1925 г.—10 ч. (7 м. і 3 ж.); у 1926 г.—4 чал. (4 м.); у 1927 г.—16 чал. (16 м.); у 1928 г.—2 ч. (1 м. і 1 ж.) і ў 1929 г.—4 ч. (4 м.). Такім чынам за тыя-ж гады нарадзілася 36 чал.

Дзеці ў вёсцы часта хварэюць на залатуху, у выніку чаго ў іх назіраюцца часта хваробы вачэй і вушэй. У гэтых выпадках насельніцтва зварочваецца да доктара і лечыць дзяцей па яго ўказаньню.

Пры глістох насельніцтва зноў такі ідзе да доктара.

Зубную хваробу лечаць іншы раз і ўласнымі сродкамі: накальваюць жалеза і прыпякаюць ім хвары зуб.

Хатняе лячэньне ўжываюць і пры залатусе: дзяцей купаюць у цёплай вадзе з кветкамі, „бра̀ткамі".

Ёсьць і шаптухі.

У адносінах *да рэлігіі* трэба насельніцтва падзяліць на 2 лягеры—старых і маладых.

Калі старыя яшчэ сьвяткуюць рэлігійныя сьвяты, паводле старога стылю, дык моладзь у царкву ня ходзіць, абрадаў прытрымліваецца рэдка і зьяўляецца нерэлігійнай часткай насельніцтва. Трэба адзначыць, што антырэлігійная праца тутака пастаўлена слаба.

*Будынкі.* Усе хаты ў вёсцы выцягнуты ўздоуж аднэй вуліцы, якая цягнецца з N на S. Вуліца параўнальна сухая і ня мае завулкаў; будынкі (жылыя) стаяць па абодвых бакох.




Усіх жылых будынкаў налічваецца 48; яны збудаваны з дрэва — чорналесься 44 хаты і красналесься 4 хаты і крыюцца частка саломай — 27 х. (56,3%), частка дошкамі — 16 х. (33,3%), а рэшта—5 х. (10,4%) — гонтам. Што тычыцца гумён, дык яны звычайна крыюцца саломай.

Усе хаты па плошчы разьмяркоўваюцца наступным чынам: (весткі страхагэнцтва)

| | |
|---|---|
| з плошчаю ад 15 кв. м. да 20 кв. мэтр. . . . | 2 |
| " " " 20 " " 25 " " . . . | 5 |
| " " " 25 " " 30 " " . . . | 2 |
| " " " 30 " " 35 " " . . . | 16 |
| " " " 35 " " 40 " " . . . | 20 |
| " " ў 55 кв. м. . . . . . . . . . | 1 |
| " " " 72 " . . . . . . . . . . | 1 |
| " " " 96 " . . . . . . . . . . | 1 |
| усяго . . . | 48 х. |

Такім чынам, большая частка хат мае плошчу ад 30 да 40 кв. мэтр. (36 хат); вялікіх хат з плошчаю ў 55, 72, 96 кв. мэтр.—усяго 3.

Падлічыўшы ўсю плошчу (яна=1680 кв. м.) і прыняўшы пад увагу агульную лічбу жыхароў вёскі—240 чал.—мы маем плошчы на аднаго чалавека 1680 кв. м.: 240=7 кв. мэтр.

У адносінах да кубатуры мы маем наступнае разьмеркаваньне хат: (весткі страхагэнцтва)

| | |
|---|---|
| меней 40 кб. мэтр. . . . . . . . . | 1 хата |
| " 40 " " да 80 кб. м. . . . | 9 " |
| " 80 " " " 100 " " . . . . | 17 " |
| " 100 " " " 120 " " . . . . | 18 " |
| " 120 " " " 140 " " . . . . | 1 " |
| звыш 140 кб. м. . . . . . . . . . | 2 " |

Агульная кубатура хат па вёсцы=каля 4750 кб. м., з чаго на аднаго чалавека прыпадае 4750 кб. м.: 240=20 кб. м. (19,8), у сярэднім хаты збудаваны вокнамі на вуліцу, вакяніц ня маюць; лік вакон у хаце ў сярэднім 3. Апальваюцца хаты дровамі, асьвятляюцца газай, якую насельніцтва бярэ з коопэратыву.

Па тыпу хат іх можна падзяліць наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| чатырохсьценак | = | 44 | (91,7%) |
| пяцісьценак | = | 3 | (6,3%) |
| з дзьвюх палавін | = | 1 | (2%) |

З надворных будынкаў у вёсцы ёсьць 20 гумён памеру:

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ад 30 | кв. м. | да | 50 | кв. м. | = | 3 | (15%) |
| „ 50 | „ | „ | 70 | „ | „ | = | 5 | (25%) |
| „ 70 | „ | „ | 90 | „ | „ | = | 7 | (35%) |
| „ 90 | „ | „ | 100 | „ | „ | = | 5 | (25%) |

Хлявоў у вёсцы налічваецца 68, сьвінарнікаў=21, лазьняў=2.

Агульная каштоўнасьць усіх будынкаў в. Вярхі—жылых і няжылых—па ацэнцы страхагэнцтва за 1926 г.=амаль 30 тыс. руб. (29440 р.), што дае ў сярэднім на 1 гаспадара каля 640 руб.; але-ж паасобку каштоўнасьць будынкаў вагаецца між 140 р. і 1280 р.

| | | |
|---|---|---|
| ад 100 р. да | 400 руб. . . . . . . . | 7 чал. |
| „ „ | 600 „ . . . . . . . . . | 21 „ |
| „ „ | 800 „ . . . . . . . . . | 8 „ |
| „ „ | 1000 „ . . . . . . . . | 7 „ |
| „ „ | 1300 „ . . . . . . . . | 5 „ |

*Адзежа.* Адзежу насельніцтва носіць большай часткай саматканую, замяняючы яе ў сьвяты адзежай з крамнай матэрыі. Жанчыны носяць: спадніцы, кафтаны, кашулі, хусткі.

Мужчыны носяць: сьвіты, кажухі, рубашкі, штаны; на нагах лапці, якія ў сьвяточныя дні замяняюцца ботамі. Улетку жанчыны носяць паркалёвыя хусткі, узімку—суконныя; мужчыны зімою носяць шапкі з авечых або заячых скурак.

Дзяцей адзяюць дрэнна—большасьць босыя, у аднэй вопратцы і толькі тыя, што ідуць у школу, адзяюць сьвіткі і абуваюць лапці. Каб захаваць адзежу ад молі, яе (адзежу) перасыпаюць табакай, а ў суконную адзежу ўтыкаюць іголкі. Жалобнай адзежы сяляне ня носяць, але-ж лічаць, што пасьля сьмерці каго-небудзь у сямь'і сваяком ня трэба цэлы год насіць чырвонага.

*Страва.* Сьвяточная страва мала чым розьніцца ад буднічнай. Ядуць 3 разы ў дзень; на абед звычайна ідзе спачатку бульба, потым боршч з мясам; іншы раз бывае малочны альбо мясны крупнік.

Для баршчу ўлетку скарыстоўваюць шчаўе, лебяду, крапіву; ужываюць як страву салёныя грыбы, квашаныя агуркі, а таксама ягады, з якіх некаторыя сушаць, а журавіны кладуць проста ў дзежку.

У сьвяты пякуць бліны і мачаньне, вараць крупнік і капусту.

Для пітва тутака ўжываюць хлебны квас, бярозавік, кляновік і бурачны квас.

Пасуда—за выключэньнем лыжак і шклянак,—бывае ў адным экзэмпляры; ядуць з агульнай міскі або „латушкі". За выключэньнем глінянай міскі ўся пасуда драўляная. Сюды трэба аднесьці: дзежку для кваскі рознай гародніны, дзежку для збожжа, маслабойку, даёнку, вядро, начоўкі вялікія для мыцьця бялізны, начоўкі малыя, дзежку для хлеба, малую дзежку для блінцоў, лыжкі—усё гэта звычайна робіцца з дрэва ў сваёй вёсцы. Вілкі, якімі дастаюць гаршчкі, зроблены з жалеза (куплены ў коопэратыве).

Рэлігія мае ўплыў і ня яду: некаторыя яшчэ посьцяць, іншыя да „Спаса" не ядуць круглага—яблык, гароху, бобу,—лічачы, што, „калі памрэ дзіця, дык на тым сьвеце яму ня будзе яблык".

### Сельска-гаспадарчая прамысловасьць.

*Паляводзтва.* У час закупкі зямлі ад памешчыка А. Шыманскага ў купленым вучастку лічылася 780,4 дзесяц., якія былі разьмеркаваны наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 1) пахаці і пад будынкамі . . . . | 37,2 | дз. |
| 2) сенакосу з зарасьлямі . . . . | 302,51 | „ |
| 3) лесу ліставога . . . . . . . . | 102,72 | „ |
| 4) „ мяшанага . . . . . . . . | 25,8 | „ |
| 5) „ сасновага . . . . . . . . | 310,35 | „ |
| 6) Дарогі, рэчкі, канавы . . . . | 2,12 | „ |
| разам. . . | 780,4 | „ |

Паводле вестак с/с за 1928 і 1929 г. пахаці ў вёсцы налічваецца 74 дз. і лугоў незаліўных—74 дз., такім чынам лік пахаці з таго часу (1909—1910 г.) павялічыўся ў 2 разы.

У разьмеркаваньні зямлі пры пакупцы зусім не паказаны балоты; між тым іх тутака багата; трэба лічыць, што балоты, хутчэй за ўсё, ўвайшлі ў графы „лес ліставы“, „сенакос з зарасьлямі“ і „лес сасновы“, бо гэтага „сенакосу з зарасьлямі“ на балоце і нізкапарослага сасьняку таксама на балоце ёсьць і цяпер багата. Якасьць гэтага лесу, зразумела, кепская.

З усёй пахаці, 74,0 дз. пад пасевамі паводле даных с/с лічыцца 53,65 дз. Пахаць паміж жыхарамі разьмяркоўваецца наступным чынам (лічачы тутака 45 двар.).

| | | | |
|---|---|---|---|
| зямлі 0—1 дз. = 1 двор. | „ „ 3 „ = 10 „ |
| „ да 2 „ = 24 „ | звыш 3 „ = 8 „ |

Найменшы лік пахаці на 1-го гаспадара прыходзіцца $^1/_2$ дз., найвялікшы—4 дз.

Такі самы расклад мы маем і ў лугох, тыя-ж лічбы прыходзяцца на максымум і мінімум лугоў на 1 гаспадара.

Неабходна ўказаць, што в. Вярхі мае яшчэ паводле вестак с/с 138 дз. удобнай зямлі, якая зусім не скарыстоўваецца; гэта—залеж. Такім чынам, з усёй Верхаўскай зямлі—780,4 дз.—у гаспадарцы скарыстоўваецца 74 дз. пахаці+74 дз. лугоў і+138 дз. залежнай зямлі, што складае меней 40%; рэшта занята пад балотамі, пяскамі, лесам. На балоты ў апошні час зьвярнула ўвагу Нова-Дражненскае мэліорацыйнае т-ва і ў выніку яго працы трэба чакаць значнага павялічэньня карыснай плошчы.

Сыстэма паляводзтва—трохпалёўка; травасеяньне не пашырана. Сыстэма землекарыстаньня—цераспалосіца.

Галоўнымі культурнымі расьлінамі зьяўляецца жыта і бульба; пры гэтым жыта для сябе не хапае і яго на рынак ня вывозяць. Ураджай жыта ў сярэднім 30 пуд., а бульбы—400 пуд.

У невялікай колькасьці тутака сеюць грэчку, лён, авёс і ячмень.

Пасеў і ўборка праводзяцца ручным спосабам.

Вёска мае наступны с.-гаспадарчы інвэнтар:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) плугой . . . . . . | 41 | 6) Калёс на драўл. хаду . . | 36 |
| 2) барон жал. . . . . . | 37 | 7) „ „ жал. „ . . . | 5 |
| 3) „ драўл . . . . | 4 | 8) Малатарань . . . . | 1 |
| 4) „ агульная арфа . . | 1 | 9) Сячкарань . . . . . | 6 |
| 5) Сох . . . . . . . | 4 | | |

## Жывёлагадоўля.

*Малочнае быдла.* Племяннога быдла ў вёсцы няма—усё яно мясцовай пароды. Быдла налічваецца 111 галоў; малочнасьць яго выражаецца ў 3-4 літры малака ў дзень; пэрыод лактацыі—9 м-цаў у сярэднім. Умовы ўтрыманьня быдла дрэнныя. Хлявы не ацяпляюцца і не асьвятляюцца; спэцыяльных кармушак для быдла няма. Узімку жывёлу кормяць трушанкай; летам—паша.

Продукты ад гэтай галіны жывёлагадоўлі—мяса, малако—скарыстоўваюць самі; скуру і рагі часткай здаюць у коопэрацыю. Як рабочую сілу рагатае быдла не скарыстоўваюць.

Колькасьць кароў з цялятамі за апошнія гады і разьмеркаваньне іх па гаспадарках наступныя:

| 1927 г. | | 1928 г. | |
|---|---|---|---|
| з 1 каровай | 10 гасп. | з 1 каровай | 10 гасп. |
| „ 2 каровамі | 14 „ | „ 2 каровамі | 14 „ |
| „ 3 „ | 12 „ | „ 3 „ | 10 „ |
| „ 4 „ | 3 „ | „ 4 „ | 8 „ |
| „ 5 „ | 3 „ | „ 5 „ | 1 „ |
| „ 6 „ | 1 „ | „ 6 „ | 1 „ |
| Усяго 107 кароў на | 43 гасп. | Усяго 111 кароў на | 44 гасп. |

На 1929-30 бюдж. год па страхагэнцтву ў парадку абавязковага страхаваньня быдла застрахавана 111 галоў рагатага быдла.

*Коні.* Палепшаных парод коняй тутака няма. Умовы ўтрыманьня іх такія-ж самыя, што і кароў.

За бягучы год мы маем тутака 53 працоўныя коні, якія па гаспадарках разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Гаспадароў з 1 канём | 37 |
| „ „ 2 коньмі | 8 |
| „ бяз коняй | 1 |
| Усяго 53 коні на 46 двароў. | |

Каня, як рабочую сілу, пачынаюць скарыстоўваць з $2^1/_2$-3 гадоў; жыве ён у сярэднім 20 год.

*Авечкі.* Усіх авечак у вёсцы налічваецца 145 шт. Трымаюць іх разам з каровамі, а пасьвяць паасобку. Кормяць іх узімку, як і кароў, трушанкай.

Стрыгуць авечак 2 разы ў год. Усе продукты, што даюць авечкі, ідуць на патрэбы сям'і. Па асобных гаспадарках авечкі разьмяркованы наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Гаспадарак з 1 авечкай | 8 |
| „ „ 2 авечкамі | 10 |
| „ „ 3 „ | 12 |
| „ „ 4 „ | 5 |
| „ „ 5 „ | 2 |
| „ „ 6 „ | 4 |
| „ „ 7 „ | — |
| „ „ 8 „ | 2 |
| „ „ 11 „ | 1 |

*Сьвіньні.* Сьвіньні — мясцовай пароды. Умовы ўтрыманьня іх кепскія. Сярэдняя вага сьвіньні 3-4 пуды, адкормленыя даходзяць да 9 пудоў. Адкормліваюць сьвіней тоўчанай бульбай з мукой.

Лік сьвіней разьмяркоўваецца па гаспадарках наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гаспадарак | з 1 сьвін. | . . . | 16 |
| " | " 2 " | . . . | 4 |
| " | " 3 " | . . . | 6 |
| " | " 4 " | . . . | 3 |
| | Усяго . | . | 54 сьвіньні. |

*Птаства.* Гэты від гаспадаркі абмяжоўваецца толькі гадоўляй курэй; курэй у вёсцы—300 шт. Улетку за курамі няма ніякага догляду; узімку іх кормяць бульбай, а іншы раз падсыпаюць трошкі зерне. Яйкі, жывая і бітая птушка збываецца на рынку ў Асіпавічах. Сярэдняя вага куры 3-4 фунты ($1^1/_2$-2 к.). Адкармліваюць іх таксама тоўчанай бульбай з мукой.

*Садоўніцтва і гародніцтва.* Гэтыя галіны ў Вярхох амаль адсутнічаюць. На ўсёй вёсцы ёсьць 4 гаспадары, у якіх па некалькі пладовых дрэў. Гародніцтва носіць натуральна-спажывецкі характар і задаваляе патрэбы выключна вяскоўцаў.

*Пчалярства.* Паводле вестак с/с ў вёсцы 2 калоды і 6 рамачных вульляў. Усе яны знаходзяцца ля хат, пасек няма. Уся праца вакол вульляў праводзіцца сялянамі без спэцыяльных прылад. У сярэднім з 1 вульля бяруць 20—30 фунт. (8—12 к.) мёду; ён спажываецца сялянствам, а вашчына ідзе ў коопэрацыю.

*Рыбацтва.* З прычыны адсутнасьці ракі гэты промысел тутака адсутнічае. Праўда, пасьля веснавой паводкі, дзеці разам з падлеткамі, бродзячы па канаве, вылаўліваюць таптухай шчупакоў, плотак, але не ў вялікай колькасьці.

*Паляваньне* не пашырана. Галоўнымі прадметамі паляваньня зьяўляюцца вавёрка і заяц; вельмі рэдка пападаюцца куніца і ліс. Асобнымі прыладамі для паляваньня жыхары не карыстаюцца.

З усёй вёскі ў саюзе паляўнічых 4 чалавекі.

## Пабочныя заработкі і саматужная прамысловасьць.

Малая колькасьць пахаці і дрэнная глеба прымушаюць насельніцтва займацца дапаможнымі працамі. Сюды трэба, галоўным чынам, аднесьці лесараспрацоўкі, чым былі заняты ў мінулым годзе 36 двароў. Не займаліся дапаможнай працай толькі 3 сям'і. Валавы прыбытак з вёскі налічваўся 6998 руб. 10 к. Насельніцтва заплаціла ў мінулым годзе 155 р. 82 к. сельска-гаспадарчага падатку, пры гэтым:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| падатак | не плаціла | . . . | 10 | двароў |
| " | плацілі да 2 руб. | . | 12 | " |
| " | " " 10 " | . | 20 | " |
| " | " звыш | . . . | 3 | " |

Найвялікшы падатак за мінулы год=20 р. 95 к.

Народная тэхніка ў Вярхох у наступным стане: дрэва абрабляюць толькі на цэбры, санкі, драбіны, калёсы, ужываючы для гэтага цясло, сякеру, долата, пілку аднаручку, скобку, струг, гэблік, рашпіль; цацак з дрэва ня робяць.

Каменьні ідуць выключна на падмуроўку.

З гліны робяць цэглу. Для гэтага капаюць гліну, дадаюць туды пяску, месяць і формуюць. Выганкі смалы і дзёгцю тутака няма; карчы, якія трапляюцца ў часе працы па асушцы балот, адвозяць на Верайцоўскую смалярню.




Апрацоўка воўны, якую стрыгуць вялікімі ножнамі, адбываецца ў Асіпавічах.

З каноплі ўюць вяроўкі; сядзёлкі і хамуты робяць з лямцу.

У вёсцы няма млыну, таму частка жыта размалваецца ў Асіпавічах, а частка на ўласных жорнах, якіх у вёсцы налічваецца 4. Яны складаюцца з верхняга і ніжняга каменя, ручкі, поду і станка.

Гады 3 таму назад тут была скураная майстэрня, але з прычыны адсутнасьці добрых майстраў яна зачынілася.

### Трошкі з мінулага. Сучасныя організацыі.

Імпэрыялістычная вайна застае в. Вярхі з насельніцтвам каля 180 чал.

У часы польскай окупацыі сялянству прыходзілася кепска: у іх забіралі коняй, сьвіней, хлеб, сала і г. д.

Трэба адзначыць, што насельніцтва наогул ідзе насустрач мераприемствам па палепшаньні жыцьця, але ў некаторых пытаньнях яно бывае часам вельмі ўпартае.

З грамадзкіх дабраахвотных організацый мы тут маем у гэтым годзе:

1) Ячэйку „Прэч няпісьменнасьць“, якая налічвае 39 чалавек. У вёсцы няпісьменных 20 чал. (3 мужч. і 17 жанч.).

2) ячэйку Осоавіяхіму з 15 членамі.

У 1929 г. тутака організаваўся піонэратрад колькасьцю ў 28 чал. Адносіны сялянства да атраду добрыя.

Школа адчынілася ў вёсцы ў 1922 годзе; цяпер у ёй 44 вучні. Да школы сяляне адносяцца таксама добра; яны бываюць на сходах, абгаварваюць патрэбы школы, рыхтуюцца да сьвят. Пры школе ёсьць невялічкая бібліотэчка і выдаецца вясковая насьценгазэта.

Зусім нядаўна ў вёсцы адчыніўся „Чырвоны Куток“, пад які ўзята хата аднаго селяніна.

Дрэнна абстаіць справа з партработай—тут ёсьць усяго 1 партыец; працы сярод моладзі, а таксама сярод жанчын не вядзецца ніякай. Між тым, апошнія часта самі гавораць аб адчыненьні ў іх яськей.

Сяляне в. Вярхі ўваходзяць у склад Нова-Дражненскага мэліорацыйнага т-ва, якое ўзьнікла па ініцыятыве сялян у 1923 годзе, але-ж з некаторых прычын пачало працаваць толькі з 1926 году. Усіх членаў гэтага таварыства па вёсцы 45; кожны з іх плаціць 5 кап. з 1 дз. і 1 руб. уступных.

На тэрыторыі зямлі вёскі балот багата, а таму тутака прадбачыцца вялікая праца па асушцы. Да гэтага часу пракопана 1 канава даўжынёю ў 3 вярсты, шырынёю ў 1,6 саж. і глыбінёю у 0,7 саж. Пачаты яшчэ 3 канавы, з якіх мяркуецца адну зрабіць даўжынёю у 3 клм., другую ў $1^1/_2$ клм. і трэцьцю ў 2 клм.

У маі 1929 году саюз чыгуначнікаў станцыі Асіпавічы ўзяў шэфства над вёскай Вярхі, маючы на мэце ўтварэньне з вёскі колектыву; гэтае шэфства ў сьнежні таго-ж году было заменена шэфствам настаўнікаў і вучняў Асіпавіцкай чыгуначнай школы. Яны паставілі сабе мэтай утварэньне з в. Вярхі колектыву к вясне 1930 году.

Пры правядзеньні тых ці іншых мерапрыемстваў прымаліся пад увагу ўсе фактары жыцьця вёскі і ў першую чаргу—прыродныя.

Як было паказана раней, зямля тутака кепская—пяскі, балоты. (Між іншым, яна пакупалася па 525 р. за валоку ў той час, калі вакольныя вёскі суседняга с/с Дзераўцоўскага—плацілі за валоку 950 р.)

Выходзячы з гэтага можна намалявяць наступныя пэрспэктывы для сельскай гаспадаркі.

Збожавая гаспадарка тут магчыма толькі на базе шырокага ўжываньня люпінавага і тарфянога ўгнаеньня; апошні, як было паказана раней, тутака ёсьць.

З увядзеньнем колектыўнай апрацоўкі зямлі трэба адкінуць трохпалёўку і ўвесьці наступны севазварот (у першыя гады):

1) люпін на насеньне (асобнае поле),
2) люпін на ўгнаеньне,
3) жыта з падсевам сэрадэлы,
4) бульба,
5) авёс.

Адначасова трэба будзе скарыстоўваць тую зямлю (138 дз.), якая да гэтага часу ўжывалася, як залежная.

Зразумела, што да вясны трэба арганізаваць колектыўную ссыпку насеньня, каб была магчымасць перад сяўбой зрабіць ачыстку яго.

Пры далейшай працы трэба мець на ўвазе павялічэньне пасеўнай плошчы ў сувязі з інтэнсыўнай асушкай балот; усю новую плошчу трэба пускаць пад зернавыя культуры.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на другую галіну гаспадаркі—на жывёлагадоўлю, у прыватнасьці на гадоўлю малочнай жывёлы. Галоўным фактарам для разьвіцьця жывёлагадоўлі зьяўляюцца лугі і балоты, якія пры асушцы дадуць значную плошчу сенакосу. Перашкодамі ў гэтым зьяўляюцца: 1) невялікі лік быдла, 2) яго дрэнны якасны склад, 3) адсутнасць травасеяньня і культуры кораньплодаў, 4) кепскія ўмовы ўтрыманьня жывёлы. Такім чынам перад шэфтаварыствам стаіць задача падняцьця жывёлагадоўлі, для чаго трэба ўвесьці ў першую чаргу наступныя мерапрыемствы: 1) паклапаціцца аб палепшаньні якаснага складу быдла праз увядзеньне ў колектыўны статак палепшаных парод кароў і вытворнікаў, 2) пашырыць і ўзмацніць працу па асушцы балот 3) увесьці травасеяньне і культуру кораньплодаў, 4) арганізаваўшы колектыўную будыніну для быдла, імкнуцца вясьці ўтрыманьне быдла на навуковых падставах.

Для рэалізацыі продуктаў жывёлагадоўлі ў жніўні бягучага году тутака ўтворана малочная арцель, запісалася каля 30 чалавек. Шэфтаварыствам у гэтай галіне была праароблена наступная праца: закуплен для арцелі інвэнтар—сэпаратар, маслабойка і інш.—на 525 руб.; акрамя таго, зроблен склеп і рамонт хаты для працы арцелі—гэта каштавала 50 руб. На сродкі шэфтаварыства паслалі на 1 м-ц на курсы малочных арцелей селяніна, які па прыезьдзе павінен стаць інструктарам гэтай арцелі.

Для падняцьця палітычнага і культурнага роўню насельніцтва вёскі з 1 кастрычніка адчынена хата-чытальня. Шэфтаварыства наняла

памяшканьне пад хату-чытальню (20 руб. за 6 м-цаў), наняла загадчыка хатай-чытальняй, якому плаціць 20 руб. у м-ц, паклапацілася аб асьвятленьні і інвэнтары і выпісала 8 газэт, 50 кніжак па сельскай гаспадарцы і інш.

Па пытаньнях колектывізацыі ў вёсцы праведзена 3 агульныя сходы 1) у сьвята ўраджаю, 2) напярэдадні сьвята Кастрычнікавай рэволюцыі і 3) у часе бульбанарыхтовак.

Для сувязі вёскі з шэфорганізацыяй адтуль прыяжджалі на ўрачыстыя сьвяты—дзень ураджаю і Кастрычнікавыя сьвяты—сяляне першы раз у ліку 13 чал., другі—6 чал.

Першачарговымі задачамі ў справе колектывізацыі вёскі для шэфтаварыства на бліжейшы тэрмін зьяўляюцца:

1. у галіне організацыйнай:

а) падрыхтоўчая праца: дэталёва азнаёміцца з інвэнтаром вёскі, правесьці вучот колькаснага складу будучага колектыву;

б) парадзіўшыся з ячэйкай КСМ ст. Верайцы, прыняць меры да разгортаваньня працы сярод моладзі в. Вярхі;

в) высьветліць умовы працы сярод жанчын, для чаго ўвайсьці ў сувязь з пярт'ячэйкай; калі там ня будзе свайго працаўніка, паклапаціцца аб тым, каб вызначылі на гэтую працу аднаго члена шэфтаварыства;

г) узмацніць працу ўсіх існуючых у вёсцы дабраахвотных т-ваў, адначасова імкнуцца ўтварыць новыя, якіх тамака няма (Мопр, Аўтадор);

д) вызначыць і паслаць для знаёмства з наладжанымі колгасамі 4 чалав. (2 м. і 2 жанч.) і 1 чалавека з шэфтаварыства.

2. У галіне сельскай гаспадаркі:

а) выклікаць каморніка для нарэзкі зямлі колектыву;

б) організаваць ссыпку насеньня ў агульны сьвіран, абмеркаваўшы спачатку, які сьвіран для гэтай мэты ўзяць;

в) утварыць агульны хлеў, узяўшы напрамак на злучэньне 2-х вялікіх будынкаў з тых, якія ёсьць на вёсцы; пры гэтым зьвяртаць увагу на асьвятленьне і ацяпленьне яго;

г) накіроўваць у в. Вярхі сабраны школай попел.

д) увайсьці ў сувязь з РВК у пытаньні аб палепшаньні якаснага складу жывёлы.

3. У галіне культпрацы ў першую чаргу зрабіць наступнае:

а) падвысіць агрономічныя веды насельніцтва шляхам лекцый.

б) павялічыць лік кніжак па сельскай гаспадарцы;

в) дапамагаць вёсцы ў справе выданьня насьценгазэты;

г) накіраваць вучняў для аздабленьня чырвонага кутка і школы;

д) утварыць пры школе аптэчку.

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

## Організацыя і зьмест працы школьна-краязнаўчых гурткоў.

Цікавасьць да краязнаўства з боку нашых школ з кожным годам расьце. Аб гэтым сьведчаць тыя гурткі юных краязнаўцаў, якія ёсьць амаль што пры кожнай школе. А тым часам мя ня маем яшчэ сталых паказаньняў, што могуць і павінны зрабіць у галіне краязнаўства гэтыя гурткі, як і ў якім абхопе могуць дзеці выпаўніць гэтую працу, якія вынікі могуць быць з гэтай працы і г. д. Школьна-краязнаўчыя гурткі вельмі часта бяруцца за непасільную працу, за працу, якая ня можа іх зацікавіць і, з гэтай прычыны, часта яе кідаюць. Каб дапамагчы кіраўніку школьна-краязнаўчага гуртка організаваць працу юных краязнаўцаў, вызначыць зьмест гэтай працы, мець ад яе якія-колечы вынікі, школьная сэкцыя Менскага Акруговага Таварыства Краязнаўства намячае шэраг тэм, якія мажліва, па яго думцы, ці скарыстаць цалкам ці ў зьмененым і скарочаным выглядзе.

Трэба зазначыць, што з пададзенага ніжэй сьпісу тэм, школьна-краязнаўчы гурток можа ўзяць для распрацоўкі адну, дзьве, тры тэмы адлажыўшы рэшту тэмы на іншы час. Апрача таго, мажліва, што гэты сьпіс тэм навядзе думку кіраўніка школьна-краязнаўчага гуртка на выбар зусім іншай тэмы, якая будзе мець вялікае значэньне ў жыцьці школы ці данага раёну на працягу некалькіх гадоў.

Бяручыся за распрацоўку вылучаных тэм, кіраўнік павінен выклікаць да іх зацікаўленасьць вучняў.

Звычайна дзеці (і ня толькі дзеці) упэўнены, што яны ведаюць і сваю вёску, часта і свой раён, мястэчка, прамысловасьць данай мясцовасьці, ведаюць культурны стан і быт насельніцтва, ведаюць свой лес, рэчку, балота з іх дзікімі жывёламі, птушкамі і г. д. і г. д. Свае веды яны звычайна выказваюць у адным, двох словах. Напрыклад: „У нашым раёне ёсьць адна пільня, два млыны і валюш. Наш лес стары. Наша рэчка рыбная, ціхая, глыбокая“ і г. д. Досыць запытацца ў дзяцей больш падрабязна апісаць вядомае ім прадпрыемства, расказаць аб яго росьце, пра прычыны і гісторыю ўтварэньня данага колгасу, пра плошчу вядомага ім лесу, пра наглыбейшае і наймялейшае месца бліжэйшай рэчкі, пра таўшчыню тарфовага пласту ў прылягаючым да вёскі балоце і г. д., як некаторыя дзеці зараз-жа выкажуць сваё жаданьне больш дакладна пазнаёміцца з якім-небудзь прадпрыемствам, лесам, рэчкай, гістарычнай падзеяй.

Тут-жа патрэбна і давесьці нашым краязнаўцам, што для сталага апісаньня мала тых ведаў, якія мы маем пра нашу вёску, мястэчка,

тое ці іншае прадпрыемства, а патрэбны больш дакладныя весткі, больш падрабязнае азнаямленьне. Трэба зьвярнуць увагу дзяцей і на тое, што пры краязнаўчым апісаньні зусім нічога нярварты такія сказы: „Наш колектыў вялікі“, „наша возера рыбнае“, „у нашым балоце залягае шмат торфу“, „за гэту зіму ў нашым раёне забіта шмат ваўкоў, лісіц і зайцоў“.

Каб вывучэньне сваёй мясцовасьці, прадпрыемстваў, быту насельніцтва мела сэнс у вачох дзяцей, працы школьна-краязнаўчага гуртка трэба надаць вытворчы характар. Напрыклад, мы вывучаем лес, каб ведаць, як за ім даглядаць, дзе яго лепш сеяць нашаму колгасу; вывучаем возера, рэчку з мэтай разьвядзеньня там таго ці іншага гатунку рыбы, важнай у справе харчаваньня насельніцтва данай мясцовасьці; поплеч з вывучэньнем гатункаў збожжа, робім досьледы над паляпшэньнем яго мясцовых гатункаў; вывучаючы прамысловасьць ці, лепей кажучы, прамысловае прадпрыемства, мы і самі прымаем удзел у працы гэтага прадпрыемства і г. д.

Зацікавіць вучняў лёгка вывучэньнем фотаграфаваньня, дзе гэта мажліва, організацыяй далёкіх экскурсій і г. д.

Пры такой пастаноўцы працы ў школьна-краязнаўчым гуртку яна будзе заўсёды цікавай, карыснай і будзе гадаваць з вучняў актыўных краязнаўцаў.

### Частка органазіцыйная.

1) Школьна-краязнаўчы гурток організуецца згодна статуту школьнага гуртка.

2) Перад пачаткам працы школьна-краязнаўчага гуртка канечна патрэбна склікаць конфэрэнцыю школьна-краязнаўчых гурткоў гораду, сельсаветаў, ці нават і раёну.

Зьмест працы конфэрэнцый можа быць прыблізна такі:

а) Даклад прадстаўніка раённага краязнаўчага таварыства аб зьмесьце і мэтодах працы школьна-краязнаўчых гурткоў. (Такім дакладчыкам пажаданы настаўнік).

б) Падагульненьне праробленай за лета працы.

в) Абгаварэньае вытворчага (вытворчых) пляну працы школьна-краязнаўчага гуртка на бягучы навучальны год.

г) Уцягненьне ў краязнаўчую працу настаўнікаў і бацькоў вучняў.

д) Заснаваньне пры кожнай школе (або на некалькі школ) краязнаўчага часопісу пад назвай „Наш горад“, „Наш сельсавет“, „Наш раён“ (пры сямігодцы).

е) Організацыя пры кожнай школе (або на некалькі школ) школьна-краязнаўчага музэю сіламі і сродкамі гуртка (гурткоў, бацькоў, вучняў, настаўнікаў).

ж) Мэтоды ўцягненьня ў краязнаўчую працу праз вучняў шырокіх коляў насельніцтва (зварот вучняў за дапамогай да сваіх бацькоў, савецкіх працаўнікоў у час вывучэньня таго ці іншага краязнаўчага об‘екту).

### Частка практычная.

Разьдзел соцыяльна-экономічны.

1) Вывучэньне і апісаньне прадпрыемства, якое мае значэньне для данай вёскі, сельсавету, раёну, акругі, ці нават для ўсяе БССР

(млын, пільня, смалярня, цагельня, кахляны, чарапічны завод, завод штучнага ўгнаеньня).

Прыблізны плян апісаньня:

а) Надворны выгляд заводу: будынак, яго памер, плошча, мясцовасьць занятая заводам, шляхі, якія ідуць да заводу і г. д.

б) Што выробляюць на заводзе? (гатовы тавар, колькасьць вырабу, месца збыту, забясьпечаньне сыравінай, месцазнаходжаньне сыравіны і г. д.).

в) Абсталяваньне заводу (падрабязнае апісаньне машын, варштатаў, іх працы і г. д.).

г) Павялічэньне вытворчасьці і ўдзел у гэтым рабочых (калі перайшлі на бесьперапынную працу, на 7-гадзінны рабочы дзень, скарачэньне прагулаў, вынаходзтвы рабочых, хоць-бы сабе і самыя нязначныя, і іх адбітак на павялічэньні вытворчасьці, якасьць продукцыі, яе паляпшэньне). Роля соцыялістычнага спаборніцтва ў павялічэньні вытворчасьці. (Вытворчасьць да спаборніцтва і пасьля ўступленьня ў спаборніцтва).

д) Лік рабочых, велічыня заработку, паляпшэньне ўмоў працы, рацыяналізацыя працы і г. д.

е) Віды на пашырэньне данага заводу (вялікая колькасьць сыравіны-лёну, пянькі, контрактацыя сыравіны, дасьледваньні сыравіны і г. д. і г. д.)

ж) Уплыў прадпрыемства на гаспадарку вёскі (вёсак) (пасеў бульбы тэхнічных культур і г. д.).

2) Апісаньне прадпрыемства, якое будуецца паводле пяцігадовага пляну індустрыялізацыі нашага раёну. Як пасьпяхова ідзе гэтае будаўніцтва, прычыны затрымкі ці пахутчэньня ў будаўніцтве, апісаньне і зарысоўкі прадпрыемства ў розныя этапы будаўніцтва. Пуск у ход новага прадпрыемства і г. д.

3) Колгас (фабрыка хлеба) нашага сельсавету, раёну і гісторыя яго ўтварэньня, як ідзе колектывізацыя ўсяго нашаго раёну).

а) Хто быў пачынальнікам у гэтай справе.

б) Якая плошча зямлі аграмаджана.

в) Колькі гаспадарак і асоб ахапіў колектыў.

г) Якія конкрэтна былі цяжкасьці пры ўтварэньні колектыву.

д) Хто і як з імі змагаўся.

е) З якімі сродкамі пачаў працаваць колектыў.

ж) З якімі прыладамі.

з) Як паступова колектыў мацнеў.

і) Якія ўраджаі ў колектыве.

к) Куды збываецца ўраджай.

л) Апісаньне быту колектыву.

м) Культурны стан колектыву і г. д.

н) Чым мы можам дапамагчы ў колектывізацыі нашага раёну.

4) Складаньне прамысловага, коопэрацыйнага і іншых плянаў ці карт нашага гораду, мястэчка, пляну колектывізацыі раёну. Уцягненьне дзяцей у гэтую працу і бацькоў у выглядзе дапамогі дзецям пры складаньні прамыслова-саматужніцкай карты гораду.

5) Узорная (колектыўная) гаспадарка нашага сельсавету, раёну, савецкая гаспадарка, колектыўная гаспадарка. Час і гісторыя яе ўтварэньня, плошча, віды ўжыткоўнасьцяй, сыстэма землекарыстаньня, севазварот, спосабы апрацоўкі зямлі і віды ўгнаеньня, сельска-гаспадарчыя машыны. Іх дакладнае апісаньне, малюнкі. Прылады мясцовага

паходжаньня і іх удасканальваньне комунарамі ці супольнікамі. Вынаходкі ў сельскай гаспадарцы і іх скарыстаньне ў даных гаспадарках. Уласныя досьледы працаўнікоў гаспапаркі. Параўнаньне вынікаў працы ў колектыве з вынікамі дробна-ўласьніцкай гаспадаркі. Распаўсюджваньне гэтых вынікаў, калі яны станоўчыя (вытворчае краязнаўства).

6) Буйныя жывёлагадавальныя гаспадаркі і таварыствы нашага раёну. Парода скаціны. Яе надворны выгляд (замалёўкі), гаспадарчыя якасьці (вага, продукцыйнасьць, трываласьць і г. д.), віды на пашырэньне ў раёне. Уплыў новай пароды на мясцовую пароду.

7) Разьвядзеньне хатніх птушак у нашым раёне (куры, гусі, качкі, індыкі). Надворны выгляд птушкі, яе найбольшая продукцыйнасьць (гадавая носка яец, убойная вага, вага пяра і г. д.). Вываз продуктаў пташніцтва, куды і колькі. Віды на далейшае разьвіцьцё гэтай галіны гаспадаркі. Удзел гуртка ў паляпшэньні пташніцтва ў данай мясцовасьці і інш. Заснаваньне пры школе птушынага гадавальніка сіламі вучнёўскага колектыву пры ўдзеле настаўніка (вытворчае краязнаўства).

8) Гаспадарка серадняка (бедняка). Поўнае і дакладнае апісаньне серадняцкай ці бядняцкай гаспадаркі. Плошча. Ужыткоўнасьць, сыстэма землекарыстаньня, севазварот, збожжа і іншыя культуры, прылады і гаспадарчыя снасьці, паляпшэньне ўраджайнасьці. Што робіцца мясцовымі органамі Савецкай улады для організацыі гэтых гаспадарак у колектывы. Захады з боку ўдзельнікаў апісаньня з мэтай паляпшэньня данай гаспадаркі (вытворчае краязнаўства). Загатоўка модэлі тыповага серадняцкага, бядняцкага (двара, сядзібы) з узорамі яго нутранога абсталяваньня.

9) Гісторыя нашага машыннага таварыства, малочнага колектыву мэліорацыйнага таварыства і г. д. Прычыны ўтварэньня, разьвіцьцё ці заняпад, абсталяваньне, звароты, карысьць і г. д.

10) Працы падагульняючыя. Прамысловасьць нашага гораду, мястэчка, раёну і г. д. Рамёствы нашай вёскі, раёну, гораду. Сталярка, бандарка, кросны і г. д. Дакладнае апісаньне саматужніцкіх відаў працы ў нашым горадзе, вёсцы, раёне і г. д. з замаляваньнем і падрабязным апісаньнем прылад, спосабаў вырабу, ролі гэтай саматужніцкай працы ў гаспадарцы, як самага рамесьніка, так і цэлага паселішча, гораду, мястэчка і г. д. (ганчары, бандары, рымары, стальмахі, шаўцы і г. д.).

11) Дабрабыт нашага гораду (вёскі, мястэчка, с/савету, раёну). Будынкі, вуліцы, асьвятленьне, брук, санітарны стан. Комунальныя выгады. Сады для адпачынку. (Стан дарогі). Віды руху. Аховы ад агню і г. д.

12) *Наша рамясьніцкая сябрыня* (суполка, працколектыў). Апісаньне рамесьніцкіх суполак гораду, вёскі, сельсавету, раёну, мястэчка. Мэта і плян тыя самыя, што і пры апісаньні саматужніка, але ў зьмест ўваходзяць элемэнты параўнаньняў з саматужнікам з боку абсталяваньня, падзелу працы, продукцыйнасьці працы, якасьці і колькасьці тавару, відаў на далейшае разьвіцьцё і г. д.

**Прырода-географічны разьдзел.**

13) Збожжа нашай вёскі, раёну: жыта, ярыца, ячмень, авёс, пшаніца, плошчы засеву. Спосабы апрацоўкі глебы і ўгнаеньне, пасьпяваньне, жніво і сярэдні ўмалот збожжа кожнага віду.

Заснаваньне на школьным кавалку зямлі досьледнага поля (гароду) з мэтай паляпшэньня насеньня мясцовага гатунку праз адбор і ўгнаеньне з удзелам агронома (вытворчае краязнаўства).

14) Кармовыя травы нашае вёскі, сельсавету, раёну. Гатункі плошча, ураджай, пашырэньне: досьледы мясцовасьці сіламі настаўніка, агронома і сродкамі сельсавету (райвыканкому) у мэтах паляпшэньня гэтых траў (вытворчае краязнаўства).

Іншыя віды харчоў для скаціны ў нашай вёсцы, сельсавеце, раёне: бручка, буракі морква, турнэпс і г. д. Іх вага ў харчаваньні скаціны. Плошча пашырэньне і г. д.

15) Тэхнічныя расьліны нашай вёскі, сельсавету, раёну, (лён, каноплі). Іх пашырэньне, узрастаючая таварнасьць (пасеў на продаж). Спрыяючыя ці няспрыяючыя ўмовы для разьвіцьця гэтых расьлін, апрацоўка глебы, угнаеньне. Працяжная праца школьна-краязнаўчага гуртка над паляпшэньнем тэхнічнай расьліны (вытворчае краязнаўства).

16) Прасьцейшыя фэноголёгічныя нагляданьні і дапасаваньне іх да патрэб мясцовай сельскай гаспадаркі (колькасьць ападкаў, напрамак ветру, запіс і праверка мясцовых прымет на пагоду. Час пачатку пораў году, прылёту, адлёту птушак і г. д.).

17) Вывучэньне і збор колекцыі шкоднікаў сельскай гаспадаркі (матылі, чэрві). Час зьяўленьня. Умовы іх жыцьця. Змаганьне з імі мясцовымі і навуковымі сродкамі. Праца дзеля зьнішчэньня шкоднікаў (вытворчае краязнаўства).

18) Апісаньне расьлінных згуртаваньняў нашага с/с.: поле, лес, сенажаць, балота. Збор зельніка.

19) а) Лекавыя расьліны нашага с. с., раёну, іх мясцовыя назвы, іх пашырэньне, час збору, загатоўка, карыстаньне, збор на продаж, ці мажліва штучнае разьвядзеньне лекавых расьлін і г. д.

б) Пустазельле нашых палёў, яго пашырэньне, спосабы змаганьня з ім (вытворчае краязнаўства).

20) Наш лес. У горадзе—наш гарадзкі сад, парк. Пладовыя сады нашай вуліцы, гарадзкога раёну. Плошча, гатункі дрэў, найбольш каштоўныя з іх для вытворчасьці і гаспадаркі. Кусты, ягады, грыбы. Насельніцтва лесу—карыснае і шкоднае для лесу. Плян, малюнкі дрэў, кусты і г. д. Малюнкі дрэў у час цьвіценьня, пасьпяваньня насеньня, узоры драўніны ў прадоўжным, папярочным разрэзах, узоры вырабаў у нашай вёсцы з гэтага дрэва і г. д. Плошча пасеянага лесу. Наш актыўны ўдзел у пасеве лесу (вытворчае краязнаўства).

21) Дзікія жывёлы нашага раёну (зьвяры, птушкі). Віды жывёлаў, шкодныя і карысныя, з іх падлягаючыя ахове (лось, бабёр, дзікая каза), і падлягаючы зьнішчэньню (воўк). Нагляданьні за іх жыцьцём на працягу году. (Скарыстаньне ведаў бацькоў і саюзу паляўнічых, праверка здабытых вестак). Нагляданьне над гадоўляй гэтых жывёл, дзе гэта мажліва (пры Беларускім Дзяржаўным запаведніку). Выкрыцьцё прысутнасьці памянёных карысных дзікіх жывёл у нашых лясох па сьлядох і іншых адзнаках.

Птушкі нашага лесу. Нагляданьне за іх жыцьцём, ахова карысных з іх і зьнішчэньне шкодных (вытворчае краязнаўства).

22) Наша крыніца, рэчка, возера (крыніцы, рэчкі вазёры нашага раёну). Мясцовасьць. Пачатак і кірунак цячэньня, памер—шырыня, даўжыня, глыбіня, шпаркасьць цячэньня, паводкі, гаспадарчае скары-

станьне, рыбныя багацьці, пароды рыбы, штучнае разьвядзеньне рыбы (карп, карась і інш.), організаваныя аховы водных багацьцяў нашага раёну. Уцягненьне ў гэту справу бацькоў: капаньне сажалак, выпіска малькоў і г. д. (вытворчае краязнаўства).

23) Выкапныя багацьці нашага с. с., раёну, ваколіц, гораду. Іх назва—торф, гліна, крэйда, вапна, фарба, штучнае ўгнаеньне, колькасьць штогоднага скарыстаньня гэтых выкапняў, віды на далейшую распрацоўку (пяцігадовы плян).

24) Падагульненьне. Хлебныя, тэхнічныя, кармовыя культуры нашага раёну.

Жывёлагадоўля: коні, каровы, сьвіньні, авечкі і інш. Малочная гаспадарка і г. д. (як гадуецца, утрымліваецца, для чаго скаціна прызначаецца, парода і г. д.).

**Культурна-гаспадарчая частка.**

25) Сучасны быт рабочага (пэўнага прадпрыемства), рабочага пэўнага колгасу, бедняка (вёскі), саматужніка, служачага і інш. Забясьпечанасьць (дастатак). Санітарны стан кватэры. Працоўны дзень (будні) і дзень адпачынку (сьвятаў). Скарыстаньне дня адпачынку (рэволюцыйнага і рэлігійнага сьвята). Культурныя запатрабаваньні. Гульні, забавы. Праявы новага быту. Забабоннасьць і якая. Запіс песень, баек.

26) Параўнаньне быту селяніна з бытам рабочага, саматужніка, служачага і наадварот. (Заняткі дома. Працоўны дзень. Правядзеньне адпачынку. Культурныя запатрабаваньні).

27) Падрабязнае апісаньне рэволюцыйнага сьвяткаваньня ў нашай вёсцы (горадзе, мястэчку). Організатары, удзельнікі іх, іх соцыяльны склад. Адносіны насельніцдва да сьвяткаваньня. Уражаньні.

28) Апавяданьне майго дзеда (дзядзькі, бацькі, бабкі) пра паншчыну, вядомага пана, яго маёнтак, пра паўстаньні 1863 году, 1905, 1917 г. г. Дакладнае запісваньне гэтых апавяданьняў з упамінаньнем мясцовасьці, часу, асоб, разьвіцьця падзей, іх вынікаў. Хто яшчэ памятае гэтыя падзеі, хто жыў з удзельнікаў. Помнікі ад тых часоў у мясцовых назвах, песьнях, прыказках.

29) „Як у нас вайна была“. (Апавяданьне ўдзельніка), хто з кім ваяваў? за што? Разввіцьцё падзей, адбітак гэтых падзей на мясцовым насельніцтве і яго гаспадарцы. Помнікі боек. Удзельнікі, сьведкі, песьні прыказкі і г. д. пра гэты час.

30) Нашы рэволюцыянэры. Рэволюцыйныя дзеячы нашай вёскі, с/савету, раёну. Іх дакладны жыцьцёпіс, іх рэволюцыйная дзейнасьць у мінулым, іх праца ў сучасны момант.

31) Клясавае змаганьне ў нашай вёсцы, сельсавеце раёне. (Хто актыўна выступаў супроць мерапрыемстваў Комуністычнай партыі і Савецкай улады? Чаму? Хто яго падтрымліваў? Хто быў супроць яго і г. д. і г. д. Колькі такіх выпадкаў было? Чым-жа скончылася?

32) Удзел сяброў школьна-краязнаўчага гуртка ў нагляданьні пад час правядзеньня ў іх раёне раскопак.

33) Прыказкі, казкі, песьні і дрындушкі, якія я чуў у нашай вёсцы, мястэчку, горадзе мінулага і сучаснага паходжаньня (да 1917 г. і пасьля 17 г.). Дакладны запіс іх з паказаньнем ад каго чуў, дзе, калі, пры якіх умовах ужываецца прыказка, калі пяецца песьня і г. д.

34) Апісаньне сучаснага вясельля (якое адбывалася без рэлігійнай абраднасьці).

35) Як ідзе змаганьне з рэлігійнымі і іншымі забабонамі ў нашай вёсцы, раёне. Хто вядзе змаганьне, з якой пасьпяховасьцю, колькі ёсьць гурткоў бязбожнікаў і г. д.

36) У працэсе вывучэньня свайго сельсавету, вёскі, мястэчка, гораду, мысьліцца заснаваньне вышэйпамянёных часопісаў і школьна-краязнаўчага музэю, разьлічаных на трывалае існаваньне.

**Шапялевіч.**

# ХРОНІКА.

## Соцспаборніцтва паміж Усеукраінскай і Беларускай Акадэміямі Навук.

19-га студзеня г. г. ў памяшканьні БАН на агульным сходзе працоўнікоў Акадэміі прадстаўнікі Усеукраінскай і Беларускай Акадэмій Навук падпісалі наступную ўмову па соцыялістычнаму спаборніцтву:

Бурны тэмп індустрыялізацыі і колектывізацыі нашай краіны і перабудова ўсёй яе гаспадаркі на соцыялістычны лад вымагае ад навукова-дасьледчых устаноў асабліва напружанай працы. Выходзячы з паказанага, мы ўсе працаўнікі Беларускай і Украінскай Акадэміі Навук заключаем дагавор па соцспаборніцтву на наступных прынцыпах:

1. Рацыяналізацыя структуры.
2. Плянавасьць навукова - дасьледчай працы.
3. Удзел Акадэмій у соцыялістычнай перабудове народнай гаспадаркі.
4. Праца ў галіне культурнай рэволюцыі і сувязь з масамі.

### Разьдзел I.

1. Апрацаваць найбольш рацыянальныя проекты структурных зьмен Акадэмій ў напрамку строгага прыстасаваньня іх працы да патрэб соцыялістычнага будаўніцтва, прадугледзеўшы месца Акадэмій у сыстэме навукова-дасьледчых органаў БССР і УССР і магчыма поўную коордынацыю навуковай працы як з рэспубліканскімі навуковымі ўстановамі, гэтак і ўсесаюзнымі. Апрацаваныя проекты шырока абмеркаваць як на агульных сходах Акадэмій, гэтак у друку і сярод шырокіх грамадзкіх колаў. Ліквідаваць паралелізм навукова - дасьледчай працы ў установах БАН і УАН, а таксама і паралелізм работы гэтых устаноў з работаю рэспубліканскіх навукова-дасьледчых організацый.

Акрамя таго УАН мае рэорганізаваць сетку ўстаноў Акадэміі, дакладна падзяліўшы паміж гэтымі ўстановамі ўвесь комплекс заданьняў, якія бярэ на сябе Акадэмія, як адзіны цэлы організм.

### Разьдзел II.

2. Апрацаваць пэрспэкцыйныя пяцігадовыя пляны навукова-дасьледчае працы ўстаноў Акадэмій, пабудаваўшы іх на падставе пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі як у УССР (для УАН), так і БССР (для БАН), гэтак і СССР, кіруючыся апошнімі дырэктывамі партыі і ўлады з увязкаю гэтых плянаў як паміж Акадэміямі, гэтак і паміж адпаведнымі ўсесаюзнымі навукова-дасьледчымі ўстановамі. Складаньне і разгляд плянаў павінна быць закончана па УАН—да 1-га ліпня, а па БАН—да 1-га лютага 1930 году. Акрамя гэтага БАН разгледзіць і зацьвердзіць да 15-га студзеня опэрацыйныя пляны на бягучы год, а УАН—прагледзіць існуючыя пляны ў сувязі з каштарыснымі зьменамі.

Устанавіць точныя функцыі ўсіх устаноў і працаўнікоў, склаўшы для гэтага адпаведныя інструкцыі.

Коордынаваць пляны працы Акадэмій Навук.

Дасягнуць максымальнага абгрунтаваньня каштарысаў на 1930/31 год.

Асыгнаваньні па каштарысу УАН на 1930/31 год на 11 фізыка-матэматычны аддзел давесьці да памеру асыгнаваньняў 1-га і III-га аддзелаў.

Сродкі па каштарысу Аддзелу Прыроды і Народнай Гаспадаркі БАН на 1930/31 год давесьці да 50% усіх асыгнаваньняў Акадэміі.

3. Рацыяналізаваць справу акадэмічнага выдавецтва, дасягнуўшы найбольшага проценту выкананьня выдавецкага пляну. Павялічыць выдавецкую продукцыю ў параўнаньні з 1928/29 годам на 25%. Палепшыць тэхніку выданьня. Паскорыць выхад у сьвет кнігі пасьля здачы рукапісу. Скласьці і надрукаваць бібліографічны паказчык акадэмічных выданьняў і кнігасьпіс акадэмічнага вы-

давецтва. Устанавіць дакладны падлік абмену выдавецтва. Рацыяналізаваць сыстэму гэтага падліку. Павялічыць платнае распаўсюджаваньне акадэмічнай кнігі.

4. Паглыбіць і пашыраць ужытак марксыцкага мэтоду ў навукова-дасьледчай працы УАН і БАН, павялічыўшы лік навукова-мэтодолёгічных тэм. У навукова-дасьледчай працы УАН і БАН рашучую ўвагу зьвярнуць на тэмы, зьвязаныя з рэконструкцыяй народнай гаспадаркі: індустрыялізацыя прамысловасьці, колектывізацыя сельскай гаспадаркі і наогул на тэмы актуальныя і зьвязаныя з сучаснасьцю.

5. Разгарнуць справу навуковага дасьледваньня культуры нацменшасьцяў.

6. Апрача гэтага па УАН — прыцягнуць усіх штатных акадэмікаў да практычнай працы ў Акадэміі. Разгарнуць працу новых установаў.

7. Па УАН: рацыянальна экспонаваць акадэмічныя музэі і на 100% павялічыць абслугоўваньне рабочых мас. Інвэнтарызаваць музэйную і лябораторную маемасьць. Па БАН: разгарнуць працу па організацыі акадэмічных музэяў і інвэнтарызацыі маемасьці.

8. Рацыяналізаваць сетку і комплектаваньне акадэмічных бібліотэк і абслугоўваньне імі навуковых працаўнікоў. Выканаць на 100% плян каталёгізацыі гэтага году.

9. Рацыяналізаваць справу з прызначэньнем навуковых камандыровак і асыгнаваньняў на іх; устанавіць вучот вынікаў гэтых камандыровак; практыкаваць комплексныя экспэдыцыі.

10. Устанавіць пэўныя нормы выпрацоўкі пры выкананьні опэрацыйных плянаў навуковымі працаўнікамі, орыентуючыся на абавязковы мінімум продукцыі кожнага ў тры друкаваных аркушы дасьледчых прац на год па соцыяльна-экономічных навуках, а для іншых—на дадаткова ўстаноўлены эквівалент, які распрацаваць і прыняць не пазьней 1-га сакавіка 1930 г.

11. Дабіцца своечасовага наведваньня і адчыненьня навуковых, адміністрацыйных і профэсыйных сходаў.

12. Рацыяналізаваць працу апарату: устанавіць строгі фінансавы рэжым і дысцыпліну—ніводнай выдачы не па каштарысу; па УАН—а) упрасьціць кіраўніцтва справаводзтвам, перавёўшы яго на функцыянальную безрэестравую сыстэму, б) перавесьці рахункаводзтва на карткавую сыстэму, в) рацыяналізаваць корэспондэнцкую сетку, павялічыць яе продукцыю на 25%.

### Разьдзел III.

13. Па пытаньню ўдзелу Акадэмій у соцыялістычнай перабудове народнай гаспадаркі забясьпечыць найбольшае разьвіцьцё навуковых досьледаў у гэтай галіне і ўстанавіць сувязь акадэмічных установаў з працай і задачамі практычных установаў.

14. Організаваць навуковую консультацыю і навуковыя дасьледваньні па спэцыяльных заданьнях органаў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, удзяліўшы асаблівую ўвагу па УАН пастаноўцы досьледаў Донбасу, менавіта — Сталіншчыны, а па БАН — Рагачоўска - Жлобінскага агрокомбінату. УАН на Донбасе і ў прыватнасьці Сталіншчыне сіламі акадэмічных установаў праводзіць дасьледваньне пытаньняў аб найбольш рацыянальным тыпе рабочых будынкаў пры соцыялістычным будаўніцтве, аб інфэкцыйных хваробах і барацьбе з імі, а таксама аб найлепшых вадазабясьпечаньні, БАН у Рагачоўска-Жлобінскім агрокомбінаце—а) укладае геолёгічную карту раёну, а таксама карту карысных выкапняў у 3-вёрсным маштабе. Праводзіць глыбокае сьвідраваньне ў раёне, б) праводзіць глебазнаўчыя досьледы ў раёне і ўкладае 1-вёрсную глебавую карту, в) праводзіць эконом-раёнаваньне раёну, г) вывучае пытаньне аб асноўным тыпе гаспадаркі, які павінен быць прыняты пры пабудове яго організацыйнага пляну, д) вывучае дэталёва агроруды раёну, е) вывучае сыравінную базу існуючых рамёстваў і пытаньне аб мажлівасьці організацыі новых.

### Разьдзел IV.

15. Організаваць сіламі навуковага пэрсоналу выданьне навукова-популярнай літаратуры для рабочых і сялянства ў памеры 30 друкаваных аркушаў для УАН і 20 друк. аркушаў для БАН.

16. Організаваць у Акадэміях прыём рабочых дэлегацый і экскурсій. Рабіць пляновыя выезды навуковага пэрсоналу Акадэмій у рабочыя раёны УССР і БССР для дакладаў справаздач аб працы, плянах дзейнасьці ўстаноў і організацыі навукова-популярных лекцый.

17. Організаваць з супрацоўнікаў Акадэмій лектарскія брыгады для бясплатнага абслугоўваньня рабочых організацый і клюбаў.

Заўвага: У дадатак да генэральнай умовы паасобныя аддзелы і ўстановы УАН і БАН заключаць асобныя дагаворы.

### Разьдзел V.

18. Дагавор мае моц з дня падпісаньня па 1-е студзеня 1931 году.

19. Праверка выкананьня дагавору робіцца Камісіяй у складзе аднаго прадстаўніка ад Усесаюзнага Цэнтральнага Бюро Сэкцыі Навуковых Працаўнікоў і па аднаму прадстаўніку ад колетываў УАН і БАН адзін раз у год на 1-е студзеня 1931 году.

Прадстаўнікі Колективу УАН: Акадэмік *Краўчук і Акішэвіч*

Брадстаўнікі Колективу БАН: Акадэмік *Некрашэвіч*, *Бялуга і А. Казак.*

## Усім сямігадовым, профтэхнічным і іншым школам узвышанага тыпу, тэхнікумам, хатам-чытальням і народным дамом.

Краязнаўчы рух у БССР, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і дзякуючы поўнаму падтрыманьню Савецкай улады, разгарнуўся досыць шырока і зьяўляецца важнаю часткаю культурнай рэволюцыі і гаспадарчага будаўніцтва краіны. Вынікі краязнаўчай працы асабліва вялікае значэньне маюць для нашай савецкай школы, програмы якой прасякнуты краязнаўствам. Цяпер ніводзін настаўнік, ніводзін культурны савецкі працаўнік ня можа з карысьцю працаваць для свайго краю, калі ня ведае свайго краю і не ўладае пэўнымі мэтодамі яго вывучэньня. З гэтае прычыны вялікае значэньне мае літаратура аб краі і мэтодычная літаратура аб вывучэньні яго і ня толькі для вучняў і студэнцтва, але і для настаўнікаў, асьветнікау і таксама для самых шырокіх колаў працоўных.

У БССР такія матар'ялы аб краі і спосабах яго вывучэньня зьмяшчаюцца ў адзіным у БССР навукова-популярным часопісу „Наш Край". Часопіс друкуе агульна-навуковыя артыкулы, апісаньні паасобных раёнаў БССР, програмы і інструкцыі для вывучэньня краю ў розных галінах ведаў, бібліографію асобных тэрыторый БССР, хроніку культурнага і школьна-краязнаўчага жыцьця, дае адказы на запытаньні краязнаўцаў, кіруе іх працай шляхам мэтодычных парад і г. д.

Народны Камісарыят Асьветы і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства раяць вам выпісаць часопіс „Наш Край", які будзе карысны для Вашай установы.

Народны Камісар Асьветы П л а т у н.

Старшыня Цэнтральнага Бюро
Краязнаўства А. К а з а к.

24-га лістапада 1929 г.
№ 1а.

## Усім сямігадовым і інш. узвышанага тыпу школам і тэхнікумам.

Програмы як першага, так і другога концэнтру сямігадовых школ пабудаваны на краязнаўчым матар'яле. Вучэбныя пляны іншых школ узвышанага тыпу і тэхнікумаў таксама ў значнай меры абапіраюцца на прынцыпе лёкалізаваньня навучальнага матар'ялу. Апрача таго, грамадзка-карысная праца школы часта выяўляецца ў краязнаўчай працы, накіраванай на дапамогу мясцоваму соцыялістычнаму будаўніцтву. Такім чынам абавязковая програмная праца ўсіх навучальных устаноў у значнай сваёй частцы мае краязнаўчы характар. Гэта дапамагае выяўленьню вучняў і студэнтаў, асабліва зацікаўленых краязняўчай працай і здольных дабрахвотна працаваць над вывучэньнем свайго краю, узмацняючы гэтым тэмп грамадзка-карыснай працы ўсёй навучальнай установы.

У значнай колькасьці навучальных устаноў гэты краязнаўчы актыў, організаваны ў краязнаўчыя гурткі гэтых устаноў, падпарадкаваныя саветам іх. Але ў шмат якіх установах такія гурткі яшчэ не організаваны, а заснаваныя гурткі яшчэ не разгарнулі свае чыннасьці ў такой меры, як гэта належыць.

Народны Камісарыят Асьветы лічыць неабходным заснаваньне краязнаўчых гурткоў ва ўсіх сямігодках і іншых школах узвышанага тыпу і тэхнікумах. Саветы гэтых устаноў павінны паклапаціцца належным разгортваньнем працы памянёных гурткоў краязнаўства, цалкам накіроўваючы іх чыннасьць на дапамогу будаўніцтву соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, кіруючыся савецкай мэтодычнай краязнаўчай літаратурай, сьпісы якой апублікаваны ў „Асьвеце" (1928, № 1) і „Нашым Краі" (1928, № 1, 3, 4, 5, 6-7; 1929, № 3). Апрача таго, мэтодычныя парады аб організацыі і працы гурткоў дае Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт НКА і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Народны Камісар Асьветы П л а т у н.

Старшыня Цэнтральнага Бюро
Краязнаўства К а з а к.

24-га лістапада 1929 г.
№ 1а.

## Усім краязнаўчым організацыям.

З 1 студзеня да 1 сакавіка 1930 году праводзіцца трохмесячнік беларускай пролетарскай культуры і пролетарскай культуры нацменшасьцяў БССР. Абвяшчаючы яго, ЦКЛКСМБ зусім правільна тлумачыў патрэбу яго наступным чынам: „Соцыялістычная рэконструкцыя народнай гаспадаркі,— гаворыцца ў пляне трохмесячніка ЦКЛКСМБ,— ва ўсю шырыню паставіла пытаньне культурнага будаўніцтва. У Беларусі гістарычна склалася экономічная культурная заняпаласьць, нацыянальная прыгнечанасьць у мінулым; асабліва востра стаіць проблема культурна-нац. будаўніцтва. Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі на глебе магутнага росту экономікі краіны дала магчымасьць буйнага росквіту пролетарскай культуры беларускіх працоўных мас і культуры нацыянальных меньшасьцяў. Аднак, зараз як ніколі адчуваецца адставаньне культурнага будаўніцтва ад запатрабаваньняў гаспадарчага разьвіцьця, што патрабуе падцягненьня адстаючага фронту—культурнага будаўніцтва. Рост соц. га-

спадаркі і культуры, пасьпяховае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вескі выклікае абвастрэньне клясавай барацьбы на ўсіх вучастках соц. будаўніцтва. Ідзе актывізацыя варожых нам сіл і на культурна-нацыянальным фронце, што вызначаецца ў актывізацыі росту беларускага нацыянал-дэмократызму, як найбольш небясьпечнага на даным этапе і росьце шовінізму расійскага, яўрэйскага і інш. Гэта патрабуе яшчэ большага аўладаньня пролетарыятам каманднымі вышынямі культурнага і нацыянальнага будаўніцтва БССР. Пачатае па ініцыятыве Комсамолу соц. спаборніцтва і паход за ўраджай і колектывізацыю ў сваю чаргу падкрэсьліваюць усю неабходнасьць далейшага разгортваньня культпаходу, які зьяўляецца органічнай часткай соц. спаборніцтва".

Адзначаючы гэтыя патрэбы, плян трохмесячніка ставіць перад сабой наступныя задачы: „1) Мобілізацыя і ўцягненьне шырокіх колаў працоўнай моладзі, працоўных і ўсяе савецкае грамадзкасьці ў будаўніцтва пролетарскай нац. культуры і ажыцьцяўленьні пяцігодкі апошняга (культ. будаўніцтва). 2) Яшчэ большая мобілізацыя ўвагі да будаўніцтва пролетарскай нацыянальнай культуры і рашучай барацьбы з соцыяльна-варожымі, нацыянал-дэмократычнай і шовіністычнай ідэолёгіяй у нацкультбудаўніцтве і практычная рэалізацыя пастановы бюро ЦК ЦК(б)Б аб беларусізацыі. 3). Аўладаньне шырокімі коламі працоўнай моладзі і працоўнымі каманднымі вышынямі беларускай літаратуры і літаратуры нацыянальных меньшасьцяў (яўрэйскай, польскай, латыскай і інш.), а таксама мастацтвам (тэатар, кіно, музыка, радыё). 4) Дапамога ў падрыхтоўцы кадраў, пролетарыязацыя школ сярэдняй і вышэйшай, ліквідацыя няпісьменнасьці. 5) Популярызацыя дасягненьняў, нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР у іншых саюзных рэспубліках (УССР, РСФСР) і наадварот, азнаямленьне з нацкультбудаўніцтвам СССР працоўных БССР".

Кіруючыся мэтавай установкай і задачамі трохмесячніка пролетарскай культуры, вызначанымі ЦКЛКСМБ у пляне правядзеньня трохмесячніка, акруговыя і раённыя таварыствы краязнаўства павінны конкрэтна выканаць на працягу трохмесячніка наступнае:

1. Наладзіць у акруговых гарадох і на сяле плянавае вывучэньне гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху па програме апублікаванай у № 10 час. „Наш Край".

2. Вусна і ў друку, а таксама паасобнымі выданьнямі шырока популярызаваць пяцігадовы плян гаспадарчага і культурнага будаўніцтва акругі і раёну.

3. Распачаць плянавае вывучэньне разьвіцьця пролетарскай культуры ў акрузе і раёне.

4. Організаваць вечар крытыкі пролетарскай літаратуры акруговага гораду і літаратурнага зьместу насьценгазэт раёну.

5. Распачаць плянавае вывучэньне самадзеннага тэатру ў акруговых гарадох і раёнах. Віцебскаму, Магілеўскаму і Гомельскаму акруговым таварыствам краязнаўства вывучыць працу акадэмічных тэатраў у іх гарадох і абслугоўваньне імі рабочага гледача.

6. Віцебскаму, Гомельскаму, Менскаму і Магілеўскаму акруговым таварыствам краязнаўства распачаць плянавае вывучэньне выяўленчых мастацтваў рэволюцыйнага часу.

7. Вывучыць абслугоўваньне кінэматографам сялян на раёне і рабочых (праз клюбы) у горадзе.

8. Наладзіць спатканьне таварыства краязнаўства з рабочымі і бедняцка-серадняцкім сялянствам.

9. Прымаць актыўны ўдзел у працы ўсіх іншых організацый і ўстаноў па правядзеньні трохмесячніка.

10. Вынікі свае працы ў справе правядзеньня трохмесячніка па магчымасьці апублікаваць асобным выданьнем, а ход працы асьвятляць у час. „Наш Край", газэтах і інш. часопісах.

Старшыня А. Казак.

Навуковы Сэкратар М. Касьпяровіч.

Менск, 5 студзеня 1930 году.

## Пяты год працы Горацкага раённага таварыства краязнаўства.

У справаздачным—1929 годзе таварыства мела 2 пасяджэньні праўленьня і 3 агульныя сходы.

На агульных сходах былі заслуханы наступныя даклады:

1. Я. Н. Сьвірскі. Нагляданьні над распаўсюджаньнем некаторых расьлін ў ботанічным садзе БДАСГ.

2. Ц. Малочка Аб агромерапрыемствах праведзеных ў Шарыпскім сельсавеце Горацкага раёну па падвышэньні ўраджайнасьці.

3. Д-р Рысін. Аб санітарным становішчы вёскі Горацкага раёну.

4. Проф. Салаўёў. Фэнолёгічны бюлетэнь вясны 1929 г. ў параўнаньні з мінулымі гадамі.

Апрача названых вышэй дакладаў на агульных сходах членамі таварыства праводзілася індывідуальная праца:

Старшыня т-ва проф. Салаўёў надрукаваў у справаздачным годзе цэлы шэраг артыкулаў у часоп. „Наш Край" і інш.

Намесьнік старшыні проф. Васількоў надрукаваў сьпіс абменных расьлін ботанічнага саду.

Член таварыства Н. К. Навіцкая надрукавала артыкул „Гідрабіалёгічнае дасьледваньне акадэмічнага ставу ў Горках" (Зап. Бел. Дз. Ак. С.-Г.), дзе паказана 63 віды калаўротак.

Член таварыства С. В. Калішэвіч прадставіў у т-ва колекцыю з 13 мясцовых фотаздымкаў, зробленых ім.

Далі згоду прачытаць у т-ве даклады— проф. Мельнік аб уплыве і выніках цяжкай мінулай зімы на расьліны і доц. Ю. М. Коласаў — аб літаратурных папраўках адносна некаторых матылёў. Тав. Гітліц абавязаўся выканаць працу на тэму — „Удзел школы ў правядзеньні агромінімуму". Т. Сівадзед і Яўменаў абавязаліся распрацаваць тэму — „Рух колектывізацыі па раёне".

Наша т-ва прымала ўдзел у выстаўцы па ахове прыроды ў Ленінградзе ўвесну 1929 г.

Наша сэкцыя школьнага краязнаўства, як і раней, нічым сябе не праявіла. Але ў кастрычніку ў м. Горах організаваўся пры 7-цы краязнаўчы гурток, вынікаў працы якой будзем чакаць у наступным годзе. Нічым сябе не праявіла таксама наша яўрэйская сэкцыя, прадстаўніком якой зьяўляецца т. Левін.

Т-ва выпісвала часопісы — „Наш Край", „Краеведение" і „Трыбуна".

Лік членаў т-ва значыцца 124.

Тыя недахопы ў т-ве, якія адзначаліся за апошнія гады, яшчэ маюць месца і цяпер. Працуе вельмі і вельмі маленькі актыў, а масавай працы няма і дагэтуль, хаця апошняя зьяўляецца галоўнай задачай таварыства.

Старшыня таварыства проф. Салаўёў.

## Слуцкая раённая сельска-гаспадарчая выстаўка 1929 г.

Слуцкая раённая сельска-гаспадарчая выстаўка 1929 году адбылася ў г. Слуцку 14 кастрычніка і працягвалася 2 дні, за гэты час выстаўку наведала больш, як 2000 чалавек. У выстаўцы прыняў удзел 71 населены пункт, з гэтага ліку г. Слуцак, м. Леніна, 40 вёсак, 14 пасёлкаў, 11 колгасаў, 2 саўгасы і 2 хутары.

З усіх гэтых пунктаў на выстаўку было дастаўлена 452 экспонаты.

Выстаўка распалалася на 8 аддзелаў:— саматужніцтва, расьлінаводзтва, садоўніцтва і гарадніцтва, жывёлагадоўля, мэліорацыя і культур-тэхніка, с.-г. машыны і тавары, гадоўля коняй і пчалярства.

За лепшыя экспанаты выдаваліся прэміі, як у выглядзе дыплёмаў (I і II ступеняў), так і рознымі сельска-гаспадарчымі матар'яламі, апошніх выдана на агульную суму ў 310 руб., а дыплёмаў 18 штук. З агульнага ліку прадстаўленых на выстаўку экспонатаў (452) прэміяваных толькі—88, пры гэтым вёскі, пасёлкі і хутары атрымалі 66,0% агульнага ліку прэмій, г. з. 58, а астатнія 34,0% прыпадаюць на колгасы і саўгасы.

Прэміі разьмеркаваліся па аддзелам у наступным парадку:

Аддзел саматужніцтва на 163 экспонаты атрымаў 24 прэміі, аддзел расьлінаводзтва на 81 экпонат атрымаў 19, аддзел садоўн. і гародніцтва на 77 экспонатаў атрымаў 20 прэмій, аддзел жывёлагадоўлі на 62 экспонаты атрымаў 17 прэміі, аддзел мэліорацыі і культ.-тэхнікі на 31 экспонат атрымаў 4 прэміі, аддзел с.-г. машын і тавараў на 22 экспонаты атрымаў 3 прэміі, аддзел гадоўлі коняй на 15 экспонатаў атрымаў 1 прэмію.

Нарэшце трэба сказаць, што самым бедным аддзелам у г. г., як па якасьці так і па колькасьці экспонатаў зьяўляецца аддзел пчалярства.

Б. Русак.

## Паклады вапняку.

*(м. Копысь, Аршаншчына).*

У трох-чатырох кілёмэт. ад м. Копысі, уверх па Дняпры, на правым яго беразе, знойдзены багатыя паклады вапняку, які, выходзячы па паверхню, цягнецца ўдоўж правага берагу ў кірунку Воршы. Каля в. Сьмётанка (у 8 кілём. ад Копысі) вапняныя каменчыкі знаходзяцца і на левымі беразе Дняпра. Таўшчыня вапнякоў на месцы вынаходкі ад $1^1/_2$-2 м. Як вялікая плошча, на якой залягаюць вапнякі, сказаць цяжка. Між іншым, мясцовыя жыхары апавядаюць, што ў 1914 г. якімсьці інжынэрам праводзіліся досьледы і было ўстаноўлена, што ўдоўж берагу вапнякі цягнуцца на 2-3 вярсты. Бераг у месцазнаходжаньні вапняку досыць узвышны і зарос лесам.

На месцазнаходжаньні вяпняку Копыскай саматужна-прамыслов. коопэрац. ужо распачата саматужная распрацоўка вапны.

Для дэталёвага дасьледваньня якасьці і магутнасьці вапняных пакладаў патрэбна спэцыяльнае дасьледваньне.

Марчанка.

## Агляд надвор'я па БССР

**за сьнежань м-ц. 1929 г.**

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геофізычнай Службы).*

Надвор'е на працягу месяца было цёплае і сухое.

Тэмпэратура за 1-ую дэкаду была вышэй нормальнай на 4.5°—5,5°. Адзначаны наступныя перавышэпьні сярэдніх дэкадных тэмпэратур пры параўнаньні іх з нормальнымі:

| | |
|---|---|
| Стукачова (Полац. акр.) . . . | на 5,5° |
| Менск . . . . . . . . | „ 5,0° |
| Горкі (Варш. акр.) . . . . | „ 5,3° |
| Васілевічы (Гом. акр.) . . . . | „ 5,2° |

Параўнаньне першай дэкады сьнежня мінулага году з 1-ай дэкадай сьнежня г. г., апошняя выходзіць на 1—3° цяплей.

Сярэднія тэмпэратуры другой дэкады сьнежня вышэй нормальных на 3,5°—5,5°. Як відаць з сярэдніх тэмпэратур у паўночнай частцы БССР надвор'е стаяла больш цёплае, чымся ў паўднёвай частцы.

Адзначаны наступныя перавышэньні сярэдніх дэкадных тэмпэратур пры параўнаньні іх з нормальнымі.

| | | |
|---|---|---|
| Стукачова | на | 5,5° |
| Менск | „ | 5,0° |
| Горкі | „ | 4,4° |
| Васілевічы | „ | 4,3° |

Другая дэкада сьнежня г. г. цяплей другой дэкады сьнежня мінулага году на 4-12°.

У трэцюю дэкаду заўважваюцца наступныя адхіленьні ад норм.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Стукачова | на | 0,6° | (вышэй). |
| Менск | „ | 0,7° | „ |
| Горкі | „ | 2,1° | (ніжэй). |
| Васілевічы | „ | 2,4° | „ |

Сярэдняя дэкадная тэмпэратура 3-й дэкады сьнежня г. г. ў паўднёвай палове БССР ніжэй сярэдняй дэкаднай тэмпэратуры сьнежня мінулага году на 2-3°, роўна або нязначна адрозьніваеццца ў бок перавышэньня ў паўночнай палове.

Ваганьні тэмпэратур (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) за паасобныя дэкады наступныя:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1-я дэкада | ад — 3,4° | да | 6,9° |
| 2-я „ | „ —12,3° | „ | 6,4° |
| 3-я „ | „ —19,8° | „ | 3,0° |
| М-ц | —19,8° | „ | 6,9° |

У сярэдніх выніках тэмпэратура сьнежня г. г. на 2-4° вышэй нормальнай і на 2-5° вышэй сэрэдняй тэмпэратуры мінулага году.

*Ападкі*. За першую дэкаду ападкаў выпала 5-10 мм. у Бабруйскай акр., часткова ў Менскай (М. Горка, Плешчаніцы, Лагойск), Варшанскай (Горкі, Багушэўская) акруга. У іншых акругах выпала 10—15 мм.

Другая дэкада характэрызуецца большай колькасьці ападкаў пры параўнаньні з першай (у некаторых мясцох іх выпала за гэту дэкаду больш месячнай нормы—Барысаў 39,1 мм.). Наогул, заўважваецца наступны расклад ападкаў па тэрыторыі — 5-15 мм. у Бабруйскай, Мазырскай, Гомельскай акр. і больш 15-ці мм. у іншых акр.

Трэцяя дэкада. Ападкаў азначана мала—менш, чым у першую дэкаду. Максымальную суму за гэту дэкаду дае Барысаў — 7,3 мм.

Канчаткова ў сумах за месяц атрымліваецца 30—50 мм. у акругах; Полацкай, Віцебскай, Менскай і 20—30 мм. у іншых. Пры параўнаньні месячных сум з нормамі за месяц відаць, што колькасьці ападкаў большыя норм выпалі ў Полацкай Віцебскай і Менскай акр.

Ападкі выпадалі ў выглядзе сьнегу і дажджоў (апошнія ішлі ў 1-ю палове м-ца).

У сьнежні мінулага году ападкаў выпала больш, чым у сьнежні г. г.).

Лік дзён з ападкамі вагаўся ад 15 да 27 (у сьнежні г. г.).

Сталы *сьнегавы насьціл* у сувязі з умовамі надвор'я лёг пазьней нормальнага — у другую дэкаду сьнежня. У 3-ю дэкаду яго вышыня ва ўсходніх акругах вагалася ў сярэднім ад 8 да 12 см. Віцебск 12 см. і была менш 8 см у заходніх акругах.

У мінулым годзе сталы сьнегавы насьціл утварыўся ў паўднёвых акругах у 2-ю дэкаду сьнежня (вышыня 5-10 см.), у паўночных акругах утварыўся ў канцы 1-ай дэкады сьнежня (вышыня 20-30 см.).

*Вятры* пераважвалі нормальнай моцы (3-6 м/с.) паўднёвых і паўднёва-ўсходніх румбаў (замест нормальных паўднёвых і паўднёва-заходніх румбаў).

*Воблачнасьць* вагалася 95%—88% (нормальная 87%—81%), 20—24 сьнежня замерзлі і сталі рэкі: Прыпяць (Мазыр), Сож (Чачэрск, Гом. акр.), Бяроза (Барысаў), Дняпро (Ворша) і інш.

Складзены 11-I-30.

Г. Маслакавец.

## ПАПРАЎКА.

У аглядзе надвор'я за кастрычнік памылкова надрукована ў 3—5 радкох стар. 74 зьнізу

| Надрукована: | Трэба: |
|---|---|
| 3,7 „ 13,9 | — 3,7 „ 18,9 |
| 2,4 | — 2,4 |
| 3,7 | — 3,7 |

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Інстытут Беларускае Культуры. Аддзел прыроды і гаспадаркі.** *Матар'ялы да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі. Том I.* Менск 1927 г., тыраж 1000 экз., стар. 143+11 укладных аркушаў з рысункамі і 2 карты. Цана не паказана.

*Том II.* Менск 1928 г., тыраж 1300 экз., стар. 173+45 укладных аркушаў з рысункамі і 2 карты. Цана 3 р. (Абодвы тамы 26×17 ст.).

Прырода Беларусі амаль цалкам зьяўляецца таемніцай для навукі. Усе, што былі раней, дасьледваньні, экскурсіі з навуковымі мэтамі, адбываліся без аніякай сыстэмы; яны рабіліся выпадкова — „побач", „поруч" з выконваньнем іншых прац, а то і проста ў часе гасьцяваньня ў сваіх маёнтках магнатаў, што лічылі патрэбным „ашчасьціць" навуку сваіміназіраньнямі ў часе адпачынку ад тлуму гарадзкога на ўлоньні прыроды — на паляваньні і г. д... Таму і літаратуры аб прыродзе Беларусі, яе асаблівасьцях амаль што няма.

Бел. Акад. Навук прыходзіцца немаль распачынаць навуковае вывучэньне прыроды

краю. Вось перад намі вынікі чатырохгадовае працы (1923—1927) Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі БАН у гэтай дзедзіне.

Першы том „Матар'ялаў" месьціць у сябе чатыры буйныя працы, другі том—чатырнаццаць прац, сярод якіх сустракаюцца і кароценькія нататкі. Усе яны ахопліваюць два напрамкі досьледаў: гео-батанічны і фаўністычны.

Да першага раду адносіцца значная колькасьць артыкулаў О. Полянскай: „Гео-батанічны нарыс Мазырскае акругі" (том I ст. 1-18), „Аб географічным разьмяшчэньні расьліннасьці Беларусі" (том II, ст. 49—58), „Расьліннасьць Калінінскае акр." (Том II, ст. 59-60), „Расьліннасьць Віцебскае акругі" (том II, ст. 61-63).

Артыкулы Полянскай вельмі сьцісла перадаюць вынікі досьледаў, першы з іх хутчэй падобны на просты комэнтар да прыкладзенае карты (у адну фарбу). Тут аўтар весткі аб орографіі, глебе перадае на падставе меўшыхся ў друку даведак, вынікамі досьледу зьяўляюцца толькі весткі аб расьліннасьці, дый то тут шмат спасылак на друкаваныя матар'ялы, паказаньні лясьнікоў, лясьнічых. Да чаго гэта даводзіць відаць з наступнага: на стар. 14 аўтар гаворыць, што сфагнавае балота яна бачыла ў Мазыршчыне толькі адзін раз. Дасьледчык Дактуроўскі-ж (у 1907 годзе) знаходзіў сфагнавае балота ля ст. Капчэвічы. Танфільев (у 1899 г.) ля ст. Жыткавічы. У ўступе да артыкулу Полянская пералічае месцы свайго падарожжа, яна была там, дзе нібыта ёсьць сфагнавыя балоты, але, невядома чаму, не дасьледвала. Прынамсі, на яе карце гэтыя балоты не паказаны. Ніяк нельга зразумець прынцыпу Полянскай у перадачы назоў расьлін: частку з іх яна падае на беларускай мове, ставячы ў дужках назоў на лацінскай. Большая-ж частка пададзена проста на лацінскай. Толькі адзін артыкул (том II, ст. 59-60) цалкам вытрыманы ў перадачы назоў на дзьвёх мовах. Прынцыпу тут няма — от, проста захацелася тое-сёе растлумачыць чытачу! Калі-ж мы знарок узялі „Слоўнік лясных тэрмінаў" (ІБК. Выпуск восьмы „Бел. Навук. Тэрмінолёгіі" 1926 г.), дык пашчасьціла расшыфраваць назвы: чарніца, касьцянка, кісьліца, багун, сівец, брусьніца, зоркаўка, расіца, імшарніца і г. д. Тэрмінолёгія беларуская ёсьць, карыстацца ёй Полянская (ці перакладчык?) магла, выдадзена яна ў 1926 г.—на год раней ад першага тому „Матар'ялаў", і на два—ад другога.

У аднэй з прац Полянскай (том II, ст. 49) знайшлі цікаўны вышук аўтаркі (а мо' ізноў перакладчыка з расійскае?) у галіне клімату і батанікі. Тут чытаем: „Дзеля таго, што Беларусь у яе палітычных межах больш выцягнута ад поўначы на поўдзень, у гэтым кірунку найбольш прыметны зьмены як клімату, так і расьліннасьці". Цікава-б ведаць: як-жа палітычныя межы ўзьдзейнічаюць на клімат і флёру!?

Адна і тая-ж рака па Полянскай мае дзьве назвы: *Арэса* і *Араса* (том II, ст. 4, 12, карта). Гэта ў акадэмічным выданьні!

У галіне геобатанікі М. Зьбіткоўскім падаецца „Справаздача аб дасьледваньні Слуцкае акругі ў 1925 г." (Том I, ст. 93-143), якая напісана больш падрабязна і дакладна, падае шмат цікаўных назіраньняў з сыстэматызаваным паказьнікам расьлін, чаму і чытаецца значна ўважлівей, ды і лягчэй. Але з лацінскай і тут сыстэма блытаная. На стар. 100 аўтар „Морву" называе ядвабнавым дрэвам, робячы літаральны пераказ з расійскае, а „папрадуху шаўкоўну" называе ядвабнавым вусенем. Ён-жа самы ў нататцы ў „Нашым Краі" (№ 1 за 1926 т.) дае назовы: шаўковы вусень, морва. Для каго-ж, спытаем, абавязкова тэрмінолёгія БАН, як не для яе-ж выданьняў? І тут—Арэса, а на карце—Араса...

Н. Савіч падала артыкулы „Папярэдняя справаздача аб гео-батанічным абсьледваньні Менскай акругі ўлетку 1926 году" (Том II, ст. 64-65) і „Папярэдняя справаздача аб гео-батанічных дасьледваньнях у Рэчыцкай акрузе ўлётку 1927 году" (Том II. ст. 74-77). М. Прахін—„Папярэдняя справаздача аб гео-батанічных дасьледваньнях у Аршанскай акрузе ўлетку 1927 г." (Том II, ст. 66-73). Гэтыя артыкулы так-жа сьцісла напісаны, як і артыкулы Полянскай, хварэюць тэй-жа нямой лацінкай.

Большая частка артыкулаў „Матар'ялаў" прыпадае на фаўністычныя дасьледваньні (дзесяць), з якіх ізноў-жа большасьць падана проф. А. У. Фядзюшыным (пяць). На артыкулы-ж Фядзюшына прыпадаюць амаль усе фотографіі (толькі некалькі на артыкул Аўчыньнікава).

Тут мы маем артыкулы Фядзюшына „Вынікі фаўністычнае экспэдыцыі па Віцебшчыне і на Дняпро ў 1924 г." (том I, ст. 19-39) ілюстраваны 18 фото-здымкамі, „Падарож на Птыч і матар'ялы для вывучэньня орнітофаўны Беларусі" (том I, ст. 40-92), „Справаздача аб экспэдыцыі для вывучэньня фаўны ўсходняй часткі БССР улетку 1925 г." (т. II. ст. 78-102), які мае 14 фото-здымкаў. „Справаздача з фаўністычных дасьледваньняў на р. Прыпяці і воз. Князь улетку 1926 г." (том II, 103-117), ілюстраваны 12 фотографіямі

Артыкулы Фядзюшына крок за крокам апавядаюць пра шлях экспэдыцый, яе працы, дают шмат цікаўных назіраньняў, некаторыя нават што не да самое вузкае тэмы досьледу, чым набываюць больш каштоўнасьці, цікаўнасьці для чытача — ня вузкага спэцыяліста. Экскурсіі Фядзюшына мелі багатыя вынікі ў сэнсе адшуканьня новых відаў фаўны, назіраньня новых зьяў, што значна дапаўняюць, а часта і абвяргаюць, раней пададзеныя ў друку матар'ялы дасьледчыкаў-папярэднікаў. Усюды падаюцца сыстэматызаваныя падагульненьні і апісаньне відаў. Досьледы Фядзюшына мелі шмат і практычных вынікаў (згадаем хоць-бы ўтварэньне Дзяржаўнага Запаведніку ля возера Пялік). Але іншы раз, на

жаль, аўтар паўтараецца. Так, на ст. 79-85 (том II) падаюцца даныя аб баброх, і ў тым-жа томе (ст. 1-18) той-жа аўтар падае спэцыяльны артыкул: „Да біолёгіі і распаўсюджанасьці бабра (castor fiber) у БССР“, дзе ўсе гэтыя даныя знайшлі ізноў сваё месца. Гэты апошні артыкул падагульняе ўсю літаратуру і апошнія весткі ў друку і досьледы ў Дзяржаўным ахоўніку, што мае надзвычайную каштоўнасьць ў даным пытаньні. Артыкул суправаждае 29 фото-здымкаў (адзін з іх—№ 5 ужо быў у „Нашым Краі“ № 1, за 1926), 2 рысункі і 2 карты пашырэньня бабра.

У артыкулах Фядзюшына таксама лацінізацыя ўжыта празьмерна (без беларускіх назоў). На ст. 81 (там II) ужыта слова „дюна“, у іншых месцах і працах ужываецца „выдма“.

„Матар'ялы да пазнаньня фаўны чмялёў Беларусі“ М. Дабратворскага (том II ст. 19 33), сабраныя ім у часе падарожжаў з Фядзюшыным, даюць шмат новых відаў для ўсёй Беларусі, з падрабязным пералічэньнем у канцы артыкулу ўсіх (і раней вядомых) відаў чмялёў. Другога прынцыпу прытрымоўваецца В. Пералешына ў артыкуле „Матар'ялы да пазнаньня фаўны павукоў Беларусі“ (том II ст. 34—48); яна, даючы пералік і апісаньне відаў, пра ўсе ранейшыя спасылаецца на старонкі прац папярэднікаў. Шукай там, калі хочаш!

І. Аўчыньнікаў дае „Матар'ялы да пазнаньня малякофаўны Мазырскай акругі“ (том II ст. 118—138). У яго сыстэматызаваным пераліку відаў вытрыманы такі-ж прынцып, як і ў Дабратворскага. Ёсьць 10 фото.

У артыкуле Б. Федаракі „Вынікі фаўністычнай экскурсіі на поўдзень Бельскага павету Смаленскай губ.“ (том II ст. 139—172), пададзены даныя аб фаўне орнітолёгічнай і сысуноў, прычым сыстэматызаваны сьпіс відаў мае дакладныя даныя аб беларускіх назвах.

Аб этнографічнай Беларусі, што не ўваходзіць у БССР, маем апрача артыкулу Федаракі яшчэ кароценькую нататку С. Кірыкава „Ardeola ralloides Scop. у Смаленскай губ.“ — пабеларуску гэта: жоўтая чапля. (том II ст. 173).

Агульнае ўражаньне і заўвагі пасьля чытаньня „Матар'ялаў“ акрасьляюцца наступна:

Першыя друкаваныя ў вялікай колькасьці матар'ялы аб асаблівасьцях прыроды Беларусі, здабытыя на працягу ўсяго толькі чатырох год, маюць вялікую навукавую вартасьць, цікаўнасьць ня толькі для спэцыяліста, але і для больш масавага чытача, які хача навукова пазнаць свой край. У гэтым сэнсе асабліва карысна тое, што экскурсіі рабіліся ў розных кірунках і даволі поўна абхапілі Беларусь. Значнай хібай зьяўляецца тое, што шмат якія з справаздач носяць папярэдні характар: цалкам матар'ялы, а так сама і сабраныя колекцыі—не апрацаваны, на што некаторыя аўтары і спасылаюцца (Фядзюшын, Прахін, Федарака). І ў той-жа час частка матар'ялаў мела ўжо папярэдняе—іншы раз сьціслае, іншы раз нават больш дакладнае—асьвятленьне ў часопісу „Наш Край“ за 1926—1928 гады (паведамленьні Полянскай аб азалеі понтыйскай, жоўтазелі, зяноўцу, вольсе чорнай і шэрай; Дабратворскага аб чмялёх; Фядзюшына аб „баброх і г. д.), некаторыя з артыкулаў, як Полянскай „Аб зьменах расьліннасьці БССР у кірунку з поўначы на поўдзень“ („Наш Край“ № 2-3 за 1925 г.) цалкам скарыстаны ў адным з артыкулаў II тому (ст. 49—58), у той,-жа час артыкул Н. Савіч. „Аб расьліннай шаце Магілеўскай акругі“ („Наш Край“, № 2-3 за 1926 г.) у „Матар'ялы“ ня трапіў.

У падачы даведак і справаздач ня відаць пэўнага мэтоду і сыстэмы, кожны з аўтараў мае асабісты падыход, асабліва гэта прыкметка ў сьпісах відаў фаўны і флёры, уласьцівых Беларусі: хто дае цалкам, хто проста спасылаецца на адпаведныя працы і старонкі іх, не даючы характарыстыкі віду. Сюды-ж адносіцца і нейкая заблытанасьць у справе тэрмінолёгіі. Аўтары чамусьці ня прытрымліваюцца абавязковай для іх акадэмічнай тэрмінолёгіі. Рэзюмэ на нямецкай і францускай мове пададзены не ўва ўсіх артыкулах, часта яны ёсьць у такіх кароценькіх нататках, як Кірыкава (том II ст. 173), а няма ў такіх буйных артыкулах, як Фядзюшына (том II ст. 78—102 і 103—117 і інш.).

Усё-ж такі ад рэдакцыі „Матар'ялаў“ шмат залежыць у справе пабудовы зборнікаў, артыкулаў у іх, навуковага апарату гэтых артыкулаў, а якраз вока рэдакцыі ня бачна. Гэта-ж ня проста зборнікі, а зборы справаздач аб дасьледваньнях, якія вяліся Акадэміяй Навук. Значыць, пэўнае сыстэмы вымагаць трэба.

Пры разборы артыкулаў мы знарок сунімаліся на пытаньні популярнасьці. І гэта падкрэсьліць трэба яшчэ раз. Яе тут мала. А яна патрэбна. Наша Акадэмія Навук ня мае традыцый акадэмій не савецкіх краін (якіх з такімі цяжкасьцямі пазбаўляецца нарэшце і Акадэмія Навук СССР), дзе навука прыстастасоўваецца да касты „избранных“. У нас навука, а значыць навуковыя выданьні, прыстасоўваюцца да больш шырокіх мас чытачоў (згадаем і тыраж „Матар'ялаў“), ня толькі вузкага кола вучоных. Таму ў выданьнях Акадэміі, поруч з навуковай дакладнасьцю, павінна месьціцца і патрэбная популярнасьць, у даным выпадку—у відзе перакладаў лацінскіх назваў на беларускую мову.

Разуменьню артыкулаў значна дапамагаюць фото-здымкі. Шкада толькі, што фото-апаратам карысталіся толькі экспэдыцыі Фядзюшына. Да рэчы, фотографіі другога тому выканаены куды горш, чымся беззаганныя, дасканалыя фото першага тому. Частка фото другога тому ў цынкаграфіі

адбіта праз буйную сетку, ад чаго згубіла ўсякую падобнасьць і вартасьць. У другім томе ёсьць ужо адпаведыя прынятыя ў зоолёгіі для азначэньня самцоў і саміц значкі, у I томе іх няма. Але затое брошуроўка II тому нікудышная: некаторыя сшыткі на цэлы сантымэтр зьехалі ад чала кнігі ўніз.

Вось што можна сказаць аб першых выніках прац Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі БАН, што знайшлі сабе месца ў двох тамох. Каштоўнасьць іх відавочна. Таму іх з вялікай цікаўнасьцю і карысьцю для сябе прачытае і настаўнік, і краязнаўца, і культурны працаўнік, і масавы чытач, які хоча спазнаць прыроду свайго краю, прыродныя падставы яго экономікі, гаспадаркі.

Хв. Шынклер.

# Краёвая бібліографія.

Працяг *)

126. [ . . Гомельский пищевик. юбил. жур. Гомельского Окружн. Ком-та союза рабочих и служащих Пищевой и Вкусовой промышленности, посвящ. 10-тилетнему юбилею существования союза 1917—1927. Гомель. 927. с. 29.

127. [ . . Гомельский Союз Потребительских Об-в и сеть Гомельского и Мозырского округов в 1926-27 хоз. году. Гомель. 928. с. 51.

128 [ . . Гомельское губ. парт. совещание (16—18. V. 1922 и 24—26 V 1923 г.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 921. № 13. с. 12—16; 1922. № 24. с. 14—25; 923. № 46. с. 59- -89.

129. [ . . Гомельское губернское Совещание РКП. 1—3 окт. 1920 г. Изв. Гом. губ. К. Р. КП. 920. № 5. с. 3—24.

130. Гончаров, А. По укомам, волкомам и ячейкам или как надо и как не надо работать (обзор). Полесск. Коммунар. 925. № 21-22 (104). с. 145—147.

131. Горегляд. Низовая сел.-хоз. кооперация в Гомельском и Речицком уездах Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 71. с. 44—48.

132. Горецкий, Г. Сельское хоз-во Гомельской губ. Сав. Буд-ва. 926, № 2. с. 84—111.

133. Горфункель, З. 1905 г. в Речице — городе и уезде. Палесск. Коммун. 925. № 24 (105). с. 23 30.

134. Готшалк, М. И. Лесное хоз-во и местная власть. (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 23 (105). с. 60—65.

135. Гриньков, Н. На курсах деревенских политпросвет работников. [Гомельск. г.]. Палесск. Коммун. 926. № 15-16. с. 101-102.

136. [ . . Губсовещание зав. агитпропами, уполитпросветами и культотделами промышленных уездов. [Гомель]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922 № 28. с. 28—30; 924. № 78. с. 25—32.

137. Гурев, Г. А. Наше издательство „Гомельский рабочий“. (Некоторые итоги и переспективы.) Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 82. с. 45—47.

138. Гуцев, М. 17 и 18 годы в Гомельском уезде. (Из воспоминаний крестьянина-коммуниста). Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 65. с. 67—69.

139. Даўгяла, Зьм. Новыя раскопкі каля Гомеля. Гіст.-арх. Зборнік. 927. № 1. с. 363-364.

140. Денискин. Речица. (О-во краснаго креста). Бюл. Бел. Т-ва Чырвон. Крыжу 927. № 3—6. с. 34-35.

141. [ . . Деревня Рудня-Споничская, Ветковской волости, Гомельского уезда. (Опыт краеведческого описания.) Народное Просвещение в Гом. губ. 925. в V. с. 68—91.

142. [ . . X губернская партийная конференция (24—27 марта 1923 г.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 43. с. 33—105.

143. [ . . Доклад о работе Гомельского Губбюро (теперь Окрбюро) ветсекций за время с 25 марта 1926 г. по 10 марта 1927 г. Бел. Ветеринария. 927. № 5. с. 24—41.

144. Долгопятова, М. Итоги губсовещания по работе среди женшин. (Гомель). Палеск. Коммунар. 925. № 18 (101). с. 16—18.

145. Дравина, Х. Еще о недочетах проиводственных ячеек. (По материалам 9-ти обследованных крупнейших ячеек.). (Гомельск. губ.) Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 12. с. 27—32.

146. Драпкин, Я. Борьба „большинства“ и „меньшинства“ в Полесском Комитете РС-ДРП. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 16. (99). с. 89—96.

147. Драпкин, Я. Военная работа Полесского Комитета РС-ДРП с 1905 г. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 12. с. 75—77.

148. Драпкин, Я. Вопросы истпартработы (Гомель). Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 923. № 56. с. 18-19.

149. Драпкин, Я. Гомельский погром 1906 г. в полицейских документах. Извест. Гомельск. губ. Ком-та РКП. 924. № 80. с. 172—175.

150. Драпкин. Я. Очерк борьбы Гомельской организации за власть Советов. 1917—1918—1919 г. г. Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 79. с. 35—44.

151. Драпкин, Я. 1-ое мая в районе деятельности Полесского Комитета РС-ДРП

*) Гл. „Наш Край“ 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12.

Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 8. с. 16—23.

152. Драпкин, Я. Печатная агитация Полесского Комитета РС-ДРП. в 1905 г. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 10. с. 75—78.

153. Драпкин, Я. Работа Полесского Комитеса РС-ДРП. в деревне (1905-й год). Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 13. с. 75-77.

154. Драпкин, Я. „Техника" Полесского Комитета РС-ДРП. (Подпольныя типографии в Новозыбкове и Гомеле). Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 11. с. 83—86.

155. Драпкин, Я. Январьские дни 1905 г. в районе Полесского Комитета РС-ДРП(б.) Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 3. с. 106—109.

156. Драпкин, Я. Январьские дни 1905 г. в районе Полесского Комитета РС-ДРП. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 4. с. 112—114; № 5. с. 98—102.

157. Драпкин, Я. Январьские дни 1905 г. в районе Полесского Комитета РС-ДРП. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 6. с. 89—91.

158. Дружинин. Пути восстановления технической основы промышленности губернии. (Гомельской). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 9. с 56—58.

159. Дружинин. Состояние и перспективы нашай промышленности. (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 17 (100) с. 12—15.

160. Егоров, В. Итоги VIII-го Губ. С'езда Советов. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 8. с. 54—57.

161. Е. П. Итоги губсовещания выборных крестьянок (Гомель). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 8. с. 46-47.

162. Егоров. В. Итоги четвертого пленума ГИК (Гомельск. Исполнит. Комит.). Палесск. Коммунар. 925. № 19. (102). с. 46—49.

163. Егоров. О политике землеустройства в Гомельской губернии. Полесск. Коммунар. 925. № 21-22 (104). с. 21-25.

164. Егоров. Что сказало (Гомельское) губсовещание по советскому строительству. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 4. с. 87—89.

165. Езерский. Борьба за сельсоветы. (Первые итоги перевыборной кампании) (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 81. с. 56—58.

166. Езерский. Итоги волс'ездов Советов (Гомельск. губ.) Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 1. с. 56-58.

167. Езерский. Результаты нового курса в отношении изменения состава руководящих парторганов Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 68-69. с. 18—20.

168. Ефремов, П. Сельско-хозяйствен. кооперация в Гомельск. губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 24. с. 3.

169. Ефременко, Т. Кое-что о внутренней работе школ Речицкого уезда. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 13. с. 72-73.

170. Жарин и Кудинов. К вопросу о перенаселении нашей губернии. (Гомельской). Полесск. Коммунар. 925. № 23 (105). с. 71—76.

171. ( . . Жизнь рабочей молодежи. (Гомельской губ.) Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 18. с. 25-26.

172. Жуков, Ф. Отрицательные стороны работы волисполкомов и сельсоветов нашей (Гомельской) губ. (По матариалам обследования). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 4. с. 83—86.

173. Завьялов. Павышение квалификации просвещенцев. (Гомельской губ.). Полесск. Коммунар. 926. № 13-14. с. 41—44.

174. Загадчык. Забалацкая Габатная Дасьледчая Гаспадарка. (Гом. губ.) Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 1. с. 82—85.

175. Зайцев, Ц. Я. Весенняя пасевная компания 1923 г. в Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 38. с. 5—9.

176. Зайцев. Д. Я. 2-ое Гомельское губернское совещание земработников. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 66. с. 45—47.

177. Зайцев, Д. Я. Землеустройство в Гомельской губ Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 20—23; № 59, с. 52—54.

178. Зайцев, Д. Я. Земельные конференции в Гомельской губернии. Изв. ом. губ. К. РКП. 923. № 40. с. 5—7.

179. Зайцев, Д. Я. Итоги посевной компании в Гомельской губ. 1923 г. Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 923. № 46. с. 41—45.

180. Зайцев, Д. П. Обобществление сельского хоз-ва в Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 44. с. 16—20.

181. Зайцев, Д. Осенняя пасевная компания 1924 года в нашей губернии. (Гомельской). Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 74. с. 24—27.

182. Зайцев, Д. Я. Подготовка к посевнай кампании в Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 65. с. 33—35.

183. Залинский, М. Основные пути торговли в нашей губернии. (Гомельской). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924 № 79. с. 75—77.

184. Заславский, П. Что думают и говорят рабочие. (Рабочие конференции в Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 926. № 8. с. 24—27.

185. Зенченко, С. Низовой советский аппарат. (Гомельский уезд). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 66. с. 52-53.

186. Зерницкий, М. Итоги пересмотра „внерядовиков". (Гомельск. губ.) Изв. ком. губ. К. РКП. 922. № 26. с. 6—8.

187. Зерницкий, М. Наши общества. (По материалам обследования их деятельности Губ. РКИ. (МОПР в Гомельской губ). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 14. с. 45—49.

188. Зискинд, В. Отдельные штрихи состояния сельского хозяйства (Гом. губ.)

и наши задачи в земельной работе. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 37. с. 7—11.

189. И. Б. Накануне Октября в Гомельщине (Материал эпохи корниловщины). Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 79. с. 45—48.

190. Иванов, А. В. Список дневных и сумеречных бабочек (в Гомельщине). Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та 926. т. III с. 44 50.

191. Ивин, И. Куда растет наша губернская промышленность (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 926. № 15-16. с. 85—87.

192. [ . . „Известия Гомельского губкома" в цифрах. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 82. с. 16—19.

193. [ . . Из постановлений Гомельской Контрольной Комиссии. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. №№, 27, 29, 35-36, 38; 1924. №№: 56, 60-65, 68-69, 72-77. Полесск. Коммунар. 926. № 5.

194. Из эпохи кануна 1-ой революции. (Прокламация Полесского Комитета РС-ДРП. изд. в марте 1904 г.). Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 83. с. 59-60.

195. Из эпохи кануна 1-ой революции. (Прокламация Полесского Комитета РС-ДРП. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 1. с. 87-88; № 2. с. 88-89.

196. И. К. Октябрь в нашей деревне (Из воспоминаний) (Могилевск. окр.). Полесск. Коммун. 925. № 20 (103). с. 27—29.

197. Ильинский. Стрекопытовский мятеж на фронте. (Доклад о мятеже частей 2-ой бригады 8-ой стрелковой дивизии). Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 922. № 24. с. 35—39.

198. [ . . Инструкция Гомельского Окружного От-ла Финансов по учету источников дохода сельского хоз-ва для обложения единым сел.-хоз, налогом на 1927-28 год. Гомель. 927. с. 47.

199. Иозефович. Отчет о работе Губполитпросвета. (За время с 8-9 Губпартконференции). (Гомель.) Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 31—32. с. 48—52.

200. Иофе, А. Краткий обзор состояния партийной работы в (Гомельской) губ. (за XI и XII 1921). Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 18. с. 12.

201. [ . . . Итоги работы. (По материалам информационного под·отдела Губкома). (Работа Гомельского Губкома с 20. III—20. VI.) Изв. Гом. Губ. К. 922. № 24. с. 25-26.

202. [ . . . Итоги работы по обследованию промышленности губернии (Гомельской) Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 52-53. с. 49-54.

203. Каган, Мотова, Ф. И. Воспоминания о революционной работе. (в Бобруйске и Гомеле. Конец 19 стол. — 1902 г.). Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 924. № 76. с. 74-75.

204. Каганович, М. К итогам III Гомельской губернской конференции профсоюзов. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 15. с. 3-4.

205. Каганский, И. Состояние совхозов по губернии и партработы в них. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 52-53. с. 85—88.

206. Каз. Достижения в еврейском сельском хозяйстве Гомельской губ. (Предварит. итоги сель-хоз. работы Гом. ОРТ за 10 месяцев: с 1. III. 1923—по 1. I. 1924). Изв. Гом. Губ. Ком. РКП. 924. № 62. с. 49—55.

207. Казарновский. Речицкая уездная организация РКП(б). (К началу марта 1923 г. по докладу инструктора губкома). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 43. с. 112—118.

208. Камаев. Производительность труда и зарплата в бумажной промышленности Гомельск. губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 78. с. 46—48.

209. Карасик. Важнейшие недостатки работы наших производственных ячеек. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 11. с. 25—29.

210. Карловский, И. Д. Политпросветработа в Гомельском уезде. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924 № 67. с. 70-71.

211. Каршук, М. Клюбны дзень у школах гор. Гомлю. (Дасьледчая школа пры Гомельскім Белпэдтэхнікуме. Асьвета. 928. № 1. с. 62—66.

212. Каршукоў, М. Пахаваньне стралы. (Гомельшчына). Этнографічны нарыс. Наш Край. 926. № 1 (4). с. 41-42.

213. К. Г. Як працуюць Мазыр і Гомель. (Па матар'ялах абсьледваньня). (Т-вы паляўнічых). Паляўнічы Бел. 928. № 1. с. 31-32.

214. К-ий, Д. Пути и перспективы еврейского землепользования в Гомельской губернии. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 80. с 128—132.

215. Клебанов, С. 1905 г. в Могилеве. Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 925. № 7. с. 65—68.

216. Клейнер. Иосиф. „Известия" за четыре года. (Гомельского Губкома). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 82. с. 23.

217. Клейнер, И. и Поляков, И. Печать губернии (Гомельской) до революции и теперь. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 8. с. 30—33

218. Knox, председ. К-та. Итоги работы с 20 января по 1-ое мая 1927 года. (Гомельского окружного Ком-та Красного Креста). Бюл. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу 927. № 3—6. с. 32-33.

219. Козлов, Ф. Совпартшколы за год. (Гомельская губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 71. с. 30—33.

220. Комская, Г. К губернскому совещанию по работе среди женщин. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 27. с. 5-6.

221. Кононович, К. Ю. Деятельность профилактического кружка при Гомельском союзе Медсантруд за 1925-26 г. Бел. Мэд. Думка. 927. № 1-2. с. 161—163.

222. Коровиков. Итоги 2-го губернского совещания по советскому строительству (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 6. с. 51-52.

223. Коровиков, Т. Итоги Пленума Губисполкома. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 11. с. 47-48.
224. Коровиков, Т. Как работают сельсоветы. (Гомельская губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 60-61. с. 65-68.
225. Коровиков. Лесное хоз-во в Гомельской губ. и порядок отпуска леса. Полесск. Коммунар. 925. № 18 (101). с. 63-65.
226. Коровиков, Т. Низовой советский аппарат за 7 лет. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 73. с. 82-83.
227. Королев. К вопросу о росте крестьянской активности. (Впечатления от перевыборных компаний). (Гомольск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 1. с. 69-70.
228. Костенко, А. Из истории Речицкой организации РКП. (Мои воспоминания). Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 922. № 27. с. 31—35.
229. Костенко, А-р. Из истории Речицкой организации РКП. Предоктябрьские дни в Речице (Материалы и воспоминания). Изв. Гом. Губ. Ком-та. РКП. 923. № 56. с. 71—76.
230. Кофман, И. Жизнь, быт и зарплата рабочих железнодорожников Гомельского уезда. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 15. с. 69—72.
231. Кофман, И. Работа Гомельского горрайкома. Отчет Гом. горрайкома 13-го созыва. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 63-64. с. 75—85.
№ 232. Кудинов, С. Сельско-хозяйственное образование в Гомельской губернии. Полесск. Коммунар. 925. № 17. с. 42—48.
233. Кулаго и Орлов. В зависимости от совокупных условий. (Проблема землеустройства и опыт Речицкаго уезда). Полесск. Коммунар. 925. № 21-22 (104) с. 115—118.
234. Куликова, Е. Приток и убыль в организации за июль м-ц. (чл. РКП Гомельской губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 52-53. с. 32-33.
235. Кунин, А. Мои воспоминания об „Известиях (Гомельск.) Губкома". Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 82. с. 22.
236. Куница, Я. Итоги работы ленинских кружков. (По отчетным материалам агитпропов укомов и райкомов). (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924, № 75. с. 17-18.
237. Ларин. Рабкоровское движение в губернии (Гомельской). Полесск. Коммунар. 926. № 18. с. 27—32.
238. Лашкевич. Воспоминания о днях гетманщины и июньской жел.-дорожной забастовке в 1918 г. (Гомель). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 51. с. 67—69.
239. Левин, Шолом. На заре рабочего движения в Гомеле (Воспоминания) (1890-1901 г. г.) Извест. Гом. Гоб. Ком-та РКП. 922. № 29. с. 33—35.
240. Левин, Ш. Первая попытка уличной майской демонстрации в Гомеле в 1901 году. Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 924. № 66. с. 76-77
241. Левин, А. Пошло под гору (среди нацмен. на предприятиях Новобелицы и уезда. Полесск. Коммун. 926. № 5. с. 56-57.
242. Левин, Шолом. Праздник 1 мая в начале революционного движения. (Воспоминання) (Гомель). Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 44. с. 59—62.
243. Левинзон, А. Итоги и перспективы развития с.-х. кооперации Гомельщины. Шлях Кээпэрац. 928. № 7. с. 21—24; № 8-9; с. 67—69.
244. Левинзон, А. Низовая сел.-хоз. кооперация в Гомельском и Речицком уездах. (По поводу статьи под этим заглавием Горегляда в № 71. „Известий Губкома") Изв. Гом. Губ. К РКП. 924. № 73. с. 41-42.
245. Левинзон, А. Сельско-хозяйственный кредит и его состояние в Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 68-69. с. 59—63.
246. Левинзон, А. Сельско-хоз. и кредитная кооперация в губернии (Гомельской). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 12. с. 19—22.
247. Левицкий, М. Заработная плата и интенсивность труда по крупной промышленности Гомельской Губ. Изв Гом. Губ. К. РКП. 923. № 49-50. с. 66—72.
248. Левицкий. Металлическая промышленность Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 5. с. 58—60.
249. Левицкий. Настоящее положение и ближайшее будущее нашей промышленности. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 67. с. 60—62.
250. Левицкий. Результаты компании по поднятию производительности труда. (В Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 6. с. 40—44.

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**
Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М.Касьпяровіч.**

# Кароткі каталёг выданьняў Беларускае Акадэміі Навук
## (б. Інст. Бел. Культ.).

| №№ | НАЗВЫ ВЫДАНЬНЯЎ | Цана Руб. | Цана Кап. |
|---|---|---|---|
| | **. Па Аддзелу Гуманітарных Навук.** | | |
| | Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук. | | |
| 1 | „ кн. 1-я. Гістарычна-Археолёгічны Зборнік т. I. 1927 г. | 3 | 75 |
| 2 | „ кн. 2-я. Працы Клясы Філёлёгіі т. I. 1928 г. . . | 4 | — |
| 3 | „ кн. 3-я. Працы Клясы Гісторыі т. II. 1928 г. . . | 3 | 50 |
| 4 | „ кн. 4-я. Працы Катэдры Этнографіі т. I, сш. 1. 1928 г. | 3 | — |
| 5 | „ кн. 5-я. Працы Катэдры Археолёгіі т. I. 1928 г. . | 3 | 50 |
| 6 | „ кн. 6-я. Працы Камісіі Гіст. Маст. т. I, сш. 1, 1928 г. | 3 | — |
| 7 | „ кн. 7-я. Працы Катэдры Сучаснага Права т. I 1929 г. | 3 | — |
| 8 | „ кн. 8-я. Працы Клясы Гісторыі т. III. 1929 г. . . | 4 | 50 |
| | Беларуская Навуковая Тэрмінолёгія (Слоўнікі вып. I—VI разышліся). | | |
| 9 | „ Вып. VII.—Музычная тэрмінолёгія. 1926 г. . | — | 40 |
| 10 | „ Вып. VIII.—Лясныя тэрміны 1926 г. . . | — | 80 |
| 11 | „ Вып. IX.—Анатомічныя назвы, Nomina anatomika вып. I. 1926 г. . . . . | 1 | 20 |
| 12 | „ Вып. X.—Тэрмінолёгія права 1926 г. . . | — | 75 |
| 13 | „ Вып. XI.—Тэрмінолёгія грамадазнаўства 1927 г. | — | 70 |
| 14 | „ Вып. XII.—Назовы жывёл 1927 г. . . | — | 60 |
| 15 | „ Вып. XIII.—Анатомічныя нозовы, Nomina anatomika вып. II. 1927 г. . . . . | 2 | — |
| 16 | „ Вып. XIV.—Матэматычная тэрмінолёгія 1927 г. | 1 | — |
| 17 | „ Вып. XV.—Граматычна - Лінгвістычная тэрмінолёгія 1927 г. . . . . . | — | 95 |
| 18 | „ Вып. XVI.—Глебазнаўчая тэрмінолёгія 1927 г. | — | 75 |
| 19 | „ Вып. XVII.—Бухгальт. тэрмінолёгія 1927 г. . | — | 75 |
| 20 | „ Вып. XVIII.—Хэмічная тэрмінолёгія ч. I 1928 г. | 2 | 25 |
| 21 | „ Вып. XIX.—С.-Гаспадарчая тэрмінол. 1928 г. | — | 80 |
| 22 | „ Вып. XX.—Анатомічныя назовы, Nomina anatomika вып. 1. . . . . . | 1 | 50 |
| 23 | Багдановіч Максім. Поўны Збор Твораў том. I. 1927 г. . | 2 | — |
| 24 | „ „ „ „ „ том II. 1928 г. . . | 2 | — |
| 25 | Беларускі Архіў. т. I. (Акты XVI-XVII ст.). 1927 г. . . . | 4 | — |
| 26 | „ „ т. II (Акты XV-XVI ст.). 1928. . . . | 4 | — |
| 27 | Бузук, П.—Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага і Вяліскага пав. 1926. . . . | — | 25 |
| 28 | Бузук, П.—Спроба Лінгвістычнай географіі Беларусі (з 20 картамі) 1928. . . . . . . . . . | 2 | 50 |
| 29 | Гарэцкі, М. і Ягораў. Народныя песьні з мэлёдыямі 1928. . | 5 | — |
| 30 | Некрашэвіч, С. і Бузук, П. Програма для вывучэньня беларускіх гаворак 1927. . . . . . . . | — | — |
| 31 | Полевой, А. О языке населения Новозыбковского у. Гом. г. 1926. | — | 50 |
| 32 | Працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі па рэформе Беларускага правапісу і азбукі ў 1926 г.—М. 1927. . . . . | 3 | 50 |

| №№ | НАЗВЫ ВЫДАНЬНЯЎ | Цана Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| 33 | Працы 1-га зьезду Дасьледчыкаў Беларускае археолёгіі і археографіі ў 1926 г. М. 1927. | 1 | 50 |
| 34 | Расторгуев, П.—Говоры восточных уездов Гом. г. 1926. | — | 25 |
| 35 | Расторгуев, П.—Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории Белорусских говоров. Лгр. 1927. | 3 | — |
| 36 | Соцыялістычны рух на Беларусі ў Проклямацыях 1905 г. 1927. | 2 | 20 |
| 37 | 1863 год на Меншчыне | 2 | — |
| 38 | Шатэрнік, М. Краёвы Слоўнік Чэрвеншчыны 1929. | 2 | 50 |
| 39 | Шлюбскі, А. Матар'ялы да вывучэньня фолькльору і мовы Віцебшчыны. ч. I. 1928. | 1 | 50 |
| 40 | Шлюбскі, А. Матар'ялы да вывучэньня фолькльору і мовы Віцебшчыны ч. II. 1928. | 2 | 75 |
| 41 | Шчакаціхін М.—Нарысы з гісторыі Белар. Мастацтва т. I. 1928. | 3 | — |
| 42 | Чатырохсотлецьце Беларускага друку (1525—1925) Юбілейны зборнік 1926. | 3 | — |
| 43 | Матар'ялы да Беларускае бібліографіі—Этнографія. Беларуская Этнографія ў досьледах і матар'ялах т. I. | 1 | 50 |
| 44 | Астрэйка, А.—Беларускі ткацкі орнамэнт 1929. | 2 | 50 |
| | **II. Па аддзелу Прыроды і Гаспадаркі.** | | |
| 45 | Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі т. I. 1928 г. | 3 | 50 |
| 46 | „ „ „ т. II. 1929 г. | 4 | — |
| 47 | Зборнік Асоцыяцыі Навуковае Працы кн. 1. 1926 г. | — | 80 |
| 48 | Матар'ялы да Географіі і Статыстыкі Беларусі т. I. 1927 г. | 4 | 50 |
| 49 | „ для геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэньня Беларусі т. 1. 1926. | 1 | 50 |
| 50 | Матар'ялы Мэдычнай Сэкцыі вып. I. 1927. | 1 | 20 |
| 51 | „ для вывучэньня флёры і фаўны Беларусі т. I, 1927 г. | 1 | 50 |
| 52 | „ „ „ „ „ „ т. II, 1928 г. | 3 | — |
| 53 | „ „ „ „ „ „ т. III, 1928 г. | 2 | — |
| 54 | „ „ „ „ „ „ т. VI, 1929 г. | 2 | — |
| 55 | Працы 1-е Ўсебеларускае глебазн. конфэрэнцыі (у 1924 г.) 1926 г. | 1 | 50 |
| 56 | Смоліч, А. Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі 1927. | 1 | 70 |
| 57 | Фядзюшын, А. Кароткая інструкцыя для зьбіраньня і аховы зоолёгічных колекцый. 1925. | — | 25 |
| 58 | Зборнік артыкулаў па этнографіі, антрополёгіі, нэрволёгіі, псыхотолёгіцы і навуковай організацыі працы і гісторыі мастацтва 1928. | 4 | 50 |
| | **III. Па Яўсэктару.** | | |
| 59 | Zeitschrift (צייטשריפט) т. I. 1926. | 4 | — |
| 60 | Zeitschrift (צייטשריפט) т. II-III 1928. | 5 | — |
| 61 | Rote Bläter (רויטע בלעטער) т. 1929. | 2 | 50 |
| 62 | Gold-Faden A. (א גאלדפאדען) 1926. | 1 | — |
| | **IV. Па Ц. Б. Краязнаўства.** | | |
| 63 | Асіпавіцкі раён Бабруйскае акругі. Вып. I 1928 г. | 2 | — |
| 64 | „ „ „ „ II. 1928 г. | — | 80 |
| 65 | Краязнаўства. Зборнік програм і інструкцый краязнаўчай працы Вып. I. 1929. | 1 | — |
| 66 | „Наш Край" часопіс ЦБК комплект—1925-1926 г. (№№ 1—15) | 4 | — |
| 67 | „ „ „ „ „ 1927 г. (№ 1 -12 | 4 | — |
| 68 | „ „ „ „ „ 1928 г. (№ 1—12 | 4 | — |
| 69 | „ „ „ „ „ 1929 г. (№ 1—12 | 4 | — |

Увага: Краязнаўчыя організацыі і паасобныя краязнаўцы за поўны комплект „Н. К." (1925—1929 г.) плацяць 13 руб.

Цэнтральны склад выданьняў БАН знаходзіцца пры Беларускай Акадэміі Навук (Менск, Ленінская 2/35). Па гэтаму адрэсу іх можна набыць асабіста, або выпісаць.

Выданьні БАН знаходзяцца і ў Кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва ў Менску і па іншых гарадох.